ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 34 (2613)
ПЯТНІЦА
25
жніўня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

50 год утварэння СССР

**Кожная сустрэча з новай кнігай радуе. Мінчане адразу зацікавіліся ўсесаюзнай перасоўнай выстаўкай кніг, прысвечанай 50-годдзю ўтварэння СССР. Выстаўка працуе ў Мінску пяты дзень. Яна знаёміць кнігалюбаў з дасягненнямі выдавецкай справы ў нашай краіне. Кожную мінуту ў Савецкім Саюзе з друкарскіх машын сыходзіць каля трох тысяч экземпляраў кніг, а ў сярэднім у дзень—чатыры мільёны. Акрамя цэнтральных выдавецтваў свае выданні на мовах народаў СССР паказваюць пятнаццаць братніх рэспублік. Экспануюцца лепшыя выданні, якія атрымалі дыпломы на ўсесаюзным конкурсе на лепшае мастацкае афармленне і паліграфічнае выкананне кніг. Сярод гэтых лепшых — трынаццаць кніг беларускіх выдавецтваў.**

Пра ўсесаюзную перасоўную выстаўку кніг чытайце на трэцяй старонцы.



Творы Леніна заўсёды выклікаюць цікавасць.


Першыя наведвальнікі выстаўкі.


Мастацкія рэдактары выдавецтва «Мастацкая літаратура» Л. Прагін, Г. Труханава і старшы інжынер Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку В. Навікоўская знаёмяцца з навінкамі літаратуры.


Творы рускіх мастакоў.

## *У Цэнтральным Камітэце КПСС*

# АБ МЕРАХ ПА ДАЛЕЙШАМУ РАЗВІЦЦЮ САВЕЦКАЙ КІНЕМАТАГРАФІІ

ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі». У ёй адзначаецца ўзросшае значэнне савецкай кінематаграфіі ў справе камуністычнага будаўніцтва, фарміраванні светапогляду, маральных перакананняў і эстэтычных густаў савецкіх людзей. За апошнія гады створаны рад фільмаў, у якіх працягнута работа над увасабленнем рэвалюцыйнай тэматыкі, паказана самаадданая барацьба працоўных мас за перамогу і ўмацаванне сацыялістычнага грамадскага ладу. На экраны выйшлі карціны, якія ярка і праўдзіва адлюстроўваюць сусветна-гістарычны подзвіг савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Заслужанае прызнанне гледачоў атрымалі некаторыя фільмы аб праблемах выхавання новага чалавека, а таксама асобныя экранізацыі выдатных твораў літаратуры.

У пастанове адзначаецца, што ў кінематаграфію прыйшло нямала маладых таленавітых рэжысёраў, сцэнарыстаў, аператараў, акцёраў.

Паспяхова развіваецца кінематаграфія ў саюзных рэспубліках. Расшыраецца вытворчая база кіно, расце кінасетка краіны. Штодзённа толькі ў кінатэатрах фільмы глядзяць больш за 13 мільёнаў гледачоў.

Разам з тым ЦК КПСС лічыць, што наяўныя магчымасці для развіцця савецкай кінематаграфіі выкарыстоўваюцца недастаткова актыўна, яе ўзровень яшчэ не адпавядае патрабаванням, пастаўленым XXIV з'ездам партыі.

На экран нярэдка выходзяць фільмы, якія не адпавядаюць ідэйна-эстэтычным крытэрыям савецкага мастацтва і ўзросшым запатрабаванням гледача. Кінематографу не хапае глыбіні ў мастацкім адлюстраванні важнейшых працэсаў сучаснасці. Не ўсё робіцца для таго, каб паказаць эканамічныя, грамадскія і культурныя пераўтварэнні, што ажыццяўляюцца савецкім народам пад кіраўніцтвам партыі, адлюстраваць важныя сацыяльныя змены, якія адбываюцца ў жыцці рабочага класа, калгаснага сялянства і інтэлігенцыі, барацьбу партыі і народа за арганічнае спалучэнне дасягненняў навукова-тэхнічнай рэвалюцыі з перавагамі сацыялістычнага ладу.

Не выкарыстоўваюцца ў поўнай меры магчымасці кінематографа для ўзмацнення інтэрнацыянальнага і патрыятычнага выхавання працоўных, для ўсебаковага адлюстравання працэсаў росквіту і збліжэння сацыялістычных нацый, умацавання брацкай дружбы народаў СССР.

Некаторым кінафільмам не хапае ідэйнай мэтанакіраванасці, дакладнага класавага падыходу да раскрыцця з'яў грамадскага жыцця. Замест праўдзівага паказу жыцця з пазіцый ленінскай партыйнасці ў такіх творах даецца павярхоўнае, аднабаковае, а іншы раз і няправільнае вытлумачэнне падзей і фактаў. Мелі месца спробы некрытычнага запазычвання прыёмаў зарубежнага кінематографа, чужых мастацтву сацыялістычнага рэалізму.

Многія кінематаграфісты не выкарыстоўваюць усяго багацця мастацкіх сродкаў для стварэння яркага вобраза нашага сучасніка, які жыве ва ўмовах развітага сацыялістычнага грамадства. На экране рэдка з'яўляюцца героі, якія захаплялі б цэласнасцю характару, чалавечай прывабнасцю, адданасцю камуністычным ідэалам. У той час перабольшаная ўвага ўдзяляецца персанажам, пазбаўленым глыбокіх грамадскіх інтарэсаў і цвёрдых маральных асноў.

Не атрымала належнага развіцця мастацкая кінапубліцыстыка. Амаль не ствараюцца фільмы па вострых ідэйна-палітычных пытаннях класавай барацьбы на міжнароднай арэне.

Мала выпускаецца захапляючых, мастацка паўнацэнных фільмаў для дзяцей і юнацтва, якія выхоўвалі б падрастаючае пакаленне на рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцыях савецкага народа, на прынцыпах камуністычнай маралі.

ЦК КПСС адзначыў, што Камітэт па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў СССР слаба ажыццяўляў дзяржаўнае кіраўніцтва развіццём кінамастацтва ў краіне, не забяспечыў мэтанакіраванай рэпертуарнай палітыкі, не праяўляў належнай патрабавальнасці, у шэрагу выпадкаў падыходзіў да ацэнкі выпускаемых фільмаў з заніжанымі ідэйна-мастацкімі крытэрыямі. Нярэдка ў вытворчасць прымаліся заведама непаўнацэнныя сцэнарыі, пастаноўка фільмаў даручалася рэжысёрам, якія не маюць неабходнай прафесіянальнай падрыхтоўкі. Не прымяняліся з належнай эфектыўнасцю меры маральнага і матэрыяльнага стымулявання для стварэння твораў высокай якасці.

Саюз кінематаграфістаў СССР не выкарыстоўвае ўсіх магчымасцей для павышэння ўзроўню савецкага кінамастацтва. Саюз павінен праяўляць пастаянныя клопаты аб ідэйна-эстэтычнай накіраванасці творчасці работнікаў кіно, з большай мерай адказнасці займацца праблемамі росту іх прафесіянальнага майстэрства, паглыбленага вывучэння імі жыцця.

У пастанове ЦК КПСС указваецца, што важнейшай задачай дзяржаўных органаў кінематаграфіі, творчых саюзаў, усіх кінаработнікаў краіны з'яўляецца далейшае ўсебаковае развіццё савецкай кінематаграфіі, павышэнне яе ідэйна-мастацкага ўзроўню, паглыбленне яе рэвалюцыйных традыцый, узмацненне ролі кіно ў камуністычным будаўніцтве, у духоўным жыцці грамадства.

Кінамастацтва заклікана актыўна садзейнічаць фарміраванню ў найшырэйшых мас марксісцка-ленінскага светапогляду, выхаванню людзей у духу беззапаветнай адданасці нашай шматнацыянальнай сацыялістычнай Радзіме, савецкага патрыятызму і сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, устанаўленню камуністычных маральных прынцыпаў, непрымірымых адносін да буржуазнай ідэалогіі і маралі, дробнабуржуазных перажыткаў, да ўсяго, што перашкаджае нашаму руху наперад. Ганаровы абавязак рэжысёраў, сцэнарыстаў, аператараў, акцёраў, усіх дзеячаў кіно, гаворыцца ў пастанове, — ствараць высокамастацкія разнастайныя па тэматыцы, жанрах і стылях кінатворы, якія развівалі б лепшыя традыцыі мастацтва сацыялістычнага рэалізму.

У савецкім мастацкім і дакументальным кіно павінны знаходзіць таленавітае адлюстраванне працэсы камуністычнага стварэння і выхавання новага чалавека, ажыццяўленне бессмяротных ленінскіх ідэй, гістарычныя поспехі ў сацыялістычным пераўтварэнні свету. У творах кіно трэба глыбока адлюстраваць гераічны шлях, пройдзены савецкім народам пад кіраўніцтвам КПСС, здзяйсненні сучаснага этапа камуністычнага будаўніцтва, няўхільнае ўмацаванне маральна-палітычнага адзінства нашага грамадства; больш увагі ўдзяляць паказу працы і подзвігаў савецкага чалавека, яго багатага ўнутранага свету, усталяванню ідэйных і маральных каштоўнасцей нашага грамадства, савецкага спосабу жыцця.

Сродкамі кіно неабходна раскрываць сутнасць і сэнс ленінскай нацыянальнай палітыкі, паказваць росквіт і збліжэнне савецкіх нацый і народнасцей, іх поспехі ў эканамічным, сацыяльным і культурным развіцці. Дастойнае месца павінны займаць тэмы дружбы народаў СССР, сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, барацьбы з праяўленнямі нацыянальнай абмежаванасці і забабонаў.

Важная задача кінематаграфістаў — актыўна ўплываць на ідэйна-маральнае станаўленне і ўсебаковае развіццё юных грамадзян нашай краіны, выхоўваць у іх высакародныя пачуцці любві да сацыялістычнай Радзімы, адданасці справе Камуністычнай партыі, непрымірымасці да ворагаў сацыялізму, сіл рэакцыі і агрэсіі. Ствараць паўнацэнныя творы, якія дапамагалі б фарміраванню пакаленняў людзей, здольных памнажыць заваёвы сацыялізму, гераічныя дасягненні партыі і народа, паспяхова будаваць камуністычнае грамадства.

Пярвічныя партыйныя арганізацыі прадпрыемстваў і ўстаноў кінематаграфіі павінны пастаянна клапаціцца аб росце ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню творчых кадраў, садзейнічаць развіццю крытыкі і самакрытыкі ў калектывах, павышаць адказнасць кожнага камуніста, які працуе ў кіно, за далейшае развіццё кінамастацтва.

Цэнтральны Камітэт КПСС абавязаў Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў СССР па кінематаграфіі (Дзяржкіно СССР) прыняць неабходныя меры да ліквідацыі недахопаў, адзначаных у гэтай пастанове, і забяспечыць узмацненне ідэйна-творчага і вытворчага кіраўніцтва кінастудыямі, кінапрадпрыемствамі, органамі кінафікацыі і пракату.

Падкрэсліўшы значэнне сцэнарыя як асновы твораў кінамастацтва, якая ў многім вызначае іх ідэйную і мастацкую каштоўнасць, ЦК КПСС прапанаваў Дзяржкіно СССР забяспечыць карэннае паляпшэнне сцэнарнай справы. З гэтай мэтай: увесці ў практыку перспектыўнае планаванне вытворчасці фільмаў, прадугледжваючы асноўныя тэматычныя напрамкі, жанравую разнастайнасць, а таксама найбольш мэтазгодную занятасць творчых работнікаў; прадаставіць Дзяржкіно СССР права штогод ажыццяўляць 15—20 дзяржаўных заказаў вядучым майстрам савецкага кіно з мэтай стварэння значных твораў, прысвечаных важнейшым праблемам сучаснасці і гераічнай гісторыі савецкага народа; стварыць цэнтральную сцэнарную студыю; больш актыўна прыцягваць для напісання сцэнарыяў таленавітых літаратараў, сістэматычна праводзіць сцэнарныя конкурсы, забяспечыць публікацыю лепшых твораў кінадраматургіі.

У пастанове змяшчаюцца ўказанні аб неабходнасці значнага развіцця кіно для дзяцей. Маецца на ўвазе, што Цэнтральная кінастудыя дзіцячых і юнацкіх фільмаў імя М. Горкага будзе ствараць у асноўным дзіцячыя фільмы, павялічыцца выпуск фільмаў для дзяцей на ўсіх кінастудыях краіны.

Дзяржкіно СССР сумесна з ЦК ВЛКСМ і Міністэрствам асветы СССР прапанавана распрацаваць перспектыўны план вытворчасці фільмаў для дзяцей.

ЦК КПСС даручыў Дзяржкіно СССР сумесна з адпаведнымі міністэрствамі і ведамствамі ажыццявіць меры, накіраваныя на больш актыўнае выкарыстанне навучальнага і навукова-папулярнага кіно ў справе падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў для народнай гаспадаркі, у фарміраванні матэрыялістычнага светапогляду савецкіх людзей, прапагандзе прыродазнаўча-навуковых і сацыяльна-эканамічных ведаў, перадавога вопыту. У адпаведнасці з праграмамі навучальных устаноў распрацаваць перспектыўныя тэматычныя планы выпуску навучальных фільмаў і методыку іх прымянення.

Пастановай прадугледжваецца ўдасканаленне арганізацыі кінавытворчасці і сістэмы матэрыяльнага стымулявання студый і работнікаў кіно, увядзенне дагаворных адносін паміж кінастудыямі і рэжысёрамі-пастаноўшчыкамі; забеспячэнне студый і кінасеткі краіны абсталяваннем і кінаплёнкай, якія адпавядалі б сучасным патрабаванням; паляпшэнне навукова-выхаваўчага працэсу ў навучальных установах кінематаграфіі, узмацненне ідэйна-палітычнай і прафесіянальнай падрыхтоўкі маладых работнікаў кіно, умацаванне іх сувязі з жыццём.

ЦК КПСС лічыць важнай задачай кінастудый стварэнне мастацкіх фільмаў па заказу тэлебачання.

ЦК КПСС рэкамендаваў Саюзу кінематаграфістаў СССР палепшыць выхаванне творчых кадраў, садзейнічаць павышэнню ў іх пачуцця адказнасці за сваю працу, накіроўваць увагу майстроў экрана на актуальныя праблемы камуністычнага будаўніцтва. Саюз кінематаграфістаў заклікаты, гаворыцца ў пастанове, сістэматычна абмяркоўваць карэнныя пытанні кінамастацтва, падтрымліваць усё сапраўды наватарскае, таленавітае, прынцыпова крытыкуючы няправільныя тэндэнцыі і слабыя творы.

ЦК КПСС абавязаў ЦК Кампартый саюзных рэспублік, крайкомы, абкомы, гаркомы КПСС палепшыць партыйнае кіраўніцтва дзейнасцю студый і кінаарганізацый, усямерна садзейнічаць паглыбленаму вывучэнню кінематаграфістамі працэсаў і з'яў савецкай рэчаіснасці, дабівацца няўхільнага ажыццяўлення рашэнняў партыі па пытаннях мастацкай творчасці.

Партыйныя камітэты павінны аказваць усямернае садзейнічанне работнікам кіно ў выкананні задач павышэння ідэйна-мастацкага ўзроўню савецкай кінематаграфіі.

# ГІМН МУЖНАСЦІ

Невялічкая па аб'ёме дакументальная аповесць «Вікторыя» вызначаецца перш за ўсё высокай эмацыянальнай напружанасцю ў паказе людзей, якія па той ці іншай прычыне засталіся ў акупіраваным нямецка-фашысцкімі захопнікамі Мінску і выявілі на справах, здавалася б, будзённых і невідочных, выключную мужнасць і адданасць Савецкай Радзіме.

Аўтары аповесці ўважліва прасочваюць жыццёвыя шляхі сваіх герояў — падпольшчыкаў Мінска.

Узорам для членаў падпольнай патрыятычнай групы ў Першай савецкай бальніцы Мінска (зараз 3-я савецкая бальніца) быў прафесар-хірург Клумаў. Стварыць вычарпальна поўны і ўсебаковы вобраз яго ў невялічкай аповесці вельмі цяжка і, бадай, немагчыма, тым больш, што не ўсе факты і эпізоды з жыцця прафесара ў акупіраваным горадзе нам вядомы. І ўсё ж аўтары дадаюць новыя штрыхі да партрэта...

Яшчэ да таго, як звязалі Клумава з падпольным партыйным цэнтрам, прафесар, які славіўся сваёй зычлівасцю і інтэлігентнасцю, нязменнай далікатнасцю, раптам аднойчы рэзка абсек сваю асістэнтку, урача Ярашэвіч, у адказ на яе заяву, быццам немцы захапілі Маскву.

— Гэта гаворыце вы, рускі чалавек? Як вам не сорамна!

А то неяк заходзіць у першыя месяцы вайны на кватэру да Клумава яго паплечнік урач Леанід Буйкевіч і бачыць на сцяне вялікую карту Савецкага Саюза, а на ёй чырвонымі сцяжкамі на шпільках абазначана лінія фронту. Адбываецца вельмі кароткі, але надзвычай характэрны дыялог:

— Як жа вы, прафесар, так? Гэта ж небяспечна.

— Нічога, галубчык, нічога. Я павінен ведаць, што робіцца на фронце. Без гэтага я і дня пражыць не магу. Вось цяпер і вы будзеце ведаць.

З гэтай прычыны Леанід Буйкевіч зазначае ва ўспамінах: «У яго была незвычайная на той час, калі многія сумняваліся і палі духам, незвычайная вера ў нашу перамогу. Верыць самому — гэта многа. Вярнуць веру яшчэ некаму — гэта значыць даць у строй яшчэ аднаго байца. І я таксама стаў выконваць заданні Клумава».

І вось па прапанове сувязной «Белкі» Клумаў, пра якога нямецка-фашысцкія прапагандысты трубяць на ўсе лады: «Савецкі прафесар служыць нямецкім уладам!», «Руская інтэлігенцыя выбірае новы парадак!», «Прафесар Клумаў з намі!» — ідзе на сустрэчу з падпольшчыкамі групы Ісая Казінца, атрымлівае сваё першае заданне — абсталяваць палявы шпіталь для партызанскага атрада, дамаўляецца аб яўках, паролях, сувязных. Тады ж падпольшчыкі, мабыць, не зусім тактоўна, спыталі Клумава:

— З кім вы, прафесар? З намі ці з немцамі?

— Што вы! Што вы, галубчыкі! Я — савецкі чалавек, — быў адказ. — Я і так раблю, што магу. Мы падлячылі ўжо шэсць раненых камандзіраў Чырвонай Арміі, толькі не ведаем, куды іх адправіць...

З таго дня былі два Клумавых. Быў прафесар Клумаў — свяціла навукі, лепшы спецыяліст па гінекалогіі і хірург. Да яго прыходзілі на кансультацыю фанабэрыстыя нямецкія ўрачы з ваенных шпіталяў, яго запрашалі да сваіх хворых чыноўнікаў з гарадской управы і іншых устаноў. Яго задобрывалі: «гер прафесар», «гер прафесар»... Яму, як высокі гонар, прапаноўвалі работу ў Германіі.

І быў Самарын (падпольная клічка Клумава) — падпольшчык, канспіратар, чалавек, які жыў, як кажуць, на вастрыі нажа. І аўтары пераканальна падаюць такія непрадбачаныя выпадкі, калі прафесар рызыкаваў жыццём.

Вось як адгукаюцца аб выключнай гуманнасці прафесара і яго надзвычайных клопатах пра чалавека сёстры і санітаркі:

«Прыслаў аднойчы мне кавалак сала... Навошта, прафесар? — пытаюся. — Нічога, душачка, нічога. Вы за апошні час вельмі схуднелі, адкарміцеся трохі».

«Заплаціў сваімі грашыма за маю аперацыю...»

«Сабраў усіх нас, з роднымі, у бальніцы, некалькі палат спецыяльна вызваліў, калі ў горадзе ішлі масавыя арышты і расстрэлы пасля забойства Кубэ».

І вось замкнуўся апошні жыццёвы круг. Пасля двух кароткачасовых арыштаў Клумава кінулі ў канцэнтрацыйны лагер на вуліцы Шырокай. Ды ён і тут, над бяздоннем, праявіў нязломнасць духу, трымаў сябе горда і незалежна. Такая магутная сіла ішла ад гэтага чалавека, такая была дадзена яму духоўная ўлада над людзьмі, што нават звяруга - камендант, які сваімі рукамі ўдарыў галавой груднoе дзіця аб сцяну, размаўляў з ім калі не пачціва, то ўсё ж стрымана.

А як хвалююць старонкі, у якіх расказваецца пра апошнія дні жыцця галоўнага героя! Перад тым, як загінуць, як увайсці ў пашчу фашысцкай душагубкі — а гэта было 13 лютага 1944 года — прафесар з непахіснай вытрымкай заявіў перад строем зняволеных:

— Бывайце, таварышы! Я зрабіў усё, што было ў маіх сілах, і з гонарам прымаю смерць на сваёй роднай зямлі.

Такім быў гэты чалавек, Герой Савецкага Саюза Яўген Уладзіміравіч Клумаў.

Аўтары праўдзіва і пераканальна, з добрым веданнем абставін жыцця ў акупіраваным горадзе апавядаюць пра мужныя ўчынкі і самаадданае служэнне сваёй маці-Радзіме сапраўдных савецкіх патрыётак Вікторыі Фёдараўны Рубец, Людмілы Міхайлаўны Кашычкінай, «Фросі-Фросечкі» Калбеевай, Веры Міхайлаўны Гурыновіч, Ганны Мохавай, Ганны Навіцкай, Марыі Ермачонак і многіх-многіх іншых. Сярод адданых савецкіх патрыётаў, паказаных у аповесці, мы сустракаем прафесара-фізіка Мінскага медінстытута Уладзіміра Анісімава, мастака Івана Казлова, Віталія Арэхава і іншых. Усе гэтыя савецкія патрыёты і патрыёткі кожны на сваім месцы рабілі ўсё, каб фашысты і іх мясцовыя паслугачы не мелі спакою ні ўдзень, ні ўночы.

Кніга «Вікторыя» — яшчэ адна яркая старонка з кнігі подзвігаў савецкага народа, старонка, на якой раскрываецца веліч і нязломнасць духу народа-пераможцы. Вылучаная нядаўна на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР, кніга, на мой погляд, заслугоўвае гэтай высокай узнагароды.

В. КРЫШТАЛЬ.

---

А. Ус, А. Уладзімірава. «Вікторыя». Дакументальная аповесць. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1971.

# ІВАН КІЧКАЙЛА ЦЕРПІЦЬ КРАХ...

## ЗАСЛУЖАНЫ АРТЫСТ БССР П. КАРМУНІН У СПЕКТАКЛІ АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ Я. КУПАЛЫ «АМНІСТЫЯ»

Адмаўляючы, сцвярджаць... Так я разумею задачу і мэту акцёра, які дзейнічае ў сатырычнай камедыі. І пацвярджэнне гэтай думкі — работа П. Кармуніна ў «Амністыі», дзе ён выконвае ролю старшыні фабкома Кічкайлы. Высмейваючы беспрынцыповасць, бесхрыбетнасць, мяккацеласць, П. Кармунін па-майстэрску пераконвае нас, што адсутнасць жыццёвых ідэалаў, яснай пазіцыі толькі на час можа стварыць уражанне, што ўсё ідзе добра, а на самай справе яна, гэтая адсутнасць пазіцыі, — тая палка з двума канцамі, якая без промаху ўдарыць па табе самім. Спрошчана зразумелая «дабрыня» як паблажлівасць і ўседаравальнасць якраз і не служыць «дабрыні», не можа быць сапраўды гуманнай, хоць і кіруецца чалавекалюбівымі матывамі. І П. Кармунін, на мой погляд, паказвае, як такі «носьбіт» абстрактнай «дабрыні» здраджвае праўдзе, спадзеючыся, што без яе можна абысціся. У такім адчуванні ролі ў «Амністыі» акцёр, развенчваючы свайго героя, нясе выразную думку. Гэта — грамадзянскі пафас выступлення П. Кармуніна ў спектаклі.



Сцэна са спектакля «Амністыя». У ролі Кічкайлы (справа) заслужаны артыст БССР П. Кармунін, Салавейчыка — народны артыст БССР В. Тарасаў.

**Першы раз мы сустракаемся з прафсаюзным дзеячом фабрычнага маштабу Кічкайлам, калі ён старшынствуе на таварыскім судзе над Салавейчыкам. Кічкайла разумее, што суд ідзе несправядліва. Але ён дзейнічае ўсур'ёз, каб не парушыць атмасферы, створанай энергічнай Бажашуткавай, дэмагогія якой літаральна палохае героя П. Кармуніна. І артыст гэта добра адцяняе: надта ж «прыгожыя» словы спявае Бажашуткава! І з'яўляецца ў Кічкайлы адно жаданне — «абы ціха». Так гэты «ўвогуле» добры чалавек (такім мы адчуваем Кічкайлу ў выкананні Кармуніна) на нашых вачах адкрыта ідзе на кампраміс з сумленнем. Але там, дзе пануе беспрынцыповасць, ціха не бывае, і вось ужо Кічкайла выпісвае ў блакноцік думкі вялікіх людзей, каб потым, на дні нараджэння Салавейчыка, зачытваць іх як тосты, п'е за здароўе Салавейчыка, хоць яму і нельга «браць чарку» з-за хваробы, і нават, пераапрануўшыся цыганом, скача з нажом у зубах, каб забавіць гэтага «траянскага жарабца».**

Сцэна вечарынкі ў Салавейчыка і пастаўлена рэжысёрам Ц. Кандрашовым, і сыграна З. Браварскай, Б. Дакальскай, В. Тарасавым і П. Кармунінам бліскуча. Салавейчык — Тарасаў сваімі паводзінамі вымушае прадстаўнікоў фабрыкі цацак раскрывацца зусім нечакана і для іх саміх. Асабліва яркі гэты (я назвала б яго канцэртна сыграным) нумар: Іван Кічкайла, адкідаючы ўсе ўнутраныя «перашкоды» і медыцынскія «табу», з захапленнем скача; яму нават падабаецца, што ён здолеў больш за Бажашуткаву пацешыць гаспадара, Грышу Салавейчыка.

А які маляўнічы ў сваім страху перад таямнічым для яго і «ўсемагутным» рэвізорам кармунінскі Кічкайла! Там ён дагаджаў прайдзісвету Салавейчыку, тут намагаецца дагадзіць «аб'ектыўнай» Ягадцы, не разумеючы, ці яна сапраўды хоча ведаць праўду, ці гэта звычайная жаночая цікаўнасць. Але рашае і на гэты раз паказаць сябе ў поўным бляску. І зноў жа скача «цыганачку». Колькі надзеі і насцярожанасці ў яго вачах, калі ён чакае, што ж скажа Ягадка! Артыст нібы ставіць свайго героя перад суддзёй, ад якога залежыць лёс Кічкайлы. І пачуўшы нечаканую выснову, што ён, Іван Кічкайла, такімі скокамі «скажае вобраз савецкага цыгана», канчаткова губляецца. І тут не дагадзіў, а як стараўся!..

**Дэградацыю асобы Кармунін паказвае таксама пераканальна, як і расплату, якая немінуча ідзе за ёй. Калі ж Салавейчык, перайшоўшы ў наступленне, сеў усім на шыю, Кічкайла, знясілены, нікчэмны, разгублены бачыць для сябе адзінае выйсце: «Я патрабую пасадзіць мяне ў турму!.. Толькі турма можа выратаваць мяне ад вар'яцкага дома». Артыст стварае не карыкатурны, а жывы характар, і таму нам нават шкада яго Кічкайлу. І ў той жа час крыўдна за чалавека, якога давяла да такога стану беспрынцыповасць.**

Кічкайла — толькі адна з работ артыста П. Кармуніна, якога мы любім, ад якога заўсёды чакаем мастацкіх адкрыццяў і які нас ніколі не падводзіць. Думаецца, што не толькі мне, але і многім паклоннікам таленту Паўла Кармуніна было б прыемна павіншаваць яго з высокай прэміяй.

Ірына СІТНІКАВА,
архітэктар «Мінскпраекта».

# КНІГІ, ЯКІЯ ВУЧАЦЬ ЖЫЦЬ

Гадоў дзесяць назад я купіла новы двухтомнік Янкі Маўра ў бэзавай вокладцы і, адшукаўшы аўтара, пачціва папрасіла ў яго аўтограф. Гэты двухтомнік і зараз перада мной, і я быццам бачу сівога масцітага аўтара з яго ўважлівым добрым позіркам з-пад акуляраў...

Якраз у двухтомніку змешчаны творы: «Чалавек ідзе», «У краіне райскай птушкі», «Сын вады», «Шлях з цемры», «ТВТ», «Палескія рабінзоны», «Амок», якія зараз вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі.

Нельга ўявіць беларускую дзіцячую літаратуру без гэтых твораў. Няма ў нас чалавека, які б не чытаў у дзяцінстве ці ў юначыя, а то і зусім у дарослыя гады кніг Я. Маўра. І калі мы звычайна гаворым пра ўплыў мастацкай літаратуры на фармаванне асобы чалавека, то, на маю думку, творы Янкі Маўра — вельмі ўплывовыя.

Помню, як некалі мы, меншыя вучні местачковай Ушацкай школы, зачытваліся кніжкамі «У краіне райскай птушкі» і «ТВТ». Было настолькі цікава, што хацелася, як заўважыў калісьці М. Горкі, разглядаць старонкі на святло, каб зразумець Цуд Кнігі. Мудры пісьменнік-педагог яскрава, даступна і проста расказваў, напрыклад, пра жыццё бедных тубыльцаў Новай Гвінеі. І мы не толькі захапляліся хараством далёкай зямлі, але і сэрцам паўставалі супраць прыгнёту паноў-каланізатараў... Другі прыклад. Таямнічыя літары «ТВТ». Яны скіроўвалі ўвагу да сваіх, нібыта невялікіх маштабамі, але па-грамадску важных спраў. Мы ўсе рабіліся тэвэтэўцамі, шукалі занятку сваім рукам і, як хлопчыкі і дзяўчынкі ў «ТВТ», пераконваліся на практыцы, што самі можам зрабіць шмат чаго, што робяць за нас іншыя. І прывучаліся, урэшце, не баяцца задач як малых, так і большых. А хіба не гэтыя рысы і павінны былі выхоўваць у сабе маладыя гаспадары Краіны Саветаў!..

Янка Маўр палaніў сэрцы юных чытачоў сваімі прыгодніцкімі творамі, і мы з любоўю называем яго беларускім Жулем Вернам. Чароўныя старонкі яго аповесцяў і апавяданняў вядуць нас у краіны далёкія, экзатычныя. Але паказ экзотыкі для Маўра — не галоўная мэта. Звычайна ён малюе вобразы людзей, зняволеных гаспадароў экзатычных краін, — іх прывабнасць, умельства, сілу, іх цярплівасць — і зараджэнне ў іх душах пратэсту супраць несправядлівасці. Хіба не жыве ў нашай памяці цудоўны юнак Манг з кнігі «Сын вады»! Хіба не плакалі мы над горкай доляй чорнага хлопчыка Тубі з вострава Цэйлон!..

І калі задача дзіцячай літаратуры — выхаванне інтэрнацыяналізму, дык гэтай задачы цалкам адпавядае творчасць Янкі Маўра. Людзі шмат якіх нацый і народнасцей дзейнічаюць у яго кнігах супольна ў барацьбе з сіламі стыхіі, з сацыяльным злом. Пісьменнік чула выхоўвае юнага чытача ў духу гуманнасці і павагі да простых людзей розных краін свету.

Але хараство далёкіх мораў і земляў не адцягвала ўвагі пісьмен-

## АД УСЁЙ ДУШЫ — ЗА!

З задавальненнем я даведаўся, што мой любімы пісьменнік Янка Маўр вылучаны на атрыманне ганаровага звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне літаратуры і мастацтва для дзяцей. Кнігі Маўра любяць усе чытачы — ад малога да старога. Напісаныя нават многа гадоў назад, творы яго не старэюць. Яны сугучны падзеям сучаснасці. Прыгадаем, да прыкладу, як бязлітасна выкрывае Я. Маўр каланізатараў-прыгнятальнікаў аповесцю «У краіне райскай птушкі», як трапна даводзіць шкодную ролю рэлігіі аповесцю «Чалавек ідзе», як яскрава малюе паўстанне на востраве Ява і салідарнасць народаў у барацьбе за свае ідэалы ў рамане «Амок».

Але больш за ўсё я люблю аповесць «Палескія рабінзоны», дзе з такім замілаваннем малюе аўтар прыроду беларускага Палесся і характары людзей новага, савецкага часу. Неяк па-новаму потым убачыў я красу роднага краю.

У твораў Маўра доўгае жыццё. Імі зачытваецца не адно пакаленне, і з кожным годам да іх далучаюцца новыя і новыя захопленыя чытачы. Таму я ад усёй душы галасую за прысуджэнне Дзяржаўнай прэміі БССР любімаму пісьменніку чытачоў усіх узростаў — Янку Маўру.

**П. СІЛІВОНЧЫК.**

Пухавіцкі раён.

## І ЎСЁ Ж ПАЎТАРЭННЕ...

Абмеркаванне твораў, вылучаных сёлета на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР, даволі цікавае, у прыватнасці, на старонках «ЛіМа», дзе маю ўвагу прыцягнуў водгук Е. Бондаравай на фільм «Паланез Агінскага». Нельга не пагадзіцца з аўтарам нататкі «Звяртаючыся да юнацтва...» («ЛіМ» за 11 жніўня г. г.), што стваральнікі карціны К. Губарэвіч і Л. Голуб ставілі перад сабой высакародную мэту — выхоўваць у юных гледачоў пачуццё патрыятызму. Відаць, справядліва будзе сказаць, што фільм знайшоў сваю аўдыторыю, што ён не пакідае абыякавымі тых, хто сядзіць у зале. Аўтары, на мой погляд, пабудавалі востры сюжэт, умеюць захапіць юных гледачоў, а гэта мае надзвычай вялікае значэнне для дзіцячага фільма.

**Даўно вядома, што рэжысёр Л. Голуб удала выбірае падлеткаў для выканання галоўных роляў. І на гэты раз можна лічыць добрай знаходкай рэжысёра Ільюшу Цукера, які іграе ролю Васілька. Звычайна цікава выступаюць у фільмах Л. Голуба і дарослыя акцёры. Карціна, безумоўна, мае права заняць сваё месца ў шэрагу лепшых мастацкіх стужак «Беларусьфільма». Але ў дадзеным выпадку гутарка ідзе аб прысуджэнні яму Дзяржаўнай прэміі БССР.**

Для нас, гледачоў, гэты факт ужо сам па сабе з'яўляецца і пэўным прызнаннем мастацкай дасканаласці сапраўды арыгінальнага твора, новага слова ў галіне кінематаграфіі. Мяркуецца, што фільм, адзначаны такой прэміяй, не толькі «добры» і «патрэбны», ён — выдатны па ўсіх кампанентах. Ад сцэнарыя да мантажу, ад аператарскай работы да піратэхнікі. Ці адпавядае такім высокім і натуральным пры абмеркаванні твораў, вылучаных на прэмію, патрабаванням стужка «Паланез Агінскага»?

Мяне некалькі здзіўляе пазіцыя Е. Бондаравай, якая «галасуе» за прэмію і ў той жа час робіць вельмі сур'ёзныя і зусім слушныя закіды ў адрас карціны. Так, і мне здаецца, што калі «героям фільма нестае псіхалагічнай глыбіні», як сцвярджае Е. Бондарава, то гаварыць пра мастацкую дасканаласць немагчыма. Што такое «нестае псіхалагічнай глыбіні»? Гэта значыць, недастаткова распрацаваны чалавечыя характары, неглыбока матываваны паводзіны герояў, павярхоўна раскрыты адносіны паміж людзьмі. У такіх выпадках выратоўвае займальны сюжэт.

Як настаўніца, магу смела сцвярджаць, што сённяшнія дзеці могуць разабрацца ў складаных сітуацыях, псіхалагічных сутыкненнях. Яны чакаюць ад фільмаў не толькі захапляльнай інтрыгі, але і спажывы для розуму. Нездарма так палюбілася школьнікам вельмі простая па сюжэце, але з цікавымі характарамі стужка «Звоняць, адчыніце дзверы».

**Не магу пагадзіцца з Е. Бондаравай і ў тым, што «Паланез Агінскага» не паўтарэнне ўжо скарыстаных К. Губарэвічам і Л. Голубам сітуацый і персанажаў, а працяг размовы. Працяг, на маю думку, толькі тады мае права на жыццё, калі ён ідзе на больш высокім мастацкім узроўні і адкрывае ў знаёмым раней нязведанае. Інакш гэта не працяг, а ўсё ж паўтарэнне. Наўрад ці можна лічыць, што стужка «Паланез Агінскага» вышэй па сваіх мастацкіх якасцях, чым, скажам, «Дзяўчынка шукае бацьку» тых жа аўтараў.**

Плённасць супрацоўніцтва драматурга К. Губарэвіча і рэжысёра Л. Голуба відавочная. Хацелася б, каб яны ішлі ў сваіх творчых пошуках далей і далей і стварылі б этапны для беларускай кінематаграфіі фільм, які без усякіх «але» заслугоўваў бы высокай узнагароды.

**Нона МОЎЧАН,**
настаўніца.

Мінск.

ніка ад хараства роднай зямлі беларускай. Гэтаму сведчанне — першы ў нашай мастацкай літаратуры краязнаўчы твор «Палескія рабінзоны». Прыгоды хлопцаў Мірона і Віктара, якія воляй выпадку сталі рабінзонамі на Палессі, захапляюць чытача. Пісьменнік змяшчае сваіх герояў у такія абставіны, дзе яны павінны паказаць сябе або людзьмі, або палахлівымі нікчэмнасцямі. Перамагаюць воля, знаходлівасць, веды. Перамагае сяброўства, узаемадапамога. Многаму вучаць трывожныя старонкі пра вызваленне камандзіра пагранічнікаў і арышт бандытаў. Не забудзем, што кніга пра лясных рабінзонаў была напісана ў трыццатыя гады, і яе, безумоўна, чыталі паплечнікі Мірона і Віктара — тыя, каму давялося пазней, у грозныя саракавыя, стацьляснымі салдатамі ў знаёмых нават па кнізе палескіх мясцінах... Пісьменнік вучыць патрыятызму, смеласці, вынослівасці.

Творам Я. Маўра ўласціва пазнавальнасць, займальнасць, драматызм. Удала спалучаюцца ў іх прыгодніцтва і псіхалагізм. Напісаны творы сакавітаю, чыстаю мовай, аздоблены непаўторным маўраўскім гумарам...

Творы Я. Маўра, што вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі, вытрымалі праверку часам. І сённяшнія школьнікі, як некалі мы, з цікавасцю чытаюць кнігі выдатнага дзіцячага пісьменніка. Я спытала неяк у сына, калі той ляжаў у бальніцы, якія кнігі яму прынесці. Ён папрасіў: «Купі «Палескія рабінзоны»!» Я занесла двухтомнік з аўтографам...

І апошняе ў гэтай кароткай нататцы.

Пры жыцці Янкі Маўра творы для дзяцей на атрыманне прэміі не вылучаліся. І вельмі справядліва, што сёння яго імя значыцца ў спісе! Будзе справядліва, калі прачытаем яго і ў спісе лаўрэатаў.

**Еўдакія ЛОСЬ.**

## Паэтычная паверка

Станіслаў ШУШКЕВІЧ



### НЕ ПАДГАНЯЙ МЯНЕ, СУРОВЫ КАЛЯНДАР

Не падганяй мяне, суровы каляндар!
Старэць не ўмею, а душой я маладзею.
Мяне ўздымаюць крылы светлых мар,
У сілу іх не страціў я надзею.
З вышыняў глянуць прагну на Зямлю,
Падобную да казачнага дыску,
На крапельку на ёй, якую так люблю,
Краіну Беларусь — маю калыску.

### НА КУРГАНЕ БЯССМЕРЦЯ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Я жменьку чорнае зямлі
На твой курган прынёс,
Яна крывёй акраплена
Маіх бацькоў і продкаў.
Няхай расце Курган
Да сонечных нябёс,
Няхай жыццё шуміць
Імкліваю паводкай.

А на зямліцы чорнай,
Роднай для мяне,
Узыдзе кветка простая
У дзень вясны ласкавы.
Няхай яе злы вецер
Не кране,
Яна — ў вянок бяссмерця,
Вечнай славы.

### РАЗЬБЯР

*Прысвячаю В. А.*

Парыў твой творчы быў падобен шторму,
Прачнуўся талент смелы разьбяра.
І дрэва ажыло і набывала форму,
І трэскі пырскалі, і падала кара.
Калі ж адкінуў вострую сякеру
І да разца кранууся стомленай рукой,
Ты сам цяпер у моц сваю не верыў,
Цябе асіліў страшны непакой.
У пошуках прайшло імклівых дзён нямала,
Ты працаваў, тварыў, настойліва вяршыў,
Ды ў творы пэўнай рысы нехапала,
Была задума, не было душы.
Ты не знаходзіў рысы самай простай,
Якую мае кожны мужны твар,
Дае арліную герою постаць,
Дае душы яго няспынны жар.
Калі ж пабеліць снег кудзёрыстыя скроні,
Тады, праз доўгі час, пазнаеш ты,
Што трэба страшнае пераступіць бяздонне
Да самай блізкай і праўдзівай прастаты.



Званне «народны» прысвоена вакальнаму ансамблю з вёскі Бершты Шчучынскага раёна. У складзе ансамбля людзі розных прафесій — аграном Галіна Кузьмінічна Жук, тэхнічка сярэдняй школы Ларыса Лук'янаўна Лебядзевіч, медработнік Валянціна Уладзіміраўна Мышкевіч, настаўніца Таццяна Уладзіміраўна Русілка. Усіх іх аб'ядноўвае вялікая любоў да беларускай народнай песні. Берштаўскія спявачкі выступалі на сцэнах Гродна, Мінска, Масквы.

На здымку — народны ансамбль з Бершты.

Фота А. ПЕРАХОДА. (БЕЛТА).

# МУДРЫ, СПРАВЯДЛІВЫ

Мікола БАЗАРЭВІЧ

ЯКУБ КОЛАС, як чулы і патрабавальны настаўнік, на працягу ўсяго свайго жыцця з вялікай прыхільнасцю і паўсядзённай увагай ставіўся да творчасці кожнага пісьменніка, кожнага пачаткоўца. У здольнай, таленавітай моладзі ён бачыў будучыню нашай літаратуры і заўсёды падтрымліваў яе сваімі мудрымі бацькоўскімі парадамі. Многія з нашых пісьменнікаў шчыра ўдзячны Коласу за тое, што ён увёў іх у вялікую літаратуру.

Вядомы беларускі байкапісец Уладзімір Корбан заўсёды гаварыў, што дзякуючы неаслабнай увазе і падтрымцы Якуба Коласа ён стаў пісьменнікам. А што гэта так, сведчаць і адрасаваныя яму два лісты народнага песняра, якія зараз беражліва захоўваюцца ў Літаратурным музеі Якуба Коласа.

У першым лісце ад 3 сакавіка 1946 года, які быў пасланы яму на вайсковую службу, паэт пісаў:

«Уважаемый товарищ!

Прочел я Ваши стихи. В общем они произвели на меня хорошее впечатление. Тема очень актуальна в нынешние дни. В стихах чувствуется сильный протест возмущенной человеческой души против немецких убийц и мракобесов. Детально остановиться на Ваших стихах я не мог за недостатком времени. Конечно, они нуждаются в более тщательной обработке стиха, отдельных образов, выражений. Стихи написаны под влиянием Маяковского, но это влияние, пожалуй, сказывается с внешней стороны.

Во всяком случае Вам, кажется мне, стоит поработать в этой области. Желаю успехов.

Якуб Колас».

Другі ліст ад 13 студзеня 1948 года быў пасланы Уладзіміру Корбану ў Оршу на завод «Красный Октябрь». Вось яго змест:

«Дорогой товарищ!

Простите, что задержался с ответом. Я был очень серьезно болен—два раза переболел воспалением легких. Ваши стихи не успел внимательно прочесть. Бегло лишь прочел «Отпуск лейтенанта». Первое впечатление — стихотворение неплохое. Его все же надо пошлифовать. Затем надо более обоснованно показать желание лейтенанта остаться на военной службе. Что у него нет родных, это не значит, что он не найдет себе места в семье советских тружеников-патриотов.

Завтра уезжаю в Москву.

Более подробно напишу по приезде.

Желаю успехов.

Якуб Колас».



Якуб Колас. 1953 г.

З усіх канцоў Савецкага Саюза яму кожны дзень прысылалі шмат лістоў пачаткоўцы — паэты і празаікі. Яны часта завітвалі да яго дамоў, прасілі добразычлівай парады і падтрымкі. Нягледзячы на выключную паўсядзённую занятасць, нават хворы, Канстанцін Міхайлавіч заўсёды знаходзіў час удзяліць максімум увагі літаратурнай моладзі, рэгулярна даваў грунтоўныя адказы на іх пісьмы, выказваў справядлівыя заўвагі аб іх творах. Пры ацэнцы твораў і пачаткоўцаў і пісьменнікаў з некаторым літаратурным вопытам, ён прытрымліваўся і заклікаў іншых прытрымлівацца такога правіла: «Выказвацца аб творах неабходна строга, але добразычліва, падбадзёрваючы, але без даравання грахоў».

Прывядзем некалькі яго лістоў, дасюль невядомых ці мала вядомых шырокаму колу чытачоў, якія былі напісаны ім пасля Вялікай Айчыннай вайны некаторым пачаткоўцам — паэтам і празаікам — і напоўненыя вялікім клопатам аб развіцці нашай літаратуры, аб выяўленні новых, арыгінальных талентаў з народных глыбінь.

Вось, напрыклад, што ён пісаў пачынаючаму паэту Кучынскаму:

«Таварыш Кучынскі!*

Вы пішаце: «Я не знаю тэм, патрэбных для сучаснасці». Але, здаецца, па ўзросту Вы чалавек малады і цяжка думаць, што Вам вядомы якія-небудзь другія тэмы, апрача сучасных. Вось і папрабуйце пісаць кароткія вершы аб тым, што Вы бачыце наўкол сябе — у вашай вёсцы ці калгасе. Палявыя работы — сяўба, касьба, лепшыя людзі, перадавікі, майстры высокіх ураджаяў — усё гэта Вам павінна быць вядома. За гэта і бярыцеся. «Выпускаць у свет», як Вы хочаце, сшытак «Зімовымі вечарамі» яшчэ ранавата. Мала зарыфмаваць радкі, — трэба напоўніць іх зместам, у іх павінна быць думка і пачуццё. Справа гэта не вельмі лёгкая і пакуль што Вам не ўдаецца. Вось глядзіце самі:

Хоць огонь горит, нет места на
прохладу,
Прости однако мне, безумного
глупца.

Што Вы тут хацелі сказаць? Незразумела. Можа таму, што кепска ведаеце мову, а дасканалае веданне яе для пісьменніка зусім абавязкова.

Яшчэ адно. Відаць, Вы чыталі і Пушкіна, і Лермантава, і другіх паэтаў. Трэба старацца пісаць так проста і праўдзіва, як гэтыя вялікія паэты. Але карыстацца гатовымі вобразамі і зваротамі з прачытаных твораў няможна — яны Вам не належаць. А Ваш верш «Зімовы вечар» гэта бадай літаральна перапісакае «Буря мглою небо кроет».

У Вашых справах можа дапамагчы кансультацыя Саюза пісьменнікаў: яна дае адказы і парады маладым аўтарам...

Жадаю Вам поспехаў.

Якуб Колас».

* Дакладная дата ліста не ўстаноўлена.

Вялікую цікавасць уяўляе сабою ліст народнага паэта ад 10 лютага 1946 года, адрасаваны Юдаловічу, які ў той час працаваў у рэдакцыі газеты «Гродзенская праўда»:

«Дорогой товарищ!

Я очень прошу извинить меня за такое долгое молчание. Но я, право, не имел возможности написать Вам вовремя. Всех Ваших стихов прочесть я не мог. Мне столько прислали писем, что подолгу останавливаться на них нет физической возможности. Ваши стихи производят на меня отличное впечатление своей простотой и искренностью человеческого чувства. Очень мило стихотворение «Из блокнота...» В некоторых Ваших стихах замечается недостаточная отделка отдельных строк. Например, в стих(отворении) «В дороге»: **«Зимня** ночь темна». Такого краткого окончания данного слова русский язык не допускает. Эту строку лучше было бы исправить так: «Ночь темна-темна». В стих(отворении) «Белорусская весна» в конце четвёртой строфы у Вас написано: «На твоей, **Белорусья,** земле». Нехорошо звучит «Белорусья».

Какой же дать Вам совет по поводу Вашего сборника? Лучшим кажется мне вот что. Просмотрите хорошенько Ваш сборник, м(ожет) б(ыть) кое-что выбросите, кое-что добавите и пришлете в Минск по адресу Союза писателей на имя Ефима Садовского. У нас имеется секция русских поэтов. Вам надо поближе стать к ним, связаться с ними.

Работайте, пишите.

Желаю успехов.

P. S. В стихотв(орении) «Песня о встрече» надо выбросить две строчки:

**Ярко зеленеет**
**Озимь на полях.**

В одном стихотворении, кажется Плещеева, есть почти такие же строки:

**Вянет и желтеет**
**Травка на лугах,**
**Только зеленеет**
**Озимь на полях.**

Я. К.»

Шчырую і задушэўную гаворку аб паэзіі вядзе Якуб Колас і ў лісце ад 2 лістапада 1954 года да Роберава, у той час курсанта Растоўскага-на-Доне рачнога вучылішча:

«Уважаемый тов(арищ) Роберов!

Мне кажется, что отказать Вам в одарённости было бы несправедливо. А стихи несколько странные: не чувствуется, что их писал 19-летний советский человек. Видимо, всё дело в том, что подражание классическим образцам приводит Вас и к механическому перенесению чужого содержания. Повторить сказанное — напрасный труд. Поэзия не может существовать, не питаясь жизнью, живыми впечатлениями окружающей действительности. Вот Вы и должны посмотреть на себя, как на активного участника нашей общей созидательной работы. Надо расширить круг знакомств, наблюдений, брать пока доступный Вам материал в стенах училища, ведь там много интересного, просящегося в стихи.

Начинать большую вещь, не имея материала, не зная, о чем будешь писать, невозможно. Пишут только в том случае, когда не писать нельзя, когда поэт полон впечатлениями и материалом, буквально болен темой. Жизненный опыт к Вам придет; если будете работать, то появятся и поэтические навыки.

Советовал бы связаться с местными писателями, в Ростове сильная литературная организация и, думается, найдется внимательный советчик.

А пока постарайтесь получше учиться, это даёт и кругозор, и опыт. На язык обратите внимание особое: пока Вы пишете с ошибками. Избавляйтесь от подражательности, от «красивостей», пишите просто, натурально, как видите и думаете.

Желаю успехов.

Якуб Колас».

У гэты ж самы дзень Якуб Колас накіроўвае ліст у горад Жданаў Ярмілаву. Цікавая сама гісторыя яго. 13 верасня 1954 года, якраз напярэдадні Другога з'езда пісьменнікаў СССР, народны паэт у газеце «Правда» змясціў артыкул «О писательском труде», у якім падзяліўся сваімі думкамі наконт савецкай літаратуры. Ярмілаў, пазнаёміўшыся з ім, напісаў Канстанціну Міхайлавічу ліст, дзе аспрэчвае некаторыя палажэнні яго артыкула. Якуб Колас, не пагадзіўшыся з ім, дае яму грунтоўны адказ:

«Уважаемый тов(арищ) Ермилов!

В Вашем письме чувствуется хорошая читательская озабоченность судьбами нашей литературы. Действительно, ряду писателей, авторов умных и полезных книг, не все удалось в их работе, и читатели вправе потребовать исправления недостатков либо предотвращения их в последующих произведениях.

С этой точки зрения Вас, как внимательного читателя, должно удовлетворить, что положения, сформулиро-

# «ТАК, МІМАХОДЗЬ, КІНУЎ...»

БЫЛО гэта на здымках дакументальнага фільма пра Аляксандра Ільінскага. І да балючага позна. Тады, калі артыст цяжка хварэў і ведаў, што засталося яму жыць зусім мала. Крыўдна, але такая ўжо завядзёнка ў нашым кінематографе: права на стужку пра сябе чалавек мастацтва атрымлівае на схіле гадоў... Аляксандр Канстанцінавіч жартаваў: маўляў, што ж старэчы твар буйным планам, на ўвесь экран, паказваць, лепш было б раней, тады, калі ён быў і хлопец-зух, і артыст, здатны на розныя «сальтамарталі». У душы ж, мабыць, сумаваў.

Сцэнарый прадугледжваў эпізод са спектакля Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа «Навальніца будзе». (Трылогію «На ростанях» «пераклалі» на сцэнічную мову паэт А. Звонак і рэжысёр Шчарбакоў у 1958 годзе). Народны артыст СССР А. Ільінскі сам выбраў сабе ролю дзяка Бацяноўскага. Іграў яе, як заўсёды ён гэта рабіў, бліскуча. Было ў тым сцэнічным партрэце нешта нават гарэзлівае. Акцёр здзекаваўся з дзяка Бацяноўскага, шчодра карыстаючыся кожным зручным выпадкам, каб прымусіць гледача смяяцца, рагатаць. Здаралася, і перабіраў, бо захапіўся гэтым характарам, як сам казаў, «па вушы». І адчуваў літаральна кожны крок і кожную хітраватую ўсмешку дзяка, нібы «свае». Не, А. Ільінскі не іграў, ён жыў пачуццямі і настроямі героя! Неяк смешна і чуйна «нюхаў» паветра, «нюхаў» і людзей, за якімі яму даручылі сачыць. І вельмі ж па-тапорнаму спрабаваў увесці ў падман Лабановіча і яго сяброў, каб тыя — крый божа! — не здагадаліся, што дзяк Бацяноўскі атрымлівае свае «трыццаць срэбранікаў» за даносы ў паліцыю... Мо і да чаркі цягнуўся, бо сумленне недзе на самым дзенцы яго душы часамі ўсё ж варушылася.

Аднойчы я спытаў яго даволі трафарэтна (але такія мы людзі, газетчыкі, — без банальных пытанняў не можам!)— як ён працаваў над роляй дзяка Бацяноўскага.

— Ды як дзядзька Колас вучыў...

Ага, падумалася мне тады, зараз я занатую нешта надзвычай цікавае! І давай распытваць Аляксандра Канстанцінавіча. Той з усмешкай на вуснах сказаў, што ніякіх такіх сакрэтаў тут чакаць не варта. Як і заўсёды ў дзядзькі Коласа, парада артысту была надта сціслай. І кінуў ён яе А. Ільінскаму «мімаходзь». Было гэта яшчэ ў 1937 годзе, калі Другі БДТ іграў драму «У пушчах Палесся». Шукаючы ўтутраны свет і знешняе аблічча дзеда Талаша, артыст многае «ўзяў» ад жывога дзеда Талаша і з тэксту аповесці «Дрыгва». Але нечага не хапала, штосьці не давала права А. Ільінскаму выходзіць на сцэну з упэўненасцю ў тым, што ён — ужо дзед Талаш. І тады акцёр звярнуўся да Якуба Коласа. «Як вы, пісьменнікі, знаходзіце ці ловіце за хвост вобраз?»

Адказ быў зусім просты па сутнасці. «Разумееце, шаноўны артыст, пісьменнік застаецца сам-насам з паперай. Ён піша ў адзіноце. Нават тады, калі сын ганяе па пакоі коціка або жонка гаворыць па тэлефоне з сяброўкай. І лягчэй за ўсё мне ў гэтай пісьменніцкай адзіноце ўявіць сабе героя ў тых жа ўмовах. Як ён глядзіць на свой твар у люстэрка, як мырмоча нешта, збіраючыся зрабіць той або іншы ўчынак, падбадзёрваючы сябе ці пераадольваючы сумненні... Пабудзь адзінокім— і ты будзеш такім, якім стварылі цябе матухна-прырода і жыццёвыя абставіны...» Прыблізна так запомнілася парада Якуба Коласа артысту Аляксандру Ільінскаму.

— А тут мой дзяк Бацяноўскі вучыць дзяцей закону божаму і...

І далей Аляксандр Канстанцінавіч пачынаў рэпеціраваць перад кінакамерай сцэну са спектакля. Дзяк «пад чаркай». Ён тут, у класе, абсалютны аўтарытэт (так, прынамсі, яму здаецца). З яго вуснаў чуюць падлеткі-падшыванцы «праўду» пра стварэнне свету.

— Дык вось, так. Нічога наўперад не было: ні неба, ні зямлі, ні нашых пінскіх балотаў на ёй, ні чароту на іх...

На класнай дошцы дзяк Бацяноўскі крэйдай маляваў нешта такое кругленькае (усё ж зямля круглая, хоць яе яшчэ і «не было!), тыцкаючы пальцам: бачыце, маўляў, лысае ўсё, голае...

— А чым жа тады печы палілі? — пытаўся хлопчык.

Раззлаваны дзяк — Ільінскі «цярпліва» тлумачыў:

— І печаў не было, і хат не было,—і зноў жа тыцкаў пальцам у намаляванае кола на дошцы. — Нічога не было! — амаль шэптам казаў ён і, адчуўшы сэнс гэтых слоў нібы

# ДАРАДЦА

ванные в пяти пунктах Вашего письма, поднимались и поднимаются в печати, особенно перед писательским съездом. В самом деле: уже давно критиковались упущения в работе и Б. Полевого, и В. Ажаева, и С. Бабаевского; живо обсуждается вопрос о положительном герое, об исторической теме, о воспитании и семье.

Вы это видели и видите сами, и, думаю, не сетуете, что находите подтверждение своим мыслям в высказываниях писателей и критиков. Ведь в конечном счете важно то, что недостаток подмечен и указан, пусть не нами лично, а другими — для пользы дела это значения не имеет.

Есть в письме и другое — это раздражение автора ненапечатанных стихов и заметок. Критику своих стихов Вы отвергаете и не в менее резкой форме, чем она высказывается в Ваш адрес. Не берусь по отдельным строкам судить о стихах, но, видимо, критические замечания надо было бы продумать.

Что же касается Ваших замечаний о стихах и учебной литературе, то они, хотя и не напечатаны, но все же учтены соответствующими редакциями. А в этом-то и самое главное. Этим я не хочу сказать, что письмам читателей должна быть закрыта дорога в печать. Но ни одна газета, ни один журнал не в состоянии опубликовать все присланные читателями отклики. Поэтому в редакционной практике и прибегают к пересылке писем в определенные адреса, где эти замечания и учитываются. Значит, особенно сердиться и писать длинные письма о делах значительной давности не следует.

А не попробовать ли Вам перейти от отрывочных читательских заметок к более полному разбору и рецензированию книг и отдельных произведений? Подумайте!

Всего хорошего.

Якуб Колас.

Письмо возвращаю».

Аб добразычлівасці і сардэчнасці, чалавечай чуласці і душэўнай пяшчотнасці народнага песняра да лёсу маладых пісьменнікаў сведчыць яго ліст, напісаны аднаму пачаткоўцу-празаіку:

«Иустин Васильевич!

Прочитал Ваших «Почитателей». Сделал бы это раньше, да маловато времени и трудно читать по рукописи. Так вот, повесть написана, а цельной картины не создано, люди, к сожалению, только названы по фамилии, но не живут и не действуют. Поэтому не достигнута и цель, задача произведения — борьба с пережитками капитализма, как определяете Вы сами. Задача эта — ответственна, и для выполнения ее нужно хорошее вооружение. Прежде всего необходимо строго очерченное мировоззрение, позволяющее вскрывать и диалектически разбираться в существе происходящих процессов. Колхозный строй, победоносные преимущества которого совершенно очевидны не только в Советском Союзе, но и далеко за его рубежами, является преобразующей и глубоко волнующей силой. В данном случае Вам не удалось изобразить в действии эту могучую силу, как фактор влияния на сознание людей, цепляющихся за собственничество. Наоборот, последнее у Вас выпячено чрезмерно, а поэтому и неправдоподобно. Значит, перед автором повести стоит задача: укрепить мировоззрение, овладеть методом социалистического реализма, основным методом советской литературы. Этот метод позволяет отбирать и показывать типичное, отбрасывая случайное и второстепенное, создавать правдивые реалистические картины,— вот в чем его действенная сила.

Вторая задача — литературное мастерство. Во-первых,—язык. Знание языка, наличие большого лексического запаса, умение строить фразу грамотно и легко — во многом определяет успех работы писателя. Без этого невозможно не только создать образ или совокупность образов в действии, но даже нельзя просто излагать свои мысли.

Из кучи бревен нельзя построить дом без инструмента и умения. Сначала бревна отесывают, делают пазы, вырубают углы, а затем складывают стены. Без предварительной работы над частями никогда не удается создать целое. Эта, может быть далекая, аналогия приложима к литературной работе.

Я не останавливаюсь на детализации первой и второй задач применительно к Вашей повести. Герои, их взаимоотношения, сюжет, языковые недостатки — обо всем этом, видимо, подробно писали Вам другие товарищи. Поскольку Вам нельзя отказать в способностях, Вы должны эти способности развивать, не надеясь на магическую силу признания Вас писателем. Не в формальном признании дело. За писателя говорят его произведения, для того, чтобы они говорили за Вас, нужен труд и всесторонняя учеба.

Вы пытаетесь сразу написать большое произведение и терпите неудачу. Может быть, надо попробовать силы на вещах менее крупных, которые Вы смогли бы и лучше продумать, и тщательнее отделать. Но и этому должна предшествовать углубленная работа над собой.

Видимо, письмо это огорчит Вас, но Ваши же интересы требуют, чтобы правда была сказана прямо в глаза.

Мне кажется, что Вы, работая в каком-нибудь из учреждений района, могли бы продолжить и литературную работу. Переходить исключительно на творческий труд у Вас пока нет оснований, печатать повесть не представляется возможным, это еще сырой материал, из него надо построить здание.

В Ваших письмах проскальзывают нездоровые настроения, странные для человека с неплохой биографией в прошлом. В недостатке внимания Вы не можете упрекнуть ни Союз писателей, где к Вам отнеслись весьма доброжелательно, ни руководство района, к которому Вы, как мне известно, не обращались. Однако Вы пытаетесь обвинить писательскую организацию в равнодушии к судьбам страны, а районные организации — в пристрастном отношении к Вам. Это — не дело; оснований у Вас нет никаких, надо освободиться от накипи ложных мыслей, так как главное требование к писателю — это моральное здоровье и чистота.

Теперь о здоровье физическом. В этом Вам поможет подыскание соответствующей работы, вследствие чего улучшатся и материальные условия. Пока посылаю Вам посильную помощь, надеюсь, это Вас не обидит.

Желаю здоровья.

Якуб Колас».

Прозвішча адрасата і дата напісання не ўстаноўлена.

А колькі разоў даводзілася яму атрымліваць ад пачаткоўцаў, якія думалі, што літаратурная праца — гэта лёгкі хлеб ды яшчэ памазаны зверху маслам, творы з прэтэнцыёзнай прыпіскай: «Прачытайце і абавязкова дапамажыце надрукаваць у газеце ці часопісе». І Канстанцін Міхайлавіч цярпліва чытаў, з вялікім тактам адказваў і ім, адказваў справядліва і грунтоўна, не крывячы душою. Вось, напрыклад, што ён пісаў аднаму з такіх паэтаў у лісце ад 22 ліпеня 1947 года.

«Паважаны таварыш!

Вашы вершы, адрасаваныя ў журнал «Беларусь», трапілі да мяне. Вершы не могуць быць надрукаванымі— яны не маюць ніякай грамадскай цэннасці, і з боку паэзіі яны слабыя. Чаму ў Вас няма вершаў на іншыя тэмы? Мне здаецца, калі Вы пажэніцеся з Вашай каханай, а праз месяц пасварыцеся, дык у Вас адпадзе жаданне прысвячаць вершы каханню. Што ж тады застанецца ад Вас як ад паэта? Лепей папрацаваць дзень у калгасе, чым траціць час на складанне такіх вершаў.

Даруйце за рэзкасць тону, але праўда ёсць праўда.

Якуб Колас».

Вялікі і непаўторны майстар мастацкага слова заўсёды вучыў нашых пісьменнікаў, каб яны ішлі ў літаратуру сваім, адметным шляхам, шукалі новыя, арыгінальныя сродкі для ажыццяўлення творчых задум. У гэтых адносінах ён ставіў у прыклад Аркадзя Куляшова. Разбіраючы па драбніцах яго паэму «Аманал», адзначаючы яе станоўчыя і адмоўныя якасці, народны паэт справядліва адзначаў, што «Куляшоў сур'ёзна ставіцца да пытанняў творчасці, стараецца ўнікнуць літаратурных шаблонаў» і «хоча ўнесці ў мастацкую літаратуру нешта сваё, арыгінальнае».

Якуб Колас на кожным кроку папярэджваў нашых паэтаў, каб яны, ганяючыся за наватарствам, не давалі літаратурнага браку. Ён пісаў:

«Наватарства заключаецца не ў майстэрскім ламанні радка або глушэнні чытача рознымі гукавымі прыёмамі, што падчас робіцца незалежна ад таго, трэба гэта ці не трэба.

Наватарства ў тым, што пісьменнік гаворыць аб новым, перадавым, якое ён убачыў і асэнсаваў у падзеях свайго часу, і гаворыць у адзіна магчымых формах, так, як вымагае гэта новае».

Працавітая коласаўская рука рупна і дбайна пахадзіла па раманах Міхася Лынькова «На чырвоных лядах» і «Векапомныя дні», Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах», Івана Мележа «Мінскі напрамак», Івана Шамякіна «Глыбокая плынь», па паэмах Максіма Лужаніна «Кладкі Градоўскага», Аркадзя Куляшова «Аманал», Петруся Броўкі «Добры друг», па некаторых творах Пятра Глебкі, Эдзі Агняцвет, Паўла Кавалёва, Алены Васілевіч і многіх іншых празаікаў і паэтаў. Глядзіш на ягоныя праўкі, чытаеш трапныя заўвагі і ясна ўсведамляеш, што ён быў уважлівым і патрабавальным чытачом, добразычлівым і ўдумлівым крытыкам, мудрым паўсядзённым дарадцам. У пацвярджэнне гэтага варта спаслацца на вельмі характэрныя прыклады.

У снежні 1954 года Канстанцін Міхайлавіч, знаходзячыся на лячэнні, выбраў час прачытаць раман Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» і адразу ж паслаў яму ліст, у якім падрабязна прааналізаваў твор. У заключэнне Колас адзначыў:

«Раман «Сустрэнемся на барыкадах», бясспрэчна, здабытак нашай нацыянальнай беларускай літаратуры. Напісаўшы гэты раман, аўтар здабыў права думаць аб сабе як аб пісьменніку, у якога ёсць **свой**, асаблівы стыль, **свая** пісьменніцкая манера, **свой** пісьменніцкі голас. Гэта — удача пісьменніка».

Дэталёва разабраў Колас «Векапомныя дні» Міхася Лынькова, указаў і на знаходкі, і на агрэхі. І, у прыватнасці, раіў.

«Раман трэба сурова ўрэзаць, скараціць — чым болей, тым лепей для рамана. Не таўшчыня кнігі, не лік старонак яе павінны займаць аўтара. Трэба шліфаваць мову, кожнае слова і сказ, каб яны гарэлі моцна, хораша, пераканаўча, ясна і проста, — «вельмі нават проста-с!» Не трэба выходзіць за межы пачуцця меры і прапорцыі. Яшчэ раз кажу — ад усяго сэрца хачу, каб раман «Векапомныя дні» стаўся і векапомным раманам.

Жадаю поспехаў.

Не гневайся, што думаю, тое і кажу.

Твой Якуб Колас».

Крытыка Якуба Коласа заўсёды была слушнай і аб'ектыўнай. У яго асобе пісьменнікі як маладыя, так і больш сталыя, бачылі свайго шчырага, з багатым жыццёвым вопытам старэйшага сябра, мудрага, справядлівага, строгага паўсядзённага настаўніка і дарадцу, які многім з іх дапамог знайсці і заняць сваё месца ў літаратуры.

## НЕЗАБЫЎНАЯ СУСТРЭЧА...

**Трасцінская сельская бібліятэка — сапраўдная школа перадавога вопыту для бібліятэк Магілёўшчыны. Тут асабліва цікава праходзяць літаратурныя вечары і ранішнікі, праводзяцца канферэнцыі чытачоў, працуе літаратурна-краязнаўчы гурток.**

**Бадай што найбольш цікавы ў Трасцінскай сельскай бібліятэцы Магілёўшчыны куток, прысвечаны народнаму песняру Беларусі Якубу Коласу. Сярод рэдкіх фотаздымкаў і кніг тут захоўваецца фотакопія пасведчання ад 16 сакавіка 1925 года. «Паказчык гэтага Міцкевіч Канстанцін камандзіруецца ў Калінінскую і Аршанскую акругі дзеля правядзення культурнай працы па беларусазнаўству. Міцкевіч мае права чытаць лекцыі, весці гутаркі па гісторыі беларускай літаратуры, чытаць свае творы і іншыя ўзоры прыгожага беларускага пісьменства.**

**Народны камісарыят асветы БССР просіць усе савецкія і грамадскія ўстановы дапамагаць Міцкевічу ў выкананні ўскладзенага на яго задання».**

**У снежні 1925 года Якуб Колас наведаў Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум, а ў сакавіку 1926 года па дарозе з Клімавіч прыехаў у Хоцімск. Шлях ляжаў праз вёскі Забялышын і Трасціно. З красавіка на пленуме раённага выканаўчага камітэта паэт чытаў свае творы. Старэйшы чытач бібліятэкі, былы камбедавец, цяпер пенсіянер Павел Пракопавіч Сычоў часта ўспамінае пра тую незабыўную сустрэчу.**

**— Да таго часу, — расказвае ён, — мне ніколі не даводзілася бачыць пісьменнікаў. Я гляджу на яго, не зводзячы вачэй. У зале было ціха. Колас расказваў пра сябе, сваю працу; перад намі паўставалі гарызонты развіцця беларускай нацыянальнай культуры ў савецкі час. Удзельнікі пленума слухалі затаіўшы дыханне паэму «Новая зямля».**

**Жывы сведка незабыўнай сустрэчы Якуба Коласа з працоўнымі Хоцімшчыны П. Сычоў і настаўнік беларускай літаратуры мясцовай сярэдняй школы Галіна Паўлаўна Елісеева з дапамогай загадчыка Трасцінскай сельскай бібліятэкі Міхаіла Аляксеевіча Ласоўскага данеслі хараство коласаўскай паэзіі сотням чытачоў сельскай бібліятэкі.**

**В. АРЦЕМ'ЕЎ,**
**выкладчык Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума імя А. С. Пушкіна.**



А. Ільінскі ў ролі дзяка Бацяноўскага ў спектаклі «Навальніца будзе».

ўпершыню, складаў рукі на грудзях і ўзнімаў вочы ўгору.—Быў адзін толькі бог...

І радасць была ў гэты момант у дзяка Бацяноўскага, і страх. Гэта ж, аказваецца, некалі-калісьці ён сам, дзяк Бацяноўскі, мог бы быць... богам. І ніякіх там табе паліцый, хаўтур, вяселляў, законаў божых, Лабановічаў-завадатараў і бунтаўшчыкоў... «Быў адзін толькі бог...» І так хораша рабілася яму ад такой думкі. Так грэла яго магчымасць хоць бы на хвілінку ўявіць, што «нічога» няма, а ёсць адзін толькі ён — і ён: бог!..

Акцёрская інтанацыя тут, мімічная ігра, позірк нечакана вялікіх вачэй гэтага п'янюгі і шпіка,— ўсё злівалася ў нейкі завершаны партрэт пасвойму прыгнечанага чалавека, які адкрывае для сябе яшчэ адзін, парадаксальны і фантастычны, варыянт існавання. У якасці бога!..

У часе спектакля глядзельная зала ў гэтым месцы выбухала смехам. Потым былі дружныя апладысменты. Бо мы прысутнічалі — без перабольшання! — пры нараджэнні сцэнічнага шэдэўра. Смяяліся тады, на здымачнай пляцоўцы, і рэжысёр С. Сплашноў са сваімі памочнікамі. Акцёр з імправізацыйнай свабодай стварыў непаўторны па хараству высокамастацкі эцюд, прывабны і сам па сабе, у сольным выкананні вялікага майстра сцэны.

Калі эпізод быў зазняты, Аляксандр Канстанцінавіч падміргнуў мне. Здаецца, ён яшчэ «заставаўся» дзякам Бацяноўскім і ўжо «развітваўся» з ім. «Бог» зыходзіў на зямлю. Артыст рабіўся самім сабой. І гарэзлівай усмешкай заканчваў размову са мной, надакучлівым газетчыкам, адносна таго, «як гэта робіцца».

— Ды як дзядзька Колас вучыў... Мімаходзь аднойчы сказаў...

Такое было апошняе маё інтэрв'ю з Аляксандрам Ільінскім.

**Барыс БУР'ЯН.**

# ЧАСОПІС ВЫЙШАЎ У СВЕТ

## З БОЛЬШАЙ ПАТРАБАВАЛЬНАСЦЮ

Жнівеньскі нумар часопіса «Беларусь» — тэматычна і жанрава разнастайны, прыцягвае ўвагу перш за ўсё сваёй надзённасцю. Але, бадай, галоўная тэма, якая праходзіць праз увесь часопіс, гэта — слаўнае 50-годдзе ўтварэння СССР.

Пад знакам падрыхтоўкі да юбілею Савецкага Саюза святкавалася ў рэспубліцы 90-я гадавіна з дня нараджэння Янкі Купалы. Артыкулам аб гэтай вялікай падзеі ў культурным жыцці рэспублікі і пачынаецца часопіс.

Асабліва прыемнае ўражанне пакідае падборка матэрыялаў пад рубрыкай «У сям'і адзінай, братняй», — публіцыстычныя артыкулы, вершы, апавяданне... Прысвечана падборка нашым прыбалтыйскім суседзям. Надрукаваныя матэрыялы яшчэ раз яскрава сведчаць аб моцнай дружбе, цесных эканамічных, навуковых і культурных сувязях, што існуюць паміж народамі Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі. І, як адна са шматлікіх адзнак гэтай непарушнай дружбы, — поезд «Чайка»... «Прасторамі чатырох сясцёр-рэспублік ідзе «Чайка», — чытаем мы ў артыкуле «Чайка ідзе на Мінск». — Яна вязе водар каржакаватых соснаў, раскіданых па эстонскіх дзюнах, духмянасць прывольных латвійскіх лугоў, прахалоду літоўскіх дуброў, ёй кланяюцца векавыя беларускія бары». І шчырыя, пранікнёныя радкі, якія прысвячаюць роднаму краю народны паэт Эстоніі, лаўрэат Ленінскай прэміі Юхан Смуул (з «Эстонскай паэмы»), літоўскі паэт Юсцінас Марцінкявічус («Туман над Нёманам»), латышскі паэт Ояр Вацыеціс («З дарогі»), не могуць не ўсхваляваць беларуса... З такой жа цікавасцю чытаецца нізка вершаў Альбінаса Жукаўскаса — вядомага літоўскага паэта, шчырага прыхільніка і перакладчыка твораў беларускіх пісьменнікаў на літоўскую мову.

Хто любіць Волгу, хто—Няву,
Я ж — Першакшну і Лакаю,—

прызнаецца ў любві да Літвы паэт. І мы разумеем Альбінаса Жукаўскаса, яго гонар за сваю сацыялістычную Радзіму, як разумеем і той найпершы чалавечы абавязак, — жыць у імя людзей, — які ўслаўляе паэт у вершы «Два сэрцы»:

А добрае сэрца другое,
Што маці дала мне, сыну,
Як самае дарагое
Са скарбаў планеты ўсіх, —
Сябрам я навек пакінуў;
Хай б'ецца яно для іх.
...Так я зрабіць павінен!
Так дзеля сэрцаў людскіх!

(Пераклад М. Калачынскага).

Глыбокім псіхалагізмам вызначаецца таксама апавяданне Віліса Лаціса «Цяжар падзякі» (пераклад Л. Салаўя).

Невялікія нататкі «Там, дзе возера Дрысвяты», «У Амелькаўшчыне», «Братэрскія сувязі» і іншыя істотна дапаўняюць падборку «У сям'і адзінай, братняй», расказваючы пра цікавыя факты з жыцця братніх народаў, пра сяброўскія сувязі беларусаў, літоўцаў, латышоў, эстонцаў.

На пачатку часопіса надрукаваны вершы народнага паэта рэспублікі Петруся Броўкі. Мы прывыклі да публіцыстычнай, грамадзянска-актыўнай накіраванасці твораў паэта. Аб гэтым жа сведчаць і вершы «А дні, што маланкі ў нас...» і «Войны б не з'яўляліся». Асабліва ўражвае апошні: ён прымушае яшчэ і яшчэ раз задумацца над тым, якія пакуты, жахі нясуць людзям войны... З уласцівымі яго паэтычнаму таленту, страснасцю і лаканізмам Пятрусь Броўка з болем у сэрцы заклікае:

Досыць войнаў.
Час канчаць
З войнамі няспыннымі...

І, мусіць, перад кожным чытачом паўстануць за гэтымі простымі радкамі жудасныя драматычныя карціны не толькі мінулых войнаў, але і сучасных падзей на шматпакутнай в'етнамскай зямлі... І кожны думкамі і сэрцам далучыцца да паэтавых слоў:

Каб ды людзі ўсёй зямлі
Нашых дум трымаліся,
Каб усталі, што ляглі, —
Войны б не з'яўляліся!

І не шкодзіць дадаць: заўжды азораная пачуццём высокай грамадзянскасці, творчасць Петруся Броўкі — цудоўны прыклад для маладых пісьменнікаў.

Нізка вершаў Анатоля Астрэйкі — своеасаблівы лірычны экскурс у незабыўна-дарагое мінулае... Гэта, як здаецца, кавалкі з паэтычнага дзённіка. І яны нам прачула-журботна апавядаюць і пра нялёгкае гаротнае дзяцінства, і пра першы школьны званок — «далёкіх год званок я чую», і пра больш сталыя гады, калі «ўжо мары трохі пасталелі», урэшце, пра той трывожны час, калі «будан ад ворага таіўся, бярог ад злыдняў родны кут...».

Часопіс друкуе цікавую камедыю Івана Шамякіна «Баталія на лузе». Пісьменнік, які ўсёй сваёй творчасцю звернуты да хуткаплыннай сучаснасці, да надзённых патрэб нашага грамадства, да самых важных праблем сённяшняга дня, акцэнтуе ўвагу на вельмі адказным і надзённым пытанні выхавання моладзі... Дакладней, гаворка ў камедыі ідзе аб тых, хто толькі яшчэ рыхтуецца пачаць свой самастойны шлях у вялікае жыццё.

Сюжэтна гэтая камедыя пабудавана проста. Уся дзея разгортваецца на беразе ракі ў летнім вучнёўскім лагеры. Але той сатырычны зарад, які закладзены ў змесце, бліскуча робіць сваю справу. З дыялогаў герояў камедыі Тані і Юркі — то іранічна-жартаўлівых, то сур'ёзна-наіўных, нарэшце, з красамоўных рэплік Юркавай маці Вікторыі Мацвееўны паступова акрэсліваецца галоўная ідэя твора: бацькі ў першую чаргу нясуць адказнасць за тое, якімі людзьмі вырастуць іх дзеці. І ў гэтых адносінах выкрыццё гнілога мяшчанскага нутра Вікторыі Мацвееўны ўяўляе пэўную цікавасць, больш таго, неабходнасць. На словах гэтая жанчына нібыта і супраць мяшчанства, абывацельшчыны, яна нават у гэтым граху абвінавачвае іншых, а на справе...

На справе Вікторыя Мацвееўна, калі трэба было дапамагчы ўратаваць калгаснае сена, зрабіць грамадска-карысны ўчынак, па сутнасці,стала супраць такой дапамогі. Вось яна, праверка чалавечых якасцяў!

Аўтар камедыі нібы гаворыць нам: не трэба змяншаць небяспеку адмоўнага ўплыву вось такіх бацькоў на сваіх дзяцей, з іх антыграмадскай мараллю трэба змагацца ўсімі магчымымі сродкамі, у тым ліку і сатырай.

Сярод іншых празаічных матэрыялаў, змешчаных у часопісе, варта адзначыць таксама фантастычнае апавяданне «У час вярнуліся» Уладзіміра Шыціка, якога рэдакцыя павіншавала з 50-годдзем, нарыс Міхася Вышынскага «Забораўскі скарб»—аб працоўным жыцці калгаснага брыгадзіра з Лагойшчыны дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Ядвігі Фамінічны Сівец.

Аднак крытычна-бібліяграфічны аддзел часопіса жадае, на нашу думку, лепшага — рэцэнзіі Л. Царанкова, М. Досіна, Як. Ліфанава напісаны сухавата, нецікава. Хоць і няма асаблівых падстаў адносіць іх да адкрыта кампліментарных рэцэнзій, але ж вельмі здзіўляе, насцярожвае той факт, што ні ў адной з трох аўтары не робяць аніякіх крытычных заўваг.

Увогуле ж неабходна адзначыць, што жнівеньскі нумар часопіса «Беларусь» зроблен значна лепш, чым некаторыя папярэднія, з большай патрабавальнасцю да ідэйна-мастацкай вартасці твораў, якія друкуюцца на яго старонках.

Я. ІВАНОЎ.

## Год 1812...

У багатай на змест і цікавай жнівеньскай кніжцы часопіса «Полымя» (падборка твораў рускіх празаікаў і паэтаў пад рубрыкай «У сям'і адзінай, дружнай», вершы А. Лойкі, А. Астрэйкі, паэма В. Макарэвіча, успаміны Фёдара Янкоўскага «Шэсць абразкоў», салідны, як заўсёды, аддзел крытыкі і літаратуразнаўства) чытача перш за ўсё прывабіць гістарычная аповесць Барыса Мікуліча «Адвечнае».

Напісаная яшчэ ў 1945-47 гадах і апублікаваная зараз у раздзеле «З літаратурнай спадчыны» да нядаўна пісьменнікам шасцідзесяцігоддзя, аповесць зойме, нарэшце, сваё месца ў літаратуры. І месца гэтае, не пабаімся заявіць, будзе пачэсным. Аповесць прысвечана жыццю беларускага народа напярэдадні і ў часы Айчыннай вайны 1812 года, паказвае быт, імкненні і спадзяванні прадстаўнікоў розных слаёў грамадства, малюе яркімі фарбамі патрыятычныя подзвігі беларускіх сялян і распад напалеонаўскай «Вялікай арміі».

Такая кніга павінна была быць у нашай літаратуры. Успомнім, што «рускі паход» Напалеона пачаўся ўрачыста-карціннай пераправай праз Нёман і закончыўся ганебным крахам на Бярэзіне. Шматпакутная беларуская зямля першай прыняла на сябе ўдар «двунадесяти языков» і стала месцам апошняй бітвы.

Барыс Мікуліч, як можна меркаваць паводле першай кнігі аповесці (толькі гэтая кніга і захавалася, яна была перададзена сястрой пісьменніка Інстытуту літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР), хацеў стварыць шырокае палатно тагачаснага жыцця беларускага народа, яго пакут пад акупацыяй напалеонаўскіх рабаўнікоў і гвалтаўнікоў і масавага супраціўлення ненавісным чужынцам. Аўтар вядзе чытача з хаціны селяніна ў графскі палац, з салона наваяўленага манарха Напалеона ў майстэрню мастака-самавучкі, з карціннай галерэі купца-мецэната ў партызанскі бівак.

З добрым веданнем рэалій ён малюе карціны побыту людзей мінулага стагоддзя, пераканаўча даводзіць матывы іх паводзін. Ён не спрашчае і не скажае гістарычных фактаў і добра бачыць, напрыклад, розніцу ў стаўленні да Напалеона і яго «рэформ» у беларускага селяніна і польскага графа. Паказваючы розныя этапы вайны, ён спасылаецца на гістарычныя крыніцы: на Сегюра і Вяземскага, на Давыдава і Вальтэра Скота, на сведчанні Стэндаля, які прымаў удзел у кампаніі.

Галоўны герой аповесці, дакладней, яе першай часткі, — прыгонны скульптар Платон Назарчук, які, стварыўшы прыгожы вобраз мадонны, выношвае задуму кампазіцыі Волі, Свабоды. Цяжка яму, заняволенаму, жыць пад паншчынай і тварыць. Яго чыстаму каханню пагражае нахабны граф — ён сілком хоча ўзяць сваю «ўласнасць», прыгонную дзяўчыну Серафіму. А задумам скульптара перашкаджае вайна — і, не закончыўшы статуі Волі, Платон ідзе ў партызаны адстойваць свабоду сваю і народа свайго. Граф жа — слабавольны, слабасільны арыстакрат і яго блізкія ўцякаюць ад французаў, уцякаюць ад неабходнасці прыняць удзел у барацьбе з ворагам. І глыбока сімвалічнай падаецца нам сцэна, у якой пісьменнік малюе бязмэтнае споўданне графа па дарогах Беларусі: «Стомленыя коні скранулі цяжкую карэту. Пыл закурэў. І паплылі палеткі, пералескі, пустыя ды зруйнаваныя вёскі. Паплыла неабсяжная краіна, па якой ехалі яны як чужыя».

Барыс Мікуліч на прыкладзе беларускага сялянства даводзіць тое ж, што і Леў Талстой у «Вайне і міры» — народны характар супраціўлення французам. Сяляне хутка раскусілі хітрыя задумы напалеонаўскай адміністрацыі: абяцаннямі зямлі і волі прымусіць Беларусь стаць крыніцай забеспячэння арміі хлебам. І вуснамі простага селяніна, бацькі Серафімы, заяўляе ўсё беларускае сялянства:

«Спадзяваліся некаторыя, што Банапарт волю дасць, але... Ён яшчэ горш паноў бярэ ўсё, што трапіць».

Таму просты люд і абвясціў французскаму імператару бязлітасную вайну. У аповесці паказаны правал місіі створаных французамі мясцовых органаў кіравання, якія павінны былі дапамагаць фуражырам збіраць у насельніцтва даніну збожжам.

Б. Мікуліч вобразамі Платона, яго сябра-саперніка Васіля Рэвута і многімі іншымі нібы акрэслівае шлях беларускага люду да ўсведамлення сілы сваёй, шлях ад пасіўнага асуджэння сацыяльнай несправядлівасці да магчымасці ўзяць у рукі зброю. Стыхійны бунтар, паслядоўнік Гомаса Мора Мікола Шолах, які будуе наіўныя тэорыі пра абстрактную роўнасць паводле законаў божых, не можа прывабіць Платона і Васіля, хоць ён і арганізуе дружыну «лясных братоў»-уцекачоў ад панскага прыгнёту.

Б. Мікуліч узнімае сваіх герояў да філасафічных разваг аб сутнасці жыцця, аб месцы ў грамадстве. Яго героі не такія простыя людзі. Многія з іх пабачылі свет, пабылі ў розных краінах, яны ведаюць Леанарда да Вінчы і ўтапістаў. І, можа, дзе-небудзь аўтар перабольшыў, але такая «расстаноўка сіл» дае яму магчымасць драматычна сутыкаць праціўнікаў і весці гаворку на ўзроўні надта высокім.

Аповесць напісана рукой вопытнага майстра, у лепшых традыцыях нашай прозы — гэта адчуваецца ў псіхалагічнай пераканаўчасці дзеянняў персанажаў, у жыццёвасці, несхематычнасці вобразаў і ў сакавітасці, «густаце» мовы. Эканомна, здавалася б нават залішне малой колькасцю штрышкоў пісьменніку ўдаецца намаляваць уражлівую карціну, напрыклад, пейзаж: «А тым часам абляцелі дрэвы і счарнела іржэўе, у вырай птаства падалося, сцюдзёныя туманы насоўваліся на зямлю; — гэта восень пабралася з зімою». «Хмарка пабегла па небе. І падзьмуў злёгку вецер. Мусіць, перад світаннем пагода зломіцца»; «Празрыстае сіняе неба, водар спелых яблык і своеасаблівая свежасць, што, здавалася, ішла ад ракі. Паветра чыстае, і гукі званоў доўга коцяцца па прасторах і павольна канаюць дзесьці надта далёка. І такое пры гэтым узнікае ўражанне, быццам празрыстыя ільдзінкі растаюць пад сонечнымі промнямі. Усё яркае, без паўтонаў, як гэта бывае ўвесну: неба — сіняе, лісце — залатое».

Проста здзіўляе, як проста, некалькімі словамі можна стварыць абразок: «А за акном — зімні вечар, сінія снягі, нізкае перад снегападам ці адлігай неба».

У аповесці адчуваецца ўплыў Льва Талстога — бадай, без яго «Вайны і міра» твор Б. Мікуліча наўрад ці быў бы такім. Нават у кампазіцыі чаргаванне раздзелаў, дзе аўтар падае жыццё і духоўны свет сваіх герояў, з раздзеламі, дзе знарок публіцыстычна, нават акадэмічна гаворыцца пра тыя ці іншыя гістарычныя факты, не можа не нагадаць Талстога, гэтак жа, як расстрэл Міколы Шолаха, абвінавачанага французамі ў падпале пакінутых хат, не можа не прывесці на памяць расстрэл, убачаны вачамі П'ера Бязухава.

Часам гучыць інтанацыя гогалеўская: «І раптам... сэрца скаланецца, і азірнешся ты наўкола, каб не забыць беднага жыцця свайго...» Можна было б зрабіць сякія-такія закіды аповесці, але ж — хто іх цяпер улічыць? Дапусцім, суха гучаць радкі пра драўлянае разьбярства, пра сувязь народнага тэатра на Беларусі з містэрыямі-маралітэ. І калі ў вуснах мецэната Казіміра Руткоўскага натуральна гучаць разважанні пра «унікумы італьянскіх і іспанскіх ваяцеляў», то наўрад ці гэтак жа натуральна ўспрымаем мы фразы пра «аўтэнтык» у дачыненні да прыгоннага самавучкі Платона Назарчука. Альбо ў мове фурмана: «У кожнага пана свой гаспадарчы разлік» — фраза гучыць занадта сучасна.

Але ўсё гэта дробязі. Галоўнае ж у тым, што ў беларускай літаратуры ёсць добротна напісаная гістарычная аповесць пра вайну 1812 года. І цяпер цяжка ўявіць сабе, што мы маглі б гэтай аповесці не мець. І шкада, што яна засталася незакончанай.

А. МАЖЭЙКА.




Аляксандр ДРАКАХРУСТ

# ЗЗЯННЕ ПОЎНАЧЫ

## СТАРОНКІ З ДЗЁННІКА

КАЛІ Ў ЦЮМЕНІ якая знемагала ад непрывычнай спякоты, нам, удзельнікам Дзён савецкай літаратуры ў Цюменскай вобласці, сталі вядомы маршруты, я, не разважаючы, выбраў самы паўночны — «газавы» — маршрут.

Не, не тое, каб вабілі мяне туды чароўныя белыя ночы або ўсё яшчэ прываблівая экзотыка Запаляр'я! Я быў ужо за Палярным кругам (праўда, не ў гэтых месцах, а на Чукотцы) і па сваім вопыце ведаў, чаго варты рамантычныя заранкі Поўначы...

Мне проста захацелася сваімі вачамі ўбачыць тое, што спачатку з лёгкай рукі газетчыкаў, а потым са слоў не схільных да перабольшанняў вучоных набыло імя «адкрыцця веку», аднаго з яго самых вялікіх цудаў.

Аб трыльёнах кубаметраў газу, аб мільярдах тон нафты, знойдзеных пад пластам вечнай мерзлаты, пад бясконцай дрыгвой тундравых балот, пад разлівамі наравістых рэк і прадоннямі азёр, напісана многа, і, бадай, наіўней было б прэтэндаваць на нейкія буйныя адкрыцці, асабліва, калі ў тваім распараджэнні ўсяго няпоўных пяць сутак.

І ўсё-такі і мае сябры па брыгадзе, і я ў гэтых высокіх шыротах пранікліся невынішчальным духам першаадкрыццяў. Нашы знаходкі, зразумела, не мелі адносін да геалогіі. І няхай былі яны часам недастаткова глыбокія (тэмп руху аказаўся празмерна імклівы!), няхай сустрэчы і размовы нашы абрываліся часта на паўслове, — але, пераглядаючы цяпер беглыя запісы ў дзённіку, я нібыта зноў перажываю сваю нядоўгую «паўночную адысею» і адчуваю настойлівую патрэбу хоць бы коратка расказаць пра яе.

### СЛЕД ЧАЛАВЕЧЫ

Усе, хто піша пра Поўнач, звычайна пачынаюць сваё апавяданне з самалёта або з верталёта. Што ж, гэта зусім натуральна. Недарма адзін са знаўцаў гэтага краю кінуў фразу, якая стала крылатай: «Праблема асваення Поўначы — гэта праблема пераадолення прасторы». Што яна справядлівая, мы адчувалі ўжо на шляху з Табольска ў Салехард, калі наш стары «Лі-2» адчайна гойдаўся ў бяскрайняй блакітнай рацэ, па якой насустрач яму плылі цяжкія жоўта-белыя воблакі, якія нечым нагадвалі вялікія няўклюдныя плыты.

А ўнізе была таксама рака. І не адна! Едкую прозелень тундры ва ўсіх кірунках перасякалі шматлікія рэкі, рачулкі, ручаі; яны то зліваліся з балотнай багнай, якая жахліва чарнела ў глыбокіх нізінах, то абрываліся ў перасохлых старыках, то прападалі ў змрочных упадзінах азёр і, нечакана з'явіўшыся зноў, бясконца пятлялі па шэра-зялёным, амаль сівым ягелі.

Вада, вада, вада — карычневая, рыжая, чорная... Адчувалася, што тундра на ёй з рэдкалессем піхты і лістоўніц нібы набрыняла, перасычаная гэтай вадой, аслізла, размокла і, здавалася, вось-вось пачне тануць у безданні, якая раскінулася вакол.

Потым, калі ўжо з Салехарда, па адным з дашчаных завулкаў якога зусім звычайна, як белая паласа ў нас на праспекце, праходзіць рыса Палярнага круга, мы ляцелі на верталёце ў Харп, я неяк асабліва востра адчуў, да чаго ж гэта цяжка — пераадольваць тутэйшыя прасторы. Воблакі, якія сталі падобныя на мокрае шынельнае сукно, паступова самкнуліся, і велізарны вінт, з цяжкасцю рассякаючы іх, абрушваў на няшчыльна прыкрытыя ілюмінатары мутныя халодныя патокі. Зялёная борсня тундры, над якой павольна паўзла наша машына, рэзка змяніла колер, і цяпер ужо зямля і грузна аселае на яе неба — усё было шэрае, размытае.

Але што гэта? Сярод суцэльнай багны і вызарачаных ветрам бярозак з жаўтаватай карой я раптам убачыў шырокія, яшчэ не заплыўшыя каляіны. Яны то ішлі паралельна адна адной, то перакрыжоўваліся, то адыходзілі далёка ўбакі, то крута зблізкаліся, рабілі нечаканыя і рэзкія павароты, знікалі ў залітых вадой распадках і раптам узнікалі зноў на абадраных гусеніцамі схілах...

Я яшчэ не паспеў разглядзець, куды вядуць гэтыя каляіны, як заўважыў унізе транспарцёр, які ў першы момант здаўся мне цацачным на фоне гэтага першабытнага хаосу. Але не, гэта быў самы звычайны працаўнік-усюдыход. Яго гусеніцы, густа аблепленыя граззю, пракручваліся павольна і цяжка, ззаду цягнуўся доўгі хвост дыму.

У гэту хвіліну наш верталёт моцна хіснуўся і, намагаючыся перасіліць грукат рухавіка, адзін з лётчыкаў нешта закрычаў нам, тыцнуўшы пальцам у шкло ілюмінатара. Але там па-ранейшаму відаць былі толькі разрывы хмурных, набрынялых вадой хмар ды вялікія і малыя разводы, перакрыжаваныя ўздоўж і ўпоперак размытымі каляінамі. Ён яшчэ раз пастукаў па шкле. І тут мне адразу кінулася ў вочы адзінарная чорная каляіна (так мне здалося спачатку) з чырванавата-жоўтымі насыпамі пяску па баках.

— ...у-ба!... у-ба! — нешта спрабаваў растлумачыць пілот.

І ў нейкае імгненне да мяне дайшло:

— Тру-ба!..

Так, сапраўды, тое, што прыняў за не зусім звычайную каляіну, аказалася ніткай будучага газаправода, — той самай «трубой», вакол якой зараз засяроджана тут усё жыццё.

Праз нейкія сорак мінут я ўжо мог дакрануцца рукою да мокрага цела трубы (тут ставяцца да яе, як да жывой істоты), зазірнуць у яе «пашчу» (1420 міліметраў у папярочніку), пачуць «голас» — нізкае арганнае гудзенне, якое глуха даносіцца з чорнай глыбіні.

— ...Ад Надыма вядзём, — сказаў начальнік пятага ўчастка Барыс Андрэевіч Кушко, які проста з пасадачнай пляцоўкі пад праліўным дажджом павёз нас на будаўніцтва. Сам ён — малады, чорнавалосы, з жывымі хітраватымі вачамі і ледзь прыкметнымі ямачкамі на шчоках — здавалася, не заўважаў струменяў, якія ліліся з неба або проста даўно прывык да іх.

— Паўднёвая ветка газаправода ўжо далёка на Пунгу пайшла, — працягваў ён ціхім баском з прыкметнай хрыпатцой. — А мы — другая чарга. Эксперыментуем пакуль. Вы не здзіўляйцеся. Умовы ж якія?.. Вечная мерзлата! Ніхто ў свеце не цягнуў яшчэ па ёй трубу. Як будзе паводзіць сябе — невядома. Марозы ж да пяцідзесяці градусаў. Вось і ставім доследы. Праверым. Пераканаемся. І далей пагонім. Наша ж ветка на пяцьсот кіламетраў карацейшая. Адчуваеце — пяцьсот кіламетраў?..

Ён запрасіў нас у свой вагончык, па-тутэйшаму — балок, і паспрабаваў папулярна растлумачыць, у чым сутнасць эксперыментаў. Трубу спрабуюць закапваць у глыбокую — да чатырох метраў — траншэю, прыўзнімаць на грунтавой падушцы над балотнай багнай і разлівам азёраў, яе ўкладваюць на жалезабетонныя паўпрызмы...

— А калі труба ў моцныя марозы «зайграе» — што тады? На чыгунцы на стыках рэек пакідаюць зазоры. А ў нас, як вы разумееце, гэтага зрабіць нельга. Значыць... Барыс Андрэевіч запытальна паглядзеў на нас, ледзь прыкметна ўсміхнуўся, з-за чаго прадаўгаваты твар яго з мілымі ямачкамі на шчоках здаўся зусім малады — не дасі і трыццаці! — Значыць, думаць трэба... Ляцеў у нас аднойчы над трасай адзін госць. Бачыць — праз кожныя дзве тры сотні метраў — зігзаг. Пытаецца ў мяне: «Гэта што — па прыродных умовах?» Не, кажу, па нашых умовах. «Па якіх такіх? Што за марнатраўства?..» Давялося тлумачыць, што гэта — навінка. Інжынеры прыдумалі, з Ленгіпрагазу. Некаторыя плецi — гэта тры трубы, звараныя для ўкладкі! — злучаем пад вуглом да асноўнай лініі газаправода і адна да адной. Ад гарачыні вугал павялічваецца, ад марозу — памяншаецца. А труба хоць бы што. «Змейкай» гэта называецца. Ну, а калі па правілах — кампенсатар. Зразумела?..

Гэта было сказана без выкліку, з добразычлівай усмешкай і ўсё-такі з тым несумненным пачуццём пераваґі, якое даецца не толькі ўпэўненай у сабе маладосцю, але і сапраўднымі ведамі, уласным, незапазычаным вопытам.

Але ўжо ў наступную хвіліну ён збянтэжыўся. Як хлапчук.

Барыс Андрэевіч — Барыс, як ён папрасіў называць яго, — пасадзіў нас на вузкі ложак, акуратна засланы простай салдацкай коўдрай.

— А што, сям'я ў вас на Вялікай зямлі? — пацікавіўся нехта з нашых таварышаў. (Вялікай зямлёй тут называюць усё, што на поўдзень ад Палярнага круга).

— Ні...—чамусьці раптам па-ўкраінску адказаў нам пачырванелы гаспадар. — Нэма яшчэ... Халасцякую... Спачатку ў Беларусі, пад Жабінкай, на «Дружбе» працаваў, потым у Маскве вучыўся, потым — сюды... Вось здадзім трубу, тады ўжо... — дадаў ён выбачлівым тонам і тут жа, хутка заспакоіўшыся, дзелавіта прапанаваў: — Давайце лепш паедзем на ўчастак, дзе швы вараць...

Угаворваць нас, зразумела, было не трэба.

Яшчэ да таго, як за невысокім прыгоркам паказалася траса, у пахмурым, набухлым вільгаццю небе (дождж, перастаў, але да воблакаў, па-мойму, можна было дастаць рукой) нярка заззялі маланкі электразваркі. Па меры таго, як усюдыход перакульваўся праз вузлаватыя карэнні палеглых бярозак і лістоўніц, выдзіраўся з глыбокіх калдобін, шалёна круцячыся ўсімі чатырма коламі, электрычныя заранкі рабіліся больш пранізлівыя і яркія, набываючы характэрнае блакітнае адценне.

За паваротам нечакана адкрылася старанна разраўнаваная пляцоўка — «стэлаж», як растлумачыў Барыс. Тут складаюцца і зварваюцца плеці з труб, якія нястомна падцягваюць трактары-трубаўкладчыкі.

Цяжкая праца, якая патрабуе выключнай зладжанасці і дакладнасці. І няхай многае робяць механізмы — на долю людзей усё роўна выпадае самае цяжкае, самае адказнае.

Прызнацца, я адчуў няёмкасць, апынуўшыся ў ролі экскурсанта сярод гэтых засяроджаных, напружаных, мокрых ад поту і балотнай вады такелажнікаў, машыністаў, кранаўшчыкоў, зваршчыкаў.

— Ну, інтэрв'ю, я думаю, браць не будзем, — нібы зразумеўшы мае пачуцці, сказаў Барыс. — Плець зварваюць... А пра хлопцаў я вам сёе-тое раскажу. Вунь у трубаўкладчыку Блажэнка сядзіць, Жора. Пяць зім на Поўначы! Гэта разумець трэба... А вунь, пад трубой, — Андрэенка, Сцяпан Сцяпанавіч! — Мы ўбачылі рослага, з галавы да ног запырсканага граззю чалавека, які ляжаў на спіне, апусціўшы забрала свайго нязграбнага шлема. — Ён тут трынаццаць гадоў. Адчуваеце? Добры спецыяліст па зварцы. Самая тонкая справа!.. Два разы на Вялікую зямлю ад'язджаў. А ўсё сюды вяртаецца. Цягне, кажа, не магу...

І ў гэтым месцы я хачу забегчы крыху наперад. Добра, што мае нататкі не прэтэндуюць на храналагічную стройнасць.

Пытанне аб тым, для чаго людзі едуць сюды, у Запаляр'е, чым прывáблівае іх гэты мокры, халодны, мала абжыты край, такі шчодры на цяжкасці і нягоды, — пытанне зусім не дарэмнае. І не простае. Памятаецца, на трэці ці чацвёрты дзень падарожжа ў прасторнай кабіне верталёта «Мі-6», які сціпла стаяў у чарзе на запраўку паміж аранжавай «татрай» і зялёным гусенічным транспарцёрам, я выпадкова пачуў такую размову.

— Ну, скажы па-праўдзе, чаго сюды прыехаў?

— А чаго ўтойваць? Па машыну! Я пяцьсот у месяц атрымліваю, жонка — трыста... Вось і набяжыць.

— А я за пенсіяй, — уступіў у размову пажылы бортмеханік. Палярныя ідуць. Гэта не жартачкі.

— Ды ну вас усіх! Заладзілі: машына, пенсія... — З цюка на падлозе жвава падняўся хмуры каржакаваты мужчына ў замасленай куртцы і шэрых ад гразі гумавых батфортах. — Канечне, грошы ёсць грошы. Але жыць, бачу, вы потым збіраецеся... І дарма! Жыць трэба! Ча-ла-ве-кам быць!.. А інакш загнешся. Гэта правільна. І што пасля цябе застанецца? Ашчадная кніжка?..

У гэты час падышла наша чарга запраўляцца. Магутны рухавік верталёта загрукатаў, і размова спынілася сама сабой.

А я ўсё думаў пра апошнія словы выпадковага спадарожніка ў гумавых батфортах. І ў памяці зноў усплыў Харп, і цёмны, быццам прадублены марозам твар прараба Аляксея Мацвеевіча Фёдарцава, з якім пазнаёміў мяне Барыс Кушко. Познім вечарам (між іншым, пра які вечар можа ісці гаворка, калі ў ліпені тут светла ўсе дваццаць чатыры гадзіны!) мы сядзелі ў маленькай, зусім сучаснай кавярні і слухалі, як рыжая паварыха Галя — па сумяшчальніцтву салістка самадзейнага джаза — нягучна спявае:

**«...Север — друг большой,**
**он мой суровый друг,**
**Ну, юг —**
**он только девушка моя».**

Аляксей Мацвеевіч у такт ківаў галавой, напэўна, думаючы пра нешта сваё.

— Та-ак, Поўнач... — задумліва сказаў ён, нібы не адважваючыся пачаць размову.

— Вы даўно тут? — прыйшоў я на дапамогу.

— Тут — не вельмі. Шэсць гадоў і тры месяцы. — Аляксей Мацвеевіч паправіў гальштук — прывычкі да яго, як відаць, не было. — А да гэтага — адзінаццаць гадоў у Забайкаллі. А да яго — па поўначы. Такі ўжо лёс. Будаўнік!.. У Нерчынску ДРЭС будаваў, у Днепрадзяржынску, у Вольнагорску. Там мне і кватэру далі, жонка пільнуе... Праўдзівей, жонка зараз сюды прыехала. Выманьваць мяне, — Фёдарцаў нявесела ўсміхнуўся. — Кажа: «Звар'яцеў, стары. На якую трасцу табе гэты Харп?.. Б'ешся тут, б'ешся, а ніхто і дзякуй не скажа...»

Аляксей Мацвеевіч узняў на мяне свае выцвілыя блакітныя вочы і працягваў зусім ціха, амаль шэптам:

— А я не за дзякуй. Разумееш? І не за рубель — бог з ім, з рублём! Памяць па сабе пакінуць хачу... Вось і кавярню гэтую, і дамы, і школу... Хачу, каб людзі дабром паміналі.

Фёдарцаў зноў паправіў гальштук, які было збіўся ўбок, і раптам рыўком тузануў уніз вузел, нібы ён перашкаджаў выгаварыцца да канца.

— Труба — гэта, канечне, галоўнае. Але ж усё жыццё ў балках не пражывеш! Вось і будуемся. На вечнай мерзлаце. Ведаеш, чаго тут кожны дом каштуе, асабліва зімой? А засялім — душа радуецца. Вось толькі Пятроўна мая нічога гэтага не разумее...

...Не, зусім інакш, чым паўсутак назад, глядзеў я цяпер на мокрыя дахі Харпа... Прамільгнулі прамавугольнікі распачатых дамоў — я нібыта пачуў працяг споведзі старога прараба (на развітанне ён, запінаючыся і блытаючы словы, спрабаваў чытаць мне вершы Купалы — аказалася, што маці яго, Кацярына Сямёнаўна, родам з-пад Гомеля); вось з зялёнай мешаніны, здавалася, вынырнула гнуткае цела трубы — і адразу ж быццам глянулі на мяне жвавыя, хітраватыя вочы Барыса Кушко, я ўбачыў цяжкія ўчэпістыя рукі Сцяпана Тарасенкі і звараны ім шоў, трываласць якога правяраюць рэнтгенам...

(Заканчэнне на 10—11-й стар.).


Цюменскі пейзаж.

ГАСТРОЛЬНАЕ ЛЕТА

# СМАЛЕНСКІ ТЭАТР—У МІНСКУ

ГЭТЫ КАЛЕКТЫЎ мае добрую рэпутацыю. Тры гады назад мінчане мелі магчымасць пераканацца, што тэатр у Смаленску сапраўды багаты на таленты, здольны цікава і змястоўна раскрываць драматургічныя творы і класікі, і сучасных аўтараў. Сёлета трупа выступае ў абноўленым складзе, іншай стала і рэжысура. З ранейшага рэпертуару на гэты раз смаляне паказваюць толькі адзін спектакль—«Горскую трагедыю» («Майстры») Р. Стаянава. Глядач ахвотна наведвае тэатр, пры гэтым адзначаючы ў яго дзейнасці і поспехі, і пралікі творчага парадку.

**«Публіка павінна ЖАДАЦЬ убачыць добры спектакль. І яна ўбачыць яго, калі ЗАХОЧА. Спектакль складаецца не толькі з акцёраў, але і з публікі»,— гэтыя словы пра ўзаемаадносіны артыстаў і глядзельнай залы належаць акцёру складанай і дапытлівай думкі Міхаілу Чэхаву. Словы, відаць, справядлівыя. І ўсё ж тэатр павінен даць падставы, каб глядач здолеў убачыць тое, чаго так жадае.**

Смаленскі дзяржаўны драматычны тэатр прапанаваў мінчанам афішу разнастайную. Сучаснік, праблемы нашых дзён — у ліку першых турбот тэатра. Вырашэнне гэтых праблем ідзе ў плане маральна-этычным: чалавечая годнасць, выпрабаванне характару ва ўмовах як быццам будзённых, трываласць чалавечых адносін і складанасць іх, няпростая матываванасць паводзін чалавека і над усім гэтым — імкненне да маральнай чысціні і адмаўленне ад пошласці, асабліва ў тых выпадках, калі яна настойліва маскіруецца пад прыстойнасць і дабрачыннасць.



Заслужаны артыст РСФСР Сяргей Чарэднікаў і артыст Канстанцін Маскоўскіх у Літаратурным музеі Янкі Купалы.

Фота Ул. КРУКА.

...Не сёння ўбачылі святло рампы героі розаўскай п'есы «У добры час», але кожны год тая ці іншая сям'я сутыкаецца з праблемай, узнятай Розавым,— нехта павінен упершыню сам абраць шлях у жыццё. Першы крок вызначае асноўны напрамак: будзе чалавек шукаць нейкія чорныя ходы ці цвёрда адстойваць права на ўласную годнасць. Пра вартасці і недахопы самой п'есы гаварылася многа і прафесійна, відавочна адно—гледачы ўспрымаюць радасці і хваляванні розаўскіх хлапчукоў як нешта вельмі сваё, блізкае (рэжысёр спектакля М. Назарава). Прыехаў Аляксей паступаць у сельскагаспадарчую акадэмію. Не ведае, што робіць, яго брат Андрэй. Нахабна ўпэўнены ў сваіх будучых салонна-дыпламатычных поспехах Вадзім Развалаў. На ўсё гэта ажыўлена рэагуе зала, як і на мітуслівыя турботы занепакоенай Анастасіі Яфрэмаўны, што гатова ўпіхнуць сына ў любы інстытут, каб аблегчыць яму жыццёвую дарогу.

**Ды як інакш такі спектакль успрымаць! Для многіх у зале гэта сённяшні клопат — стаіць месяц жнівень. Як заварожаная, глядзіць на сцэну Лена Анісімава. Дзяўчына носіць зараз той жа нядоўгавечны «тытул», што і героі спектакля, — абітурыентка. Сёння раніцой пісала сачыненне. Прыхільна ставіцца да спектакля выкладчыца Інстытута народнай гаспадаркі Ганна Прытула і госця з Тарнопаля Святлана Літвінюк. Вельмі задаволены і малады слесар-зборшчык Мінскага аўтамабільнага завода Яўген Лукашэвіч — ён з цікавасцю ўспрымае адлюстраванае на сцэне жыццё сваіх сучаснікаў і равеснікаў.**

**Але глядзельная зала — неаднолькавы, стракаты арганізм. У аграпнома Зінаіды Парфёнавай уражанне ад спектакля не такое адназначнае. П'есу яна добра ведае, глядзіць не ўпершыню. Ёй здаецца, што акцёры А. Кавалёў, Н. Каконін, Е. Бычкова, Н. Назараў, К. Маскоўскіх не вельмі старанна адбіраюць сцэнічныя сродкі для ўвасаблення вобразаў сваіх герояў: таму і ненатуральнасць, таму і штучная шумлівасць. Але што падабаецца ў спектаклі — ясна высветлены пратэст супраць прыстасаванцтва і спажывецкіх адносін да жыцця.**

Своеасаблівы працяг размовы пра сённяшнюю моладзь — спектакль «Валянцін і Валянціна» па п'есе М. Рошчына. Цікавасць да гэтага твора выклікана яшчэ і тым, што смаляне першымі іграюць п'есу ў Мінску. На нашу думку, рэжысёр А. Шчогалеў празмерна даверыўся вонкава-будзённаму характару падзей і праблем, закранутых М. Рошчыным. Тэатр усяляк падкрэслівае, што перад намі—зусім звычайная штодзённая гісторыя кахання дзяўчыны і хлопца, якім «перашкаджаюць» залішне асцярожныя маткі. Спектакль іграецца так, што ўсё зводзіцца да... адсутнасці свайго даху над галавой у закаханых. Але ж твор пра светлае, усеперамагальнае каханне, некаторыя крытыкі нават лічаць п'есу сучаснай версіяй «Рамэо і Джульеты». Калі яшчэ пра артыстку Н. Шуцяеву можна сказаць, што яна адчувае ў студэнтцы Валянціне сэрца Джульеты, то ніякіх Мантэкі і Капулеці з яе маці (Г. Завістоўская) і з маці Валянціна (Л. Січкарова) не атрымалася. Дэманстратыўна прыземленыя, падкрэслена бытавыя, пасрэдныя натуры — яны займаюцца мяшчанскімі «дыспутамі» на тэму, рана ці своечасова кахаць у васемнаццаць гадоў і ці мае права на руку дзяўчыны з інтэлігентнай сям'і сын вагоннай правадніцы...

**Так, з тэксту п'есы можна ўзяць і такі пласт адлюстраванага ў ёй жыцця. Але гэта азначае затрымацца на паверхні сюжэтных перыпетый. І глядзельная зала непасрэдна рэагуе на паказанае ў спектаклі толькі таму, што ў яго героях мы пазнаем суседзяў, таварышаў па службе, сваіх блізкіх. Першае знаёмства з п'есай «Валянцін і Валянціна» аказалася бяднейшым па ўражаннях, чым чакалася ад гэтага драматургічнага твора.**

...«Цар Фёдар Іаанавіч» — спектакль складаны, бо на рускай сцэне ёсць трывалыя традыцыі выканання і галоўнай ролі, і ўсяго комплексу ідэй, звязаных з разуменнем «моцнай» і «добрай» улады. Першнаперш мастацкая яснасць такой пастаноўкі залежыць, зразумела, ад выканаўцы ролі цара Фёдара, самага, відаць, «слабога» з усіх нашчадкаў Грознага. Артыст В. Макараў стварыў запамінальны вобраз героя: добры яго Фёдар і адзінокі, бяссільны, ён часам і «выбухае» па-грознаму. Улада для яго — цяжар, які ён вымушан несці: без асалоды, без упэўненасці ў тым, што здолее быць вартым свайго лёсу «чалавека на троне». Шкада, што ў яго маналогах і ў дуэтных сцэнах з Гадуновым і Шуйскім залішне многа «холаду». Акцёр нібы не зусім дакладна ведае, як жа на самой справе ставіцца да гэтых «дарадчыкаў» жывы, а не «тэатразнаўчы» цар Фёдар, вымаўляе словы з выпадковымі інтанацыямі і эмацыянальнай афарбоўкай. Прынамсі, нам так падалося, калі мы глядзелі прэм'еру спектакля ў Мінску.

**Не зусім трывалая падтрымка выканаўцу ролі цара Фёдара — і ігра М. Аляксандрава (Барыс Гадуноў) і А. Юкляеўскага (Іван Шуйскі), якія прытрымліваюцца знаёмых абрысаў гэтых вобразаў. Першы — пераважна злавесны інтрыган, прэтэндэнт на трон, і гэта паказвае ўсімі сваімі сцэнічнымі паводзінамі. Атрымліваецца, што Гадуноў не толькі «раскусіў» Фёдара і па-свойму клапоціцца пра ўладу на Русі, а яшчэ і зусім не маскіруе карыслівыя намеры заняць месца цара. А Шуйскі ў смалян толькі горка перажывае, што побач з такім Фёдарам апынуўся такі Гадуноў, і напышліва дэкламуе маналогі, адрасаваныя не так слухачам у царскіх палатах, як гледачам спектакля. У ансамбль такая манера ігры не зліваецца... Застаецца ўражанне, што рэжысёр Л. Шчаглоў «расставіў» фігуры трагедыі ў адпаведнасці са сваёй задумай, але яны пакуль што дзейнічаюць па-за агульным пафасам твора А. К. Талстога, пафасам, які сам тэатр вызначае словамі: «мара аб злучэнні дзяржаўнасці і чалавечнасці».**

Гледачам беларускай сталіцы падабаецца ў смалян імкненне так будаваць рэпертуар, каб спектаклі маглі абуджаць у публіцы змястоўны роздум і непасрэдныя хваляванні.

Зразумела, гэта часта бывае на гастролях — тэатр сёння іграе горш, заўтра лепш. Адчуваецца ў смалян часам і «разлік» на заваяванне шырокай аўдыторыі: артысты «націскаюць», каб насмяшыць залу, фарсіруюць гук, спрабуюць расчуліць гледача. Але агульная плынь творчых шуканняў трупы выклікае ў мінчан павагу і ўдзячнасць да тэатра.

**Ала СЯМЁНАВА.**

# ЗЗЯННЕ ПОЎНАЧЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 9-й стар.)

Блакітнаватыя агеньчыкі на трасе то ўспыхвалі, то патухалі, і нават велізарныя абвалы чорна-шэрых хмар не маглі пагасіць іх.

Ззянне Поўначы... У гэта імгненне я зразумеў, чаму газаправодчыкі назвалі менавіта так.

## ЦІ ЗВЫЧАЙНАЯ «НЕЗВЫЧАЙНАЯ СПРАВА»!

Калі гаворка ідзе аб трыльёнах кубаметраў, рэальныя ўяўленні зусім знікаюць, і адзінае, што ўтрымліваецца ў свядомасці, — гэта, бадай, лічбы з вялікай колькасцю нулёў, ад якіх стракаціць у вачах. Ну, сотня тысяч, ну, мільён — гэта яшчэ сюды-туды. Але трыльён!..

А вось для галоўнага тэхнолага газапрамысловага ўпраўлення «Надымгаз» Георгія Леанідавіча Дзіядзімава гэта фантастычная лічба (1,5 трыльёна кубічных метраў!) аказалася, так сказаць, «рабочай». Бо менавіта такі газавы залеж (добрае і вельмі дакладнае для гэтых месц слова!) распрацоўваюць у Мядзведжым.

Таму калі Георгій Леанідавіч — поўны ружовашчокі здаравяк у капелюшы, заліхвацкі заламаным на патыліцы, — сказаў, што ад верталётнай пляцоўкі да газазборнага пункта ўсяго трыста-чатырыста метраў, нам, ужо вельмі стомленым ляталь і ездзіць, захацелася прайсці пешкі.

Георгій Леанідавіч, усміхнуўшыся, згадзіўся з нашай просьбай. Сэнс яго ўсмешкі мы зразумелі, зрабіўшы ўсяго некалькі крокаў. Цвёрдай зямлі не было. Жорсткі ягель спружыніў пад нагамі, пырскаючы ржавай вадой. Тундра заставалася тундрай. І, вядома ж, хутка давялося ўлезці ў транспарцёр («Асваенне Поўначы—гэта пераадоленне прасторы!») і ўжо на ім ехаць да карпусоў газазборнага пункта, якія непадалёк віднеліся. Не, якіх-небудзь асаблівых пачуццяў гэта зямля, якая захоўвае найбагацейшыя скарбы, зусім не выклікала!..

І тут мне хочацца зрабіць невялікае адступленне.

Нашы галовы набіты стэрэатыпамі. Калі нам, напрыклад, гавораць: газавае месцанараджэнне (ды яшчэ адкрытае параўнальна нядаўна), у нашай свядомасці зараз жа ўзнікаюць барадатыя геолагі, якія бясконца ідуць па таежных багнах і ўвалах, потым лес (не менш!) вышак, ну, і, зразумела, бурлівы метан, які вырываецца аднекуль з неверагоднай глыбіні...

Усё гэта паасобку і разам сустракаецца тут. Але гэта — толькі галіна першаадкрывання, якой звычайна абмяжоўваюцца нашы ўяўленні. Галіна, можа, найбольш рамантычная і кінагенічная (у Салехардзе нам нават паказалі выдатна зняты дакументальны фільм пра гэта), аднак яна толькі пачатак, самы пачатак страшэнна цяжкай работы, якая ў канчатковым выніку зводзіцца да таго, што знойдзены, здабыты і ачышчаны газ трапляе ў трубу магістральнага газаправода.

Гэта работа называецца прамысловым асваеннем.

— Яна, можа, не такая эфектная, —Георгій Леанідавіч на момант перапыніў сваю паспешлівую скорагаворку, шукаючы адпаведнае слова, — не такая «кідкая», ці што, як, скажам, у разведчыкаў. Але, паверце: любое адкрыццё толькі тады і можна па-сапраўднаму паставіць, так сказаць, на баланс, калі прыходзім мы, прамысловікі...

Транспарцёр ужо даставіў нашу групу да самага газазборнага пункта, і галоўны тэхнолаг з гордасцю паказваў свае ўладанні.

— Вы ўжо, напэўна, стаміліся ад лічбаў, — на круглым усмешлівым твары Георгія Леанідавіча было напісана шчырае спачуванне. — Я не буду злоўжываць імі. Але некаторыя, —тут наш гід шматзначна ўзняў палец, — некаторыя, далібог, заслугоўваюць... Ну, напрыклад, вось гэта...

Мы падышлі да не вельмі шырокай трубы.

— ...Два з палавінай мільёны кубаметраў. У суткі!.. — Дзіядзімаў пастукаў нагой па круглай паверхні.— Гэта — шлейф. А свідравіна побач, якіх-небудзь паўтара кіламетры напрасткі. — Ён весела паглядзеў на нас: маўляў, ці не жадаеце схадзіць? —а потым дабрадушна махнуўшы рукой, працягваў: — Зараз газ даюць чатыры свідравіны. Усяго іх будзе дванаццаць. Трыццаць мільёнаў кубаметраў у суткі!.. Больш палавіны газу, які патрэбны Маскве зімой... І гэта — улічыце! — дасць толькі адзін газазборны пункт. А такіх пабудуем дзесяць...

Цяжка сказаць, што робіць найбольшае ўражанне ў гэтым пункце, які можна смела назваць заводам, нават камбінатам, дзе збіраюць, ачышчаюць і асушваюць прыродны газ, перш чым пусціць яго ў далёкі шлях па Пунгу і далей — на Паўднёвы Урал. Відаць, інжынер або проста чалавек, блізка знаёмы з тэхнікай, мог бы лепш ацаніць гэта ўнікальнае збудаванне (дакладней, комплекс збудаванняў), туга набітае самай разнастайнай сучаснай машынерыяй. Што датычыць мяне, то я з няўтойным здзіўленнем глядзеў на цыклапічна велізарныя сепаратары і кампрэсары: на рэзервуары, што свяціліся серабранкай, аплеценыя густой сеткай вялікіх і малых труб і правадоў, на «зімовыя» пераходныя галерэі, па сценах якіх, як у метро, праходзілі дзесяткі кабельных ліній, назіраў, як узгоднена, дакладна і амаль бязгучна працуюць шматлікія механізмы, якія кіруюць складаным і няспынным вытворчым працэсам, прыслухоўваўся да тугога прыглушанага гулу, які даносіўся з прасторнага, падобнага на ангар цэха адсорбцыі і, шчыра захапляючыся гэтым, чамусьці не мог прымусіць сябе слухаць скорагаворку Георгія Леанідавіча, які зноў шчодра сыпаў лічбамі і тэхнічнымі тэрмінамі.

Праўда, адна лічба аднойчы вырвалася з агульнай чаргі, і, не будучы такой ужо велізарнай (куды там да трыльёнаў!), усё-такі ўзрушыла маё ўяўленне. Сем тысяч тон... Гэта — вага абсталявання газазборнага пункта. Што ж, дзе-небудзь у іншым месцы яна хутчэй за ўсё не выклікала б ніякіх эмоцый. Але тут...

Я міжволі зірнуў у акно з магутнай двайной рамай. Мокрая, попельна-шэрая тундра, рэдкалессе, крывы альхач ды ўчэпісты сланік, ды нязменны скрыпень, які лілавее на балоце... І яшчэ — жалезабетонныя пліты на ўнутраных дарожках пункта, якія спаўзаюць у глыбокія кюветы (слабы, намоклы грунт не ўтрымаў іх на сабе).

Як жа ўсё-такі ўмудрыліся даставіць сюды гэтыя самыя сем тысяч тон?.. Вядома ж, па «зімніках»—дарогах, пракладзеных у скаванай марозам тундры, праз велізарныя снегавыя сумёты, пад шквальным ветрам, такім халодным і вострым, што, удыхаючы яго, здаецца, быццам глытаеш дробныя цвікі. І ўсё гэта — на санных паяздах, у апраметнай цемры, якую з цяжкасцю прабівалі сляпыя фары, залепленыя снегам, або,— калі справа датычыла асабліва каштоўнага электроннага абсталявання,— на верталётах.

Злёгку дакрануўся да ззяючай металічнай паверхні пульта, і амаль фізічна адчуў пранізлівы зімовы холад...

Але хто ж яны, хто — гэтыя вадзіцелі трактараў і транспарцёраў, з густа зарослымі, пачарнелымі ад марозу тварамі, гэтыя грузчыкі, такелажнікі, суправаджальнікі, гэтыя будаўнікі, мантажнікі, інжынеры, рознарабочыя, якія са студзеня па красавік гэтага года (менш чым за чатыры месяцы!) даставілі, устанавілі, зманціравалі ў запалярнай тундры

# ВІЦЕБСК, ОРША...

Упершыню ў горадзе над Дзвіной з 10 жніўня гастралюе Ленінградскі Малы драматычны тэатр на чале з галоўным рэжысёрам Юрыем Іванавічам Ермаковым. Госці прывезлі ў Беларусь шэсць спектакляў. Гледачы цёпла сустракаюць прадстаўнікоў мастацтва вялікага рускага народа.

Праўда, добрая артыстычная трупа прапануе віцяблянам пераважна так званыя «касавыя спектаклі». Сярод іх: «Уходзяць жанчыны» М. Гіндзіна і Г. Рабкіна, «Жанаты жаніх» А. Кузняцова і Г. Штайна, «Дзіўная асоба» В. Канстанцінава і Б. Рацэра, «Дзённік жанчыны» К. Фіна. Сапраўды багатыя па змесце і выкананні толькі два спектаклі па класічных творах — «Таленты і прыхільнікі» А. Астроўскага і «Здані» Г. Ібсена.

Самі па сабе ўсе пастаноўкі яркія, але сабраныя разам у такім суквецці пакідаюць уражанне не на карысць гасцей. Але гэта арганізацыйны бок гастроляў. Мабыць, ленінградцы рашылі гарачым летам даць «аблегчаны» рэпертуар...

●

4 жніўня спектаклем «Маскоўскія канікулы» А. Кузняцова пачаліся гастролі Петразаводскага дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Карэльскай АССР. Галоўны рэжысёр тэатра І. Штокбант. Госці выступаюць адначасова ў Смаленску і ў Оршы.

— У рэпертуарнай афішы гасцей, — расказвае В. Мачульская, дырэктар парку імя Ленінскага камсамола, у летнім тэатры якога выступаюць артысты з братняй Карэліі, — шэсць спектакляў: «Валянцін і Валянціна» М. Рошчына, «Квадратура круга» В. Катаева, «Маскоўскія канікулы» А. Кузняцова, «Панна Малічэўская» Г. Запольскай і два спектаклі Ж. Ануя — «Медэя» і «Баль зладзеяў».

Аршанцы з цікавасцю глядзяць спектаклі тэатра з Петразаводска, які ўпершыню прыехаў у Беларусь.

Хацелася б, каб наш індустрыяльны горад часцей наведвалі майстры мастацтва. Сёлета ў Оршы з канцэртамі выступалі сёстры Фёдаравы, ансамбль «Гуніб», які пазнаёміў аршанцаў з песнямі Дагестана, група артыстаў Ленінградскага цырка. З нецярплівасцю чакаем у нашым горадзе мінскіх майстроў сцэны. Яны, на жаль, рэдкія госці аршанцаў.



Кадр з кінафільма. Адольф Быкоўскі — заслужаны артыст БССР Аўгуст Мілаванаў (злева), Сцяпан Крыніцкі — заслужаны артыст РСФСР Барыс Новікаў.



Народная артыстка БССР Галіна Макарава ў ролі Альжбеты.

*Новы каляровы мастацкі фільм «Паўлінка» здымаецца на кінастудыі «Беларусьфільм». Ставіць яго рэжысёр Юрый Цвяткоў, аператар Марат Браўдэ. Сцэнарыст — Андрэй Макаёнак. У новай карціне заняты вядучыя артысты маскоўскіх і мінскіх тэатраў.*



Рабочы момант здымкі.

Фота У. ЛУПЕЙКІ. (БЕЛТА).

ўвесь гэты дзівосны комплекс, пачынаючы са сцен і канчаючы адчувальнай электронікай?

Георгій Леанідавіч збянтэжана развёў рукамі.

— Ці бачыце, у мяне няма пад рукою дадзеных... Вы пацікаўцеся ў будаўнікоў. Гэта па іх частцы. Там кожны чалавек на ўліку... А зараз я хацеў бы звярнуць вашу ўвагу...

Прызнацца, у першы момант мне зрабілася неяк няёмка. Будаўніцтва пункта закончылася зусім нядаўна. А інжынер-кіраўнік, які прымаў удзел у гэтай вельмі цяжкай рабоце, не можа па памяці назваць нават проста некалькі прозвішчаў, не гаворачы ўжо аб чымсьці іншым. Захоплены тэхнічнымі праблемамі, ён нібы наогул не надае гэтаму асаблівага значэння. Круглы твар яго мне здаўся не такім дабрадушным, як раней, а скорагаворка, перасыпаная спецыяльнымі тэрмінамі, пачала проста раздражняць.

«Тэхнар!.. Вузкі спецыяліст!.. Няўжо ён не разумее?..»

А, аказваецца, сяго-таго не разумеў я. Але гэта стала зразумела крыху пазней, у славутым Урэнгоі, калі адкрыты і да рэзкасці прамы Васіль Ціханавіч Падшыбякін, адзін з адкрывальнікаў гэтага найвялікшага месцанараджэння, загаварыў аб тым, з якім «замілаваннем і ілжывам пафасам» (гэта яго словы!) пішуць іншы раз пра паўночнікаў. «Мы—самыя звычайныя людзі, — развіваў ён далей сваю думку. — І ўмовы, у якіх працуем, — звычайныя... Для нас, канечне! А тут шукаюць толькі выключнае, толькі незвычайнае. І ўзносяць да нябёс тое, што для нас — норма, быт. Мы не заўважаем, а яны ўзносяць, і папракаюць яшчэ, што не заўважаем...».

Катэгарычнае, у многім спрэчнае меркаванне. Але ж выказаў яго чалавек, які аддаў Поўначы большую частку свайго свядомага жыцця. Як жа мог я не прыслухацца да яго слоў?

Пасля гэтай размовы я не тое, каб цалкам апраўдаў Георгія Леанідавіча, але крыху інакш — прасцей, больш рэалістычна, без павышаных эмоцый — глянуў на наш дыялог.

Звычайная справа? Не ведаю... Мне, напрыклад, усё гэта ўяўлялася далёка не звычайным. Але, можа, ім, хто жыве і працуе ў Запаляр'і, больш відаць? Можа, сама «звычайнасць», будзённасць іх жыцця стварае тут неперадавальную рабочую атмасферу, пры якой нават узвядзенне вялікага сучаснага комплексу сярод першабытнай багны — факт, калі не адзінкавы, дык ва ўсякім выпадку не незвычайны. («Пацікаўцеся ў будаўнікоў... Яны вядуць улік...»). Гэта потым пацвердзілі мне людзі, якія самі ўдзельнічалі ў будаўніцтве пункта. Ну, скажам, такі аўтарытэтны тут чалавек, як Віктар Дзмітрыевіч Сцепаненка, які стаў загадчыкам промыслу.

Не, на тутэйшыя пытанні не варта шукаць простых і адназначных пытанняў. Інакш можна трапіць у няёмкае становішча.

...А між тым месца, куды прывёў нас Георгій Леанідавіч, і на самай справе заслугоўвала вялікай увагі. Яшчэ калі мы ішлі па цэхах і галерэях, здзіўляла і крыху бянтэжыла поўнае бязлюддзе, якое панавала там. Усе маніпуляцыі з газам, які цячэ сюды са свідравін, адбываліся без дапамогі чалавечых рук.

Між іншым, не зусім так. У прасторнай зале, куды мы, нарэшце, трапілі, я ўбачыў маленькія прыгожыя рукі, якія кіравалі ўсімі механізмамі і хімічнымі рэакцыямі, без ніякага напружання ўтаймоўвалі сотні атмасфер, адным націскам пальца ўвадзілі і выводзілі з трубаправодаў дзесяткі тысяч кубаметраў газу.

Гэта былі рукі інжынера-дыспетчара Зінаіды Міхайлаўны Саракаумавай, мілай шэравокай жанчыны, якая ў модным зручным касцюме сядзела на рухомым крэсле ля светлых панеляў з мноствам кнопак і рычажкоў. Шырокім паўкругам ахаплівалі яе вялікія і малыя табло, на якіх злёгку ўздрыгвалі стрэлкі вымяральных прыбораў, мільгалі рознакаляровыя лямпачкі, а ў зашклёных акенцах цягнуліся бясконцыя стужкі з крывымі, зразумелымі толькі ёй адной.

— Вось яна, гаспадыня Мядзведжага! — з некаторай урачыстасцю сказаў Георгій Леанідавіч.

«Гаспадыня» ўзняла на нас свае шэрыя вочы і, злёгку хітнуўшы галавой, зноў паглыбілася ў работу. Я заўважыў, што на вузкім століку перад ёю побач са складанымі схемамі і журналамі, спісанымі бісерным почыркам, ляжыць томік Экзюпеpы.

Таямніца «бязлюддзя» раскрылася. На комплексе, апрача дыспетчара, працавала ўсяго восем чалавек! Астатняе рабіла аўтаматыка і электроніка, якімі кіравала маленькая жанчына з сумнымі вачыма. Работу яе аблягчала вялікая мадэль прадпрыемства, якая дзейнічала сінхронна з усёй апаратурай (тварэнне выдатных ленінградскіх майстроў!). Гледзячы на гэту мадэль са складаным перапляценнем шматколерных труб, правадоў і механізмаў, я яшчэ раз падумаў пра тых, хто будаваў гэта, і шчыра пашкадаваў, што амаль знікла старая традыцыя — высякаць на мармуровых дошках імёны архітэктараў і будаўнікоў...

Я аглядзеў пакоі адпачынку, якія б зрабілі гонар многім нашым гасцініцам (драўляныя панэлі, лямпы дзённага святла, радыёпрыёмнікі «Эстонія», халадзільнікі).

Калі раней каля такіх прадпрыемстваў, як, скажам, газазборны пункт у Мядзведжым, адразу ж будавалі пасёлкі з баракамі і часовымі дамамі, дык цяпер вакол іх нічога не будуюць: вельмі неўладкаваным, беспритульным і, безумоўна, часовым было жыццё ў гэтых пасёлках. Цяпер усе зразумелі: так жыць нельга! Гэта дрэнна перш за ўсё для чалавека і не менш дрэнна — для справы.

Цяпер, напрыклад, Зіна і яе таварышы-эксплуатацыйнікі (а разам з імі буравікі і геолагаразведчыкі гэтага раёна) жывуць у больш-менш добраўпарадкаваным пасёлку Пангода. Сюды, у Мядзведжае, рабочая змена вылятае на дзесяць—дванаццаць сутак на вахту.

А на поўдзень ад Пангоды—там, дзе і клімат мякчэйшы, і прырода больш ласкавая, і сувязь лепшая,—закладваюцца і будуюцца капітальныя вахтавыя пасёлкі і базавыя гарадкі з сучаснымі дамамі, клубамі і кінатэатрамі, спартыўнымі заламі і школамі. Там людзі будуць жыць пастаянна, не адчуваючы адарванасці ад Вялікай зямлі, не сумуючы па шырокіх чалавечых зносінах, будуць жыць доўга, не лічачы месяцаў да канца дагаворнага тэрміну.

Газавікі і будаўнікі яшчэ спрачаюцца, ці правільна размешчаны гэтыя гарадкі, выказваюць розныя—часам проста процілеглыя — думкі пра характар іх будаўніцтва, пра шляхі і метады. Але гэта — тэма спецыяльнай размовы. Я ўспамінаю прасветленыя вочы інжынера Зіны і думаю, што новы — вахтавы — спосаб асваення Поўначы тут трывала ўкараніўся.

●

Гэта — толькі першыя старонкі майго «паўночнага» дзённіка. Не ўсе ўражанні і сустрэчы (улічваючы імклівы тэмп нашай паездкі) засталіся ў памяці, не ўсё яшчэ «адстаялася словам»... Але працяг запісак — справа будучага. А зараз мне хочацца сказаць, што не толькі пісьменнікі «адкрывалі» Поўнач, але і северане «адкрывалі» для сябе пісьменнікаў, бліжэй знаёміліся з імі, чула слухалі вершы і прозу, нешта прымалі, нешта не прымалі, а, не згаджаючыся, усхвалявана спрачаліся — з такой праматой і шчырасцю, якія, папраўдзе кажучы, не заўсёды пачуеш на Вялікай зямлі. І яшчэ — з вялікай зацікаўленасцю ў тым, каб літаратары павезлі з сабой не толькі беглыя дарожныя ўражанні...

І на вялікіх літаратурных вечарах у Цюмені і Табольску, дзе ў згодным хоры гучалі галасы паэтаў і пісьменнікаў, якія прадстаўлялі ледзь не ўсе народы нашай Айчыны, і ў маленькіх цесных клубах рабочых пасёлкаў, і ў вагончыках ля буравых—усюды адчувалі мы вялікае чалавечае цяпло, глыбокую, шчырую ўвагу, уменне разабрацца ў тым, што ёсць сапраўдная паэзія.

Помніцца, у пасёлку Тарка-Сале да нас падышла невысокая пажылая жанчына — Зінаіда Іванаўна Лебедзева. Яна падала вырваны са сшытка лісток паперы з вершамі: «Вось... Усю ноч пісала...».

Там былі такія радкі: «Спасибо вам от северян, от сердца вам спасибо...».

Ці трэба гаварыць, як усхвалявалі яны нас?

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ — ЗВАНОК

*НАПЯРЭДАДНІ НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА*



Фотаэцюд А. САНЧУКА.

У КАЛІДОРАХ і аўдыторыях інстытутаў — ціішыня. Рэдкая госця! Яна прыйшла сюды на кароткі час паміж поўнымі турбот, радасці і расчараванняў уступнымі экзаменамі і святочным днём першага верасня, калі яе зноў прагоняць маладыя галасы. А пакуль што педагогі могуць падвесці вынікі экзаменаў, падлічыць здабыткі, асэнсаваць памылкі.

Жнівень — пара жніва, пара адбору насення для новага ўраджаю... Ці добра выяўлены зерні таленту? Як стварыць для іх у будучым найлепшую глебу? Пра гэта — думкі кіраўнікоў навучальных устаноў, што рыхтуюць работнікаў культуры і мастацтва.

На пытанні нашага карэспандэнта адказваюць:

**Ул. АЛОЎНІКАЎ,**
**рэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага.**

— Пачну з таго, што радуе. 27 віяланчэлістаў і скрыпачоў прынялі мы на аддзяленне аркестравых інструментаў. Патрэба ў музыкантах гэтай спецыяльнасці ў нашай рэспубліцы вялікая. Добрых выхаванцаў рэкамендавалі Магілёўскае і Маладзечанскае музычныя вучылішчы. Звярнулі на сябе ўвагу на прыёмных экзаменах віяланчэлісты С. Драбкін з Наваполацка і І. Сцяпанава з Магілёва. Дарэчы, юнакі і дзяўчаты з Наваполацка паступаюць да нас у кансерваторыю ўпершыню. Маладое вучылішча маладога горада зрабіла свой першы выпуск.

Задаволены мы піяністамі і баяністамі. Па гэтых спецыяльнасцях быў вялікі конкурс, і мы маглі адабраць лепшых. Абнадзейвае і набор на вакальнае аддзяленне. Прынялі, праўда, толькі восем чалавек, але затое патрабаванні былі вельмі высокія: улічваліся дыяпазон, сіла і прыгажосць голасу, музычнасць, сцэнічная знешнасць і г. д. Асаблівае задавальненне выклікала выхаванка Маладзечанскага вучылішча Г. Баян.

Значна горш справа з харавымі дырыжорамі. З 99 чалавек, выпушчаных па гэтай спецыяльнасці беларускімі музычнымі вучылішчамі, толькі 25 былі рэкамендаваны ў кансерваторыю. Конкурсу не было, таму мы ўзялі ўсіх, хто здаў экзамены хаця б на «тройкі». На жаль, і гэта здолелі зрабіць не ўсе. З дзевяці «двоек», атрыманых на ўступных экзаменах па музычна-тэарэтычных дысцыплінах, чатыры належаць гамяльчанам і тры — выпускнікам Мінскага музычнага вучылішча.

Дрэнна працуюць вучылішчы і па выяўленні кампазітарскіх здольнасцей у студэнтаў. Таму мы заўсёды адчуваем цяжкасці з наборам на аддзяленне кампазіцыі.

Зноў, як і ў мінулыя гады, не было конкурсу на аддзяленне духавых інструментаў. Наогул не паступалі да нас фагатысты і валтарністы. Тут цяжка ўстрымацца ад папроку кіраўнікам Цэнтральнай музычнай школы, якая не дала нам ніводнага «духавіка». А менавіта ж гэтая навучальная ўстанова павінна забяспечваць кансерваторыю выпускнікамі розных спецыяльнасцей, у сваёй рабоце арыентуючыся на нашы патрэбы. Не атрымалі мы адтуль і цымбалістаў. Наогул сёлета мы змаглі ўзяць толькі трох цымбалістаў, з іх двое — з «тройкамі» па спецыяльнасці. Невысокі ўзровень падрыхтоўкі і ў музыказнаўцаў.

Сярод сёлетніх абітурыентаў 35 мелі дыпломы выдатнікаў, выдадзеныя вучылішчамі рэспублікі. Як вядома, уладальнікі такіх дыпломаў, здаўшы на «пяцёрку» спецыяльныя экзамены, вызваляюцца ад астатніх. На жаль, ніводзін выдатнік не пацвердзіў свой дыплом! Але гэта яшчэ паўбяды. Калі ж такі «выдатнік» на першым жа экзамене па спецыяльнасці атрымлівае «двойку» — становішча пачынае трывожыць усур'ёз: якімі крытэрыямі кіраваліся педагогі, ставячы свайму выхаванцу самыя высокія балы? Такіх правалаў на ўступных экзаменах было аж чатыры: С. Вышнікава з Гродна, Л. Паўлава з Магілёва, Л. Фёдарава і С. Клімук з Брэста.

Магчыма, я замнога ўвагі ўдзяліў недахопам у рабоце музычных вучылішчаў і Цэнтральнай музычнай школы. Але думаю, пра іх варта сказаць для карысці нашай агульнай справы. Увогуле ж сярод 200 чалавек, якіх мы прынялі сёлета, ёсць нямала безумоўна здольных, добра падрыхтаваных маладых людзей, з якіх выйдуць выдатныя кваліфікаваныя музыканты...

Мне і маім калегам ясна, што мастацкім навучальным установам не адпавядае палажэнне, калі на ўступных экзаменах усё вырашае сярэдні бал. Зразумела, гутарка ідзе не пра тое, каб прыніжаць значэнне агульнаадукацыйных дысцыплін, не лічыцца з ведамі, скажам, па літаратуры ці гісторыі. Але пры бясспрэчнай адоранасці чалавека варта было б пакінуць за кіраўніцтвам кансерваторыі права аддаць яму перавагу перад музыкантам з сярэднімі здольнасцямі, калі нават той выдатна здаў астатнія прадметы.

**С. ЛАКІШЫК,**
**прарэктар Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.**

— Нашу навучальную ўстанову можна смела назваць поліінстытутам, бо ён рыхтуе работнікаў культуры і мастацтва 19-ці спецыяльнасцей: акцёраў драматычных тэатраў, рэжысёраў самадзейных драматычных калектываў, графікаў, скульптараў, мастакоў-дызайнераў і інш.

Сёлета мы прынялі на першы курс стацыянара 125 студэнтаў і 50 завочнікаў. Усяго ў гэтым годзе ў нас будзе вучыцца 850 студэнтаў. Значна павялічаны набор на аддзяленне прамысловага мастацтва, бо патрэба ў мастаках-дызайнерах у нашай рэспубліцы вялікая. У інстытут паступае многа заявак на спецыялістаў гэтага профілю ад фабрык, заводаў, розных навуковых і праектных устаноў. Пасля перапынку на завочнае аддзяленне прынята 15 будучых мастацтвазнаўцаў.

З першага верасня будуць працаваць дзве новыя кафедры: графікі і рэжысуры самадзейнага тэатра і культасветработы. Аб'яўляецца набор у аспірантуру.

Найбольшы конкурс быў на акцёрскі факультэт. Нічога не зробіш! Прафесія акцёра заўсёды была рамантычна-прыцягальнай для моладзі. Але многія дзесяцікласнікі, марачы пра поспех, кветкі, апладысменты, зусім не ўяўляюць сутнасці і сэнсу гэтай прафесіі. Каб адабраць сапраўды здольных, сур'ёзных абітурыентаў, выкладчыкі кафедры акцёрскага майстэрства на працягу навучальнага года выязджалі ў многія гарады рэспублікі. Яны прысутнічалі на аглядах-конкурсах чытальнікаў, глядзелі спектаклі народных тэатраў, збіралі моладзь і гутарылі з ёю пра прызванне і працу акцёра. Віцебск, Полацк, Гомель, Магілёў, Гродна, Бабруйск, Наваполацк, Баранавічы — далёка не поўны пералік гарадоў, дзе пабывалі нашы педагогі. Уяўленне аб праведзенай імі пошукавай рабоце можа даць такая лічба: прагледжана, праслухана і пракансультавана звыш 700 юнакоў і дзяўчат. Гэта і быў наш неафіцыйны першы тур.

Пры Дзяржаўным драматычным тэатры імя Якуба Коласа працаваў кансультацыйны пункт, рабоце якога многа ўвагі аддавалі галоўны рэжысёр тэатра С. Казіміроўскі і дацэнт нашага інстытута А. Бутакоў. Стварэнне такога пункта менавіта ў Віцебску тлумачыцца тым, што сёлетні першы курс праз чатыры гады вучобы мяркуецца цалкам уліць у артыстычны калектыў коласаўцаў.

Адметная рыса сёлетняга акцёрскага курса — колькасная перавага юнакоў над дзяўчатамі. Геаграфія набору вельмі шырокая. Напрыклад, А. Дудараў прыехаў з Наваполацка, М. Бойка — з вёскі Зарэчча на Міншчыне, В. Нікіценка — з Гомельшчыны (вёска Ручаёўка). Тое ж можна сказаць і не пра акцёраў: Ф. Янушкевіч з вёскі Ракаў Валожынскага раёна паступіў на аддзяленне жывапісу, А. Шыбека са Старобіна і М. Гулін з Салігорска — на аддзяленне скульптуры, на мастака-дызайнера будзе вучыцца Ф. Тулько з Іўеўскага раёна і г. д.

Нашым першакурснікам пашанцавала — у гэтым годзе асабліва многа робіцца для таго, каб стварыць яшчэ лепшыя ўмовы для іх вучобы. Расшыраецца галоўны корпус, надбудоўваецца пяты паверх. Мы вельмі ўдзячны мінскаму калектыву І будаўнічага трэста (упраўляючы А. Гламаздзін) V будаўнічага ўпраўлення (упраўляючы С. Валочынскі), які добра працуе на нашым аб'екце і абавязаўся да канца 1972 года здаць першую чаргу работ. Гэта значыць, у нас хутка будзе бібліятэка з чытальнай залай, майстэрні для скульптараў і спартыўная зала...

А ў недалёкім часе атрымаем зручныя майстэрні для графікаў, добра абсталяванае памяшканне вучэбнага тэатра з артыстычнымі пакоямі і рознымі падсобнымі памяшканнямі.

**Л. ГЕРЦЫКАЎ,**
**загадчык навучальнай часткі Мінскага мастацкага вучылішча імя А. К. Глебава.**

— Што новага прынясе нам 1972—73 навучальны год? Перш за ўсё, уводзіцца прадметнае навучанне. Раней было так: адзін педагог браў сабе групу навучэнцаў і выкладаў у ёй і жывапіс, і малюнак, і кампазіцыю. Цяпер гэтыя прадметы будуць выкладаць розныя мастакі. Думаецца, няма патрэбы тлумачыць, што гэта павінна павысіць узровень выкладання.

І яшчэ адна навіна — нашы выпускнікі з гэтага года будуць абараняць дыпломы непасрэдна на прадпрыемствах, ва ўстановах, школах. Будучы малады спецыяліст адразу здолее ацаніць практычную каштоўнасць сваёй працы.

Больш за ўсё навічкоў — на аддзяленні выкладчыкаў малявання і чарчэння для сярэдніх школ (60 чалавек). Акрамя таго, мы прынялі 30 мастакоў-афармiцеляў і 5 скульптараў-выканаўцаў. Прыемна адзначыць, што 60 працэнтаў нашых першакурснікаў — з «глыбінкі».

На жаль, далёка не ўсе гаспадарчыя праблемы ўдалося вырашыць. Мы па-ранейшаму жывем «у падсуседзях» — працуем у памяшканні політэхнікума. Цеснавата нам, не хапае майстэрняў.

Не маем мы і свайго інтэрната, хоць у нас вучыцца 350 чалавек. І тут мы «ў падсуседзях» — 48 месцаў у інтэрнаце будаўнічага тэхнікума. Там сваё начальства, свае парадкі. З планшэтам, падрамнікам ды эцюднікам у інтэрнат не пускаюць. А як без іх абысціся будучым мастакам?

Але ў якіх бы ўмовах ні даводзілася працаваць, настаўнік у мастацтве заўсёды аддасць усе свае веды і напал сваёй душы вучню, будзе весці яго да прафесійнай дасканаласці.

**К. КАЛІТОЎСКАЯ,**
**дырэктар Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча.**

— Сёлета мы прынялі 20 чалавек у клас класічнага танца (гэта 9—10-гадовыя дзеці) і 20 падлеткаў з васьмігадовай адукацыяй, з якіх мы будзем рыхтаваць кіраўнікоў самадзейных калектываў і артыстаў ансамбляў народнага танца.

Ну, якія экзамены ў малых? Глядзім, каб былі прыгожыя фігуркі, правяраем вываратнасць, музычнасць. Старэйшыя паказваюць тое, чаму навучыліся ў самадзейнасці, і, акрамя таго, здаюць экзамены па агульнаадукацыйных прадметах. Іх мы прымаем толькі з перыферыі, па рэкамендацыі абласных упраўленняў культуры. Гэтае аддзяленне з часам будзе пашырана.

«Літаратура і мастацтва» многа ўвагі сёлета ўдзяляла нашым праблемам, таму я рада паведаміць яе карэспандэнту, што справы нашы хутка абяцаюць значна палепшыцца. Да канца навучальнага года павінен быць закончаны новы корпус інтэрната кансерваторыі, і тады нам аддадуць будынак старога. Там многа зручных класных памяшканняў і тры балетныя залы. Калі надбудаваць яго і выкарыстаць арку па вуліцы Чычэрына, праблема памяшкання будзе цалкам вырашана.

Выдатныя творчыя адносіны склаліся ў нас з мастацкім кіраўніцтвам opернага тэатра. Вельмі ўважліва ставяцца да нашых патрэб галоўны балетмайстар тэатра А. Андрэеў і балетмайстар-рэпецітар Н. Стукалкіна.

Абяцаюць нам да канца года даць патрэбную колькасць месцаў у інтэрнаце кансерваторыі.

Усё гэта ў значнай ступені вырашыць і праблему перагрузкі нашых навучэнцаў, якая да гэтага часу стаяла вельмі востра.

**М. УСІКАЎ,**
**дырэктар Магілёўскага культасветвучылішча імя Н. К. Крупскай.**

— З першага верасня пачынаем працаваць па новым вучэбным плане, у якім больш часу адводзіцца вывучэнню грамадскіх і клуба-знаўчых дысцыплін. Выхаванцам вучылішча будуць выкладацца рэжысура клубных мерапрыемстваў і агітбрыгад, асновы працоўнага заканадаўства, этыка, педагогіка і асновы псіхалогіі, фізічная падрыхтоўка для харэографаў і рэжысёраў і інш. Замест дзяржаўнага экзамена па баяне для харавой, рэжысёрскай, аркестравай і харэаграфічнай груп уводзіцца дзяржаўны экзамен па спецыяльнасці.

Педагагічны склад вучылішча папоўніўся кваліфікаванымі выкладчыкамі. Каля 150 настаўнікаў і канцэртмайстраў — выпускнікоў кансерваторый, інстытутаў культуры, тэатральна-мастацкіх і педагагічных вну будуць перадаваць свае веды малодшым калегам.

Карыстаючыся выпадкам, хачу звярнуцца да рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва» з просьбай часцей і шырэй асвятляюць на старонках газеты работу сельскіх клубаў, прапагандаваць вопыт работы лепшых клубных работнікаў. Такія артыкулы вельмі дапамаглі б і нам, педагогам культасветвучылішчаў.

●

...Праз тыдзень — першы званок. Ён пакліча ў аўдыторыі і навічкоў, і тых, хто сёлета будзе рыхтавацца да абароны дыпломаў. Мабыць, і педагогі, і вучні назаўсёды запомняць, што яны пачыналі гэты навучальны год, адзначаючы знамянальную гістарычную дату — 50-годдзе ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Алесь ДЗЯТЛАЎ

# ВЫСОКАЕ НЕБА

АПАВЯДАННЕ



*На літаратурны конкурс «За бяспеку ў дарозе», аб'яўлены Міністэрствам унутраных спраў БССР, Саюзам пісьменнікаў БССР, Саюзам журналістаў БССР.*



ДАРОГА разрэзала зялёную густэчу лясоў, абвіла чорнай стужкай пагоркі, пакручаста выгнулася ў далінах. Грузавік то лёгка бяжыць па роўнядзі, то настырна, усёй шматтоннай махінай лезе на ўзвышша; лёгка, трохі прыцішыўшы матор, скочваецца ў нізіны і на роўнай дарозе зноў узвывае, мкне наперад. Ён рве ў шматкі вецер, уздымае на дарозе купкі зжоўклага лісця; яны ўзлятаюць над асфальтам, нібы чародка спалоханых вераб'ёў, якую секунду мкнуць за машынай, пасля напор ветру рэзка змятае іх на абочыну.

У люстэрку Аляксей бачыць зялёны борт машыны, прычэп і дарогу. Яна цячэ і цячэ, штоміг мяняючыся: то дрэвы чорнымі камлямі смешна выгнуліся і зніклі, то паваротак з палянкай, на якой адгароджана бярозавымі жэрдкамі лапіна бульбянішча, а то плыве і плыве лес, вецер рве на прычэпе брызент, якім укрыты груз. «Трэба будзе падцягнуць», — думае Аляксей.

Бяжыць і бяжыць насустрач стужка шашы. Яна то запавольвае свой бег, калі машына ўзбіраецца на пагорак, то зноў хутка раскручваецца. Аляксею часам здаецца, што грузавік стаіць нерухліва на гэтай вузкаватай цвёрдай стужцы, а яна круціцца і круціцца, і нясе кудысь і яго, і груз, і кабіну. Прыемна, што яму паслухмяная і машына, і магутная сіла, што заключана ў маторы, які недзе там, пад капотам, гудзе, вібрыруе, нібы хоча разарваць путы і вырвацца наповерх; і што ён адзін пасярод бясконцай дарогі, што прыдарожныя дрэвы кружацца, паварочваюцца вакол сябе, нібы любуючыся сабою, а потым раптоўна знікаюць, быццам хто шпурляе іх назад.

Любіць Аляксей хадзіць у міжгароднія рэйсы. Прыехаў, здаў груз, зноў загрузіўся і — у дарогу. Новыя мясціны, людзі, дарога. Не, Аляксей Карачун не можа без міжгародкі!

Аляксей дастаў цыгарэтку, прыкурыў. Дарога крута брала ўлева, уся хавалася за край калючага густога ельніку. Ён збавіў хуткасць, зрабіў паварот, і машына зноў ірванулася наперад.

Новы грузавік Аляксей атрымаў які месяц назад. А да гэтага ездзіў на старым латаным-пералатаным «газіку». З яго рухавічка ён ледзьве выціскаў якіх сорак кіламетраў. Хлопцы часам смяяліся з Аляксея, нязлосна кпілі: вось, маўляў, жытуха ў чалавека, увесь час загарае. А ён штодзень корпаўся ў сваёй ламачыне, і неяк умудраўся выціскаць з яе сваіх законных сорак кіламетраў. Калі паглядзець, то навошта яму больш у горадзе, хопіць і гэтых. Цярпеў гэтыя кпіны Аляксей, смяяўся разам з усімі, а адзін раз усё ж «пайшоў у разнос», як пасля жартавалі шафёры. Як успомніць той выпадак, дык і цяпер неяк не па сабе, хочацца таму Болту ў морду з'ездзіць.

Аднойчы корпаецца Аляксей у сваім «газоне», і раптам чуе:

— Эх ты, няўдаліца! Ганяеш ламачча! Хіба гэта аўтамабіль? Парахня гэта, от што я табе скажу. І кропка...

Грышка Болт стаіць побач і «заводзіць» Аляксея:

— Ну, прыкінь. Рамантуеш сам, ездзіш — да магазіна, што за вуглом, бутэлькі парожнія возіш. А грошай — кот наплакаў. І як цябе жонка ў пасцель пускае — мазутнага ды бензінавага? І навошта табе той трактар быў? Не цалаваўся б з ім, то цяпер ужо, канечне, гогалем бы ездзіў.

Грышка зарагатаў. А потым нечакана прапанаваў:

— Хочаш, закіну слова? Красуня мая ў прыёмнай, у самога сядзіць. Дадуць табе машыну — у міжгароднія пойдзеш. Там капейчына жывая. Магарыч твой, мая...

— Слухай, каціся адсюль к чарцям са сваёй красуняй. Без цябе сяду на машыну. Зразумеў, магарычнік?

Аляксей бразгануў ключом па буферы, саскочыў на зямлю.

— Чорт з табою, загарай, — сярдзіта буркнуў сабе пад нос Болт і пасунуўся ў гараж.

Можа і праўда, што не даюць яму новай машыны з-за той аварыі. Вунь Захаружын — праз два тыдні атрымаў новы грузавік, паслалі ў міжгародні рэйс. Але ж і другое: калі не даюць машыны, значыць — няма яе. Мо так і трэба. Бутэлькі ж таксама некаму трэба вазіць. А Грышка? Прывык на чужым карку ездзіць, выгаду шукаць. Вось жа неяк жыве чалавек, усё на гэтых самых блатах. Ну яго к чорту, гэтага Грышку!

Нядоўга пасля таго выпадку чакаў Аляксей новай машыны. Аднойчы ўвечары ён прытарабаніў сваю калымагу на базу, хацеў тармазы падцягнуць, як хтосьці гукнуў:

— Карачун, да начальства!

Вось тады і далі яму машыну — новенькі «ЗІЛ». Не машына, а цацка: хуткасць, камфорт. Што таму «газону» да яе...

Аляксей адарваўся ад дум. Шырокім капотам машына імкліва набягала на дарогу, матор працаваў роўна. Хутка будзе пасёлак Лясны, там звычайна шафёры спыняюцца і ідуць у сталоўку перакусіць. Далей, праз кіламетраў сто — горад.

У Лясным ён паабедаў, пакурыў на перапынку з такімі ж, як і сам, рэйсавікамі-шафёрамі, праверыў груз і зноў сеў у кабіну. Па яго разліках, паслязаўтра к вечару ён павінен быць дома. Аляксей з жонкай і сынам жыве ў новым мікраёне, у двухпакаёвай кааператыўнай кватэры. Толькі з якога паўгода выселіўся з барака, дзе жыло дваццаць восем сем'яў. Хадзіў, прасіў — казалі: чакай чаргі. А чарга тая год праз восем, не хутчэй павінна падысці. Ён і сам разумеў, што трэба чакаць. У яго хоць ёсць барак, а многія ж жывуць на прыватных кватэрах. Думаў, прыкідваў і так, і гэтак: не выходзіла яму доўга жыць у тым бараку. Ды і што гэта за жыццё: шум, грукат, цеснота. Сабраў капейчыну, маці кабанчыка на базар завезла, сёе-тое прадаў і ўступіў у кааператыў. Зразумела, не маліна тое: першы ўзнос немалы, а там плата, працэнты. Але ж затое ёсць свой куток.

Жаніўся ён нядаўна. Жонка там жа, у мікраёне, працуе на будоўлі...

Ён дагнаў цяжкі «МАЗ», уключыў левы падфарнік і пайшоў на абгон. У правае акно шыбануў рэзкі пах дыму; на якія секунды, пакуль машыны ішлі побач, у кабіну ўварваўся густы дызельны рэў. Левыя колы і машыны, і прычэпа з'ехалі з асфальту, узнялі воблака пылу. «Вузкаватая шаша для такіх машын, — падумаў Аляксей. — А што будзе, калі наробяць гэтых самых «Жыгулёў»? Тады хоць караул крычы. Вось бы сюды яшчэ адну такую асфальтаваную паласу. Тады ў самы б акурат было».

На дарозе мільганула цёмная фігурка жанчыны ў доўгім чорным паліто. Жанчына нясмела, як яму здалося, «прагаласавала». «Вазьму», — рашыў Аляксей. Ціскануў на педаль, прыняў управа і, не пытаючыся, куды ёй ехаць, адчыніў правыя дзверы. Жанчына борздзенька падбегла, заглянула знізу ў кабіну, папытала, ці можна садзіцца. Потым няўмела забралася ў кабіну, усцягнула за сабой хлопчыка год пяці-шасці. Аляксей перагнуўся праз іх, зачыніў дзверцы, папытаў, куды ехаць.

— Ды кіламетраў з пятнаццаць, вёска ля самenькай дарогі. Карзюкі. Мо чулі такую? — адказала жанчына.

«Карзюкі дык Карзюкі, — падумаў Аляксей. — Трэці раз еду, а такой не запомніў».

Ён не любіў гаварыць у дарозе з пасажырамі, якіх часам браў у кабіну. У яго свой занятак, работа. Жанчына сядзела прама, глядзела на дарогу, а малы ёрзаў на сядзенні, круціў галавою туды-сюды. Па адзенні Аляксей вызначыў, што жанчына — ці сельская настаўніца, ці які калгасны бухгалтар. Яна павярнулася да сына, сцішыла яго:

— Татку скажу, што не слухаешся.

Малы трохі прыціх, уставіўся ў бакавое акно.

«Татку скажу». Іншым разам Аляксей і не звярнуў бы ўвагі на гэтыя словы, а тут чамусьці развярэдзілі яны далёкае-далёкае. Ён не помніць свайго бацьку, ніколі не бачыў яго. Як пайшоў у сорак першым, то і не вярнуўся. Пасля вайны на матчына запытанне з Масквы прыйшла паперка: «Радавы... Нікіфар Сідаравіч Карачун прапаў без вестак у сорак другім пад Харкавам...»

Аляксей быў шостым у сям'і. Усе малыя, адзін за адным сыпаліся. Білася, гаравала маці адна: і вайну ўсю, і ў пасляваенную бясхлебіцу. Неяк выдужала. Дзеці выраслі, працуюць...

Ён уздыхнуў. «Жыццё — яно, як гэта дарога. З'едзеш крыху — пайшоў па купінах спатыкацца. Каму дык вязе: па жыцці, нібы вось па гэтай шашы, коціцца, аніякіх турбот. А іншы — дык па абочыне прадзіраецца». Аляксей зноў успомніў тую аварыю, з-за якой яго, можа, і не садзілі на новую машыну. Не-не ды і выпнецца яна. Не дае спакою. А ці ж ён вінаваты быў тады?..

Ля Карзюкоў ён спыніў машыну, жанчына падзякавала і выйшла. Ён з нейкай мімалётнай цікавасцю глянуў на вёску. На адным баку шашы, злева, стаіць магазін, направа — вуліца ўразаецца ў лес крышку наўскасяк ад дарогі. У канцы вёскі доўгая нізкаватая будыніна, ля яе ў рэдкім быльнягу стаіць культыватар, некалькі трактарных плугоў; тут, відаць, калгасны двор. Праз хвіліну вёска схаваецца з вачэй, знікне мо і з памяці, а для гэтай жанчыны яна і блізкая, і дарагая...

Зноў адлятаюць назад кіламетры, і зноў лезе ў галаву тая аварыя. Успомніў — і ніяк ад яе не ачомацца. Відаць, нейкая крыўдачка ўсё ж засталася, што і праз год вярэдзіць душу. І каб жа машыну разбіў, а то кузаў трохі пашчапала. Ды бутэлькі тыя звону нарабілі.

Вёз тады Аляксей поўны кузаў бутэлек. Пад'ехаў да люднага скрыжавання, спыніўся перад чырвоным агеньчыкам светафора. Дастаў цыгарэту, хацеў закурыць, як раптам нешта цяжкае ўдарыла ў задні борт машыны. Грузавік стаяў крышку наўскасяк, і яго бокам прасунула наперад. Нейкая сіла кінула Аляксея на руль, балюча выцяла грудзьмі. Ачомаўся крыху, выскачыў на асфальт. Уткнуўшыся пярэднім правым колам у борт, стаяў трактар. Радыятар у яго змяты, у кабіне ніводнага шкла. Два міліцыянеры выцягваюць з кабіны п'янага трактарыста.

Тады ён ледзь прыцёгся на аўтабазу. «Зрабіў аварыю — вось і рамантуй», — сказаў галоўны інжынер. Тыдзень пасля корпаўся Аляксей у машыне, пляваўся і лаяў на чым свет стаіць і начальства, і таго трактарыста, а машыну ўсё ж адрамантаваў. А пасля дакажы, што не вінаваты, што, можа, каб не яго «газон», то той трактар урэзаўся б у трамвай ці ў натоўп... Мо таму і балячка тая ў душы, як бы вінаваты перад кім. А Аляксею і не трэба нічога было. Скажы хто добрае слова — знікла б крыўда.

Наперадзе з-за лесу паказаўся высокі чырванаваты комін. Там, наперадзе, горад. Мільгануў рэдкі лясок, і адкрылася шырокае поле. У прыгарадзе, злева ад дарогі, будуецца агромністы камбінат. Новыя карпусы, жалезабетонныя каркасы, туды-сюды снуюць аўтамашыны, краны варочаюць доўгімі шыямі.

Вуліцы горада здаліся занадта шумнымі пасля пуставатай шашы. Прапятляўшы ў горадзе з паўгадзіны, грузавік вырваўся на вузкаватую асфальтаваную дарогу, абсаджаную паабапал дрэвамі. Яна ішла ўверх, да вялікага бетоннага моста праз раку. Ён ведаў, што за мостам будзе круты спуск: тут шаша была высока ўзнята над рачною поймай. Паабапал дарогі вузенькія, мо на метр, тратуарчыкі, а ля самага адхону — маладыя ліпкі. Кіламетры праз два пасля моста будзе паварот і амаль адразу пад'ём. Машына мінула мост, лёгка пайшла ўніз; Аляксей амаль што не ціснуў на педаль акселератара, але стрэлка спідометра паволі папаўзла да лічбы шэсцьдзесят.

Ён адчуў у душы нейкую лёгкасць. Ды за гэтай лёгкасцю, нібы ў тумане, ледзь-ледзь ліпела іншае пачуццё: спачатку ён пачуў непакой, потым нейкая трывожлівасць авалодала ім. «Проста, мабыць, стаміўся. Трэба будзе спыніцца, крышку ногі размяць», — падумаў Аляксей.

Ён дастаў пачак з цыгарэтамі, звычна, не адымаючы рукі ад руля, чыркнуў запалкай і зацягнуўся дымам...

А машына неслася ўніз. Ён высунуў галаву ў акно, глянуў назад. Цяпер, калі матор працаваў на малых абаротах, ён пачуў лёгкі шоргат шын. Наверсе дзесь лапацеў на ветры брызент.

Наперадзе ён заўважыў аўтобус. Яго шырокі кузаў імкліва набліжаўся, рос на вачах. Вось ужо Аляксей убачыў у заднім акне людзей, белыя лічбы нумара. Аўтобус ледзь цягнуўся, відаць, быў перагружаны.

Аляксей даў сігнал павароту і ледзь-ледзь падаў руль улева, каб бачыць дарогу, лёгенька націснуў на тормаз. І ў тую ж секунду пахаладзеў, у сярэдзіне як бы што абарвалася: педаль лёгка пайшла ўніз, кудысь праваліласяя. «Тормаз!» — імгненна пранеслася ў галаве. Яму здалося, што не грузавік, а аўтобус шалёна рынуўся на яго, і ўсё бліжэй, бліжэй яго шырокі, жоўты з чырвонай паласой кузаў. «Цяпер вазьму ўлева, абыду яго, а там, далей, роўная дарога, паварот і пад'ём. Там пагашу скорасць. Галоўнае — тут, тут...»

У яго не было часу думаць. Трэба было рабіць усё дакладна, хутка. Ён крута ўзяў улева, і тут раптам убачыў, як з-за павароту, якога ён чакаў, імкліва, адзін за адным, вырываліся фігуркі веласіпедыстаў. «Не, не паспею абагнаць». Ён нібы пачуў пад левым буферам трэск, нібы ўбачыў, як падаюць, курчацца гэтыя маленькія, кволыя фігуркі. «Не, трэба направа. Яшчэ ёсць секунда ў запасе, мо дзве».

Рука імгненна перакінула рычаг на нізкую перадачу. Як нешта далёкае-далёкае і непатрэбнае, мозг зафіксаваў трэск, скрыгат у маторы, і нейкая сіла пачала паволі цягнуць машыну назад. Але яна, тая сіла, была занадта слабай, каб спыніць шалёны бег. І ён рэзка кінуў гэтую цяжкую груду металу направа, да самага адхону. Аўтобус матлянуўся ўлева. «Цяпер руль яшчэ правей, яшчэ». Ён адчуваў, што аўтобус цяпер дзесьці злева ад яго, ля самага буфера. «Цяпер трымаць руль, трымаць, — скамандаваў сам сабе. — Каб не выбіла з рук».

Праз імгненне машыну рэзка ўдарыла, як бы яна на што натыкнулася. У яго ледзь не выскачыла з рук баранка. «Трымаць... Трымаць...» Пальцы пабялелі. Яшчэ ўдар, яшчэ... Гэта маладыя ліпкі, што растуць над самым абрывам. Шматтонным цяжарам грузавік трушчыць іх, нібы раз'юшаны звер, але ў гэтай барацьбе і сам траціць сілы, слабее.

А ён трымае руль з апошніх сіл. Машыну трасе, кідае то ў адзін бок, то ў другі. І тады, калі яму здалося, што абрыў скончыўся, пачаўся звычайны кювет, ён крутануў руль управа. У тую ж секунду яго падкінула на сядзенні, потым кінула наперад. Ён ударыўся аб штосьці галавою — і ўсё паплыло перад вачыма...

Праз дзесятак метраў спыніўся аўтобус. Бясшумна слізгануў міма ланцужок веласіпедыстаў...

Гэтага Аляксей ужо не бачыў. Людзі вынеслі яго з кабіны, акуратна паклалі на траву. Ён варухнуўся, адплюшчыў вочы і ўбачыў неба: яно было высокае і чыстае, адно на ўсіх.



НАШЫ *майстры* МАСТАЦТВА

# АКТЫЎНАСЦЬ ПОШУКУ ГЕРОЯ

Уладзімір Стальмашонак — мастак складаных і актыўных пошукаў, шырокага і шматграннага дыяпазону. Гледачы ведаюць яго не толькі як аўтара станковых карцін і партрэтаў. Ён яшчэ акварэліст, жывапісец-монументаліст, паспяхова працуе ў тэхніках зграфіта, мазаікі, вітражу.

Творчая біяграфія У. Стальмашонка пачала складвацца ў 50-я гады, у перыяд вучобы ў Вышэйшым мастацка-прамысловым вучылішчы імя Мухінай на аддзяленні мастацкай апрацоўкі дрэва (ці не тут узнікае ў мастака любоў да ўзорыстай выдзелкі карцінных рам?), затым у Ленінградскім мастацкім вучылішчы і, нарэшце, у інстытуце імя І. Я. Рэпіна, дзе пад кіраўніцтвам Б. Іагансона ён выканаў дыпломную карціну «Маладыя будаўнікі Мінска».

З гадамі жывапісец удасканальвае свой почырк, пераасэнсоўвае ўласны погляд на рэчы, з'явы, характары. Калі супаставім яго творы апошніх год з тымі, якімі ён пачынаў свой шлях, убачым, як вырасла майстэрства, да чаго прывялі стылістычныя пошукі, наколькі шырэй, свабодней стаў пэндзаль, як змянілася каларыстычная і кампазіцыйная структура палотнаў. Здаецца, сам час абвастрыў пачуццё мастака. Спачатку былі вобразы, заснаваныя на натурных замалёўках, якія маюць рэальных прататыпаў, сімпатычныя маладыя людзі, якія заўсёды побач з намі: карціны «Увечары»—пра камсамольскую моладзь грамадзянскай вайны, «Маладыя будаўнікі Мінска», «Пінскія механізатары», серыя партрэтаў рабочых і калгаснікаў Беларусі.

Менавіта гэтыя творы, магчыма, у чымсьці яшчэ не зусім сталыя, заявілі, што ў мастацтва У. Стальмашонак прыйшоў з тэмай, якую з поўным правам мог назваць сваёй. Гэта тэма юнацтва, бадзёрай і рамантычнай, азоранай першымі песнямі юнай Савецкай рэспублікі, гэта тэма маладосці, якая гучыць у сённяшнім працоўным поступе нашых сучаснікаў— рабочых і калгаснікаў, вучоных і паэтаў.

Партрэт Якуба Коласа, бадай,— квінтэсенцыя ўсіх папярэдніх пошукаў мастака ў жанры кампазіцыйнага партрэта. Для У. Стальмашонка ўвасабленне вобраза паэта—аналітычны працэс, які дае магчымасць як бы заглянуць у душу вялікага паэта і грамадзяніна. Мастак, глыбока асэнсаваўшы, здолеў па-новаму паказаць вобраз, дынаміка якога—у яго ўнутранай сабранасці, патэнцыяльна схаваным руху. Паэт узяты абагульнена, суцэльна і ў той жа час на дзіва проста. Але за гэтай прастатой глыбіня душэўнага ладу. Яна— у стрыманым вонкавым абліччы, напружанасці думкі вялікага паэта Беларусі і чалавека, які вельмі моцна звязан з зямлёй. «Яшчэ ў 1952 годзе я ўпершыню пачаў работу над партрэтам Коласа з натуры,—расказвае мастак. — Ужо тады я дзесьці падспудна адчуваў, што з Коласа немагчыма, нельга пісаць звычайны «натурны» партрэт. Не толькі таму, што часу ў яго было мала. Для мяне стала відавочнай выключнасць творчай натуры і асобы паэта і дзяржаўнага дзеяча. Яго мудрая паэзія, сакавітая проза патрабавалі, як мне здавалася, незвычайна вострай, вельмі нешматслоўнай, сучаснай мовы. Пасля працяглых пошукаў я прыйшоў да пэўнай задумы, якая і ўвасобілася ў партрэце, напісаным маслам і тэмперай у 1967 годзе. На гэты раз, у адрозненне ад іншых, больш ранніх варыянтаў, я з асаблівым стараннем дабіваўся лапідарнасці жывапіснай мовы, пластычнай і рытмічнай стрыманасці, псіхалагічнай перакананасці...»

Шмат спрэчак і дыскусій выклікала ў свой час карціна «ВХУТЭМАС. 1921 год». У аснову твора пакладзен вядомы гістарычны факт наведання ў лютым 1921 года У. І. Леніным і Н. К. Крупскай інтэрната гэтай вядомай навучальнай установы.

На фоне святочных пано, выкананых у футурыстычным духу, яркасць і сонечнасць якіх адпавядалі настрою тых гадоў, У. Стальмашонак паказаў групу маладых людзей з Леніным і Крупскай, якія быццам пазіруюць перад аб'ектывам фотаапарата. У карціне адчуваецца імкненне мастака да выразнага кампазіцыйнага і каларыстычнага рашэння, да паэтычнай метафарычнасці, жаданне па-новаму паказаць вобраз Ільіча—чалавека, гуманіста, чуллівага друга моладзі. Можна спрачацца аб якасцях карціны, знаходзіць у ёй асобныя недахопы, пагаджацца або не пагаджацца з вобразнай трактоўкай персанажаў, але адно несумненна: твор мае вартасці, якія дазваляюць аднесці яго да лепшых у мастака. Цэласнае манументальна-святочнае рашэнне гэтай карціны, яе прыўзняты, узвышаны лад добра выказваюць рамантыку часу, рамантыку ўсталявання новага ва ўсіх сферах жыцця. Мастакоўскі перажытая задума, ачышчаная ад жанрава-дробязнай апавядальнасці, ва ўвасабленні набыла тут светлую афарбоўку, значнасць, паэтычна-эмацыянальны тон. З гэтага твора пачалася своеасаблівая стылявая эвалюцыя У. Стальмашонка, прадоўжаная ў карціне «Свята ў камуне» і партрэце Р. Шырмы.

«Свята ў камуне» — плён працяглых пошукаў і роздуму мастака. У чымсьці пошукавая, эксперыментальная, гэтая карціна нараджае ясную, чыстую веру ў блізкую перамогу дабра і справядлівасці на абноўленай планеце, свет высакародных уяўленняў і добрых асацыяцый, выклікаючы ў памяці «Педагагічную паэму» і «Рэспубліку Шкід». Карціна — спроба мастака праз прызму асабістага ўспрымання перадаць святочную, амаль казачную атмасферу ў палескай сельгаскамуне 20-х гадоў. Тут разнастайны паэтычны свет вобразаў: і першы механізатар у брызентавай шапцы, і стары ў белай світцы з хлебам-соллю, і першыя ўдарнікі-камсамольцы, і камунар у будзёнаўцы, і хлопчык, які грае на жалейцы.

З гэтай карцінай у чымсьці пераклікаецца партрэт народнага артыста СССР Р. Шырмы. За знешняй статычнасцю і некаторай фармальнай скаванасцю чытаецца своеасаблівы духоўны свет чалавека вялікай творчай сілы, збіральніка жамчужын народнага меласу, які зазірнуў у бяздонныя крыніцы беларускай песнятворчасці, чалавека вельмі канкрэтнага, добрага, непаўторна індывідуальнага.

Своеасаблівым гімнам беларускаму народу можна назваць трыпціх «Сыны радзімы», у якім праз партрэтную канкрэтнасць лепшых людзей рэспублікі мастак паказаў велічную гераіку часу і высокамаральны ўнутраны лад душы нацыі.

У карціне «Народныя камісары БССР», бадай, упершыню ў беларускім жывапісе перад намі паўсталі, быццам вычаканеныя на манументе Рэвалюцыі, вобразы першых дзяржаўных дзеячоў — бальшавікоў Беларусі — Д. Жылуновіча, А. Мяснікова, В. Кнорына, І. Адамовіча, А. Чарвякова, насычаныя эпічнай значнасцю і высокім маральным азарэннем. Нягледзячы на адсутнасць сюжэтнай сітуацыі, група ўяўляецца як арганізаванае цэлае. Палатно пранізваюць адзіны гераіка-рамантычны настрой, музычна-рытмічная і жывапісная ўзаемасувязі фігур.

Пошукі манументальнай вобразнасці, імкненне знайсці новую форму жывапісных рашэнняў вызначаюць і творы У. Стальмашонка аб рабочым класе — карціны «Тэмір-Тау», «Плаўка дружбы. Металургі», «Партрэт ганаровага металурга Днепрапятроўскага электроднага завода А. Голубева». Героі гэтых палотнаў—людзі напружанай працы, звязаныя з цяжкай індустрыяй. Рукі іх дужыя, плечы шырокія да гіпербалы, чырванаватыя бліскаўкі агню — на тварах, на агрэгатах. Магутнасць чалавека і магутнасць агню — у гэтым адзінаборстве чалавек утаймоўвае метал. Нязграбнасць форм, водбліскі аранжава-чырвоных тонаў — быццам не фарба, а сама палаючая лава лягла на палатно.

Які ён у сваёй сутнасці, у сваёй годнасці і сумленнасці, у маральнай сіле, савецкі рабочы — вось што цікавіць у першую чаргу мастака. І ўнутраная спружына гэтых шуканняў — імкненне жывапісца да ўзмацнення эмацыянальнага напружання зместу твора, аўтарскіх адносін да аб'екта, да яго асэнсавання.

Праўда, часам мастак вельмі спрашчае адны жывапісныя прыёмы або дэталі і канкрэтызуе другія. Таму адно і тое ж палатно бывае ў яго стылістычна супярэчлівым. Але гэтыя натуральныя «выдаткі» творчых пошукаў, як правіла, «перамолваюцца» мастаком яшчэ да выхаду карціны з майстэрні.

Разгледзеўшы некалькі твораў мастака, бачна, што ўсе яны, на першы погляд, пазбаўлены вонкавага дзеяння. Такі ўжо ўлюбёны прыём У. Стальмашонка — паставіць сваіх герояў твар у твар з гледачом. І гэта — не схема. Бо пры адзінай аснове прыём у залежнасці ад задумы ўсякі раз аказваецца новым. Таму і напісаў мастак за апошнія пяць гадоў такія розныя па характары, па тэхнічных прыёмах жывапісныя творы, як «Партрэт народнага паэта БССР Я. Коласа» і «ВХУТЭМАС», «Успаміны» і «Налібоцкая пушча», «Тэмір-Тау» і «Рэвалюцыяй мабілізаваныя і прызваныя». «Партрэт старшыні калгаса «Чырвоны Кастрычнік» Гомельскай вобласці К. Гарулі» і «Партрэт Р. Шырмы», «Металургі. Плаўка дружбы» і «У. І. Ленін на станцыі Мінск. Ліпень 1900 год». Сапраўды — калейдаскоп прыёмаў, пошукаў! Сам аўтар гаворыць, што «не можа быць у мастака на ўсе выпадкі жыцця аднаго прыёму. Бо аб'екты адлюстравання заўсёды розныя. Якое будзе ўвасабленне гэтых аб'ектаў або з'яў, плоскаснае або аб'ёмнае, дэкаратыўна-каляровае або манахромнае, ці будзе ляжаць фарба вадка або фактурна, — усё залежыць ад таго, што мы паказваем. Пры гэтым мастак павінен заставацца ўнутры сябе суцэльнай з'явай, таму што гэта — асноўнае ў творчасці».

Барыс КРЭПАК.

# ДЫПЛОМ ЗА ШЭФСКУЮ РАБОТУ

Гомельскі абласны краязнаўчы музей атрымаў дыплом ад Міністэрства культуры СССР і ЦК прафсаюза рабочых сельскай гаспадаркі і нарыхтовак за поспехі ў шэфскай рабоце на вёсцы.

Калектыў музея наладзіў цыкл тэматычных вечароў пад дэвізам «Мой родны край», якія былі праведзены ў раёнах вобласці. Такіх вечароў адбылося 13.

Сёлета работнікі музея гэтую справу працягваюць. У раёнах і калгасах вобласці яны правялі вечары «У сям'і адзінай», прысвечаныя 50-годдзю ўтварэння СССР. У Чачэрску на гэтым вечары пабывалі ўдзельнікі семінара культасветработнікаў раёна. Вечары адбыліся ў Буда-Кашалёўскім, Гомельскім і іншых раёнах вобласці.

*З МІНУЛАГА*

# МАСТАК КЛЕВЕР НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

Імя рускага мастака-пейзажыста Юлія Клевера было папулярнае сярод аматараў жывапісу ў дарэвалюцыйнай Расіі. Яго работы часта экспанаваліся на выстаўках у многіх гарадах. Адна са старонак творчага жыцця мастака звязана з Віцебшчынай.

Вясной 1899 года Ю. Клевер пасяліўся ў маёнтку Амбросавічы былога Віцебскага павета, які належаў нейкаму А. Пероту. На Віцебшчыну Клевер прыехаў у творчую камандзіроўку, паставіўшы перад сабой мэту — паказаць прыроду аднаго з куткоў Беларусі, краю, які лічыўся раней «нежывапісным». Цяжка зараз сказаць, чаму менавіта Віцебшчыну выбраў мастак. Не выключана, што на яго зрабіў уплыў той факт, што ў гэтыя ж гады пад Віцебскам жыў І. Рэпін, які ў сваім маёнтку Здраўнева стварыў некалькі змястоўных пейзажных і партрэтных работ.

У Амбросавічах, дзе Ю. Клеверу і яго сям'і прадаставілі некалькі пакояў, мастак правёў амаль восем месяцаў. За гэты час ён стварыў больш 60 эцюдаў і карцін. Асноўным аб'ектам увагі мастака сталі перш за ўсё, канечне, самі Амбросавічы. Ён маляваў іх у розныя поры году — ранняй вясной, летам, увосень, у розныя часы дня — на досвітку, у поўдзень, надвячоркам. Апрача Амбросавічаў, Юлій Клевер пісаў эцюды ў суседніх вёсках Полцева і Гародня, у Полацкім павеце, у цудоўным старажытным парку Селют. Адна з работ мастака адлюстроўвала толькі што распачатае каля Віцебска будаўніцтва льнопрадзільнай фабрыкі «Дзвіна» (цяпер дывановы камбінат).

Значнае месца ў работах Клевера займае тэма будняў простых сялян. Гэтай тэме прысвечаны работы «Уборка бульбы», «Араты», «Бульба ў цвеце», «Уборка аўса».

Свае эцюды Клевер пісаў у асноўным у два — тры прыёмы, працуючы штодзень не менш васьмі гадзін. У дні творчага натхнення работа ішла хутчэй і іншы раз удавалася напісаць той ці іншы пейзаж у адзін прыём.

З відаў беларускай прыроды ў Амбросавічах Клевер напісаў: «Заход месяца», «Вечар на возеры», «Асенняя ноч», «Усход сонца», «Від на возера ранняй вясной», «Бэз» і многа іншых.

У лістападзе 1899 года, закончыўшы работу ў Амбросавічах, Клевер збіраўся паехаць у Пецярбург, аднак яго папрасілі прыняць удзел у мастацкай выстаўцы, арганізаванай у Віцебску мясцовым таварыствам апекі дзяцей.

Выстаўка адкрылася 10 лістапада ў памяшканні яхт-клуба. На ёй было прадстаўлена 170 карцін 40 мастакоў. Звыш 20 работ прадставіў у той час пачынаючы віцебскі мастак Ю. Пэн. 17 палотнаў належалі пэндзлю Н. Каля, некалькі карцін экспанаваў і 19-гадовы Ю. Клевер-сын. Сярод экспанатаў выстаўкі, якая выклікала велізарную ўвагу ў Віцебску, былі палотны Рэпіна, Саўрасава (аўтарскае паўтарэнне карціны «Гракі прыляцелі»), Крачкоўскага, Сокалава, Мяшчэрскага, Багалюбава. Але асноўнае месца на выстаўцы, натуральна, займалі беларускія эцюды Ю. Клевера.

А. ПАДЛІПСКІ.

Віцебск.

# БУРЖУАЗНАЯ «МАСАВАЯ КУЛЬТУРА» І ЯЕ ЗАГАНЫ

**Буржуазныя ідэолагі сцвярджаюць, што дзякуючы сродкам масавых камунікацый культура робіцца даступнай шырокім масам, а значыць яна становіцца раўназначнай у буржуазных і сацыялістычных краінах. Мы разумеем, што сучасная буржуазная культура з'яўляецца масавай толькі па ахопу сваім уплывам. Але па змесце яна—культура манапалістычнага капіталу. Раскажыце аб гэтым больш падрабязна.**

**Іван ГОЦМАН,**
**дырэктар Смалявіцкага раённага дома культуры.**

*Рэдакцыя атрымала яшчэ некалькі лістоў з просьбай расказаць пра так званую «масавую культуру» ў буржуазным грамадстве. Адказы на ўсе гэтыя пытанні можна знайсці ў кнізе Г. Давідзюка, В. Бабpoўскага «Праблемы «масавай культуры» і «масавых камунікацый», якая сёння рэцэнзуецца ў нашай газеце.*

Мы ЖЫВЕМ у век трыумфу чалавечай культуры. На нашых вачах адбываецца велічная навукова-тэхнічная рэвалюцыя. Тэхнічны прагрэс у паліграфічнай, кінематаграфічнай, радыё-тэлепрамысловасці выклікаў да жыцця новую форму вытворчасці і спажывання духоўных каштоўнасцей. Газеты, часопісы, кнігі, радыё, кіно, тэлевізары сталі здабыткам велізарных мас народа.

Буржуазныя сацыёлагі пад маркай таго, што сродкі масавых камунікацый — друк, радыё, тэлебачанне, кіно і інш. — шырока прымяняюцца ў сацыялістычных і капіталістычных краінах, захоўваюць аднолькавыя тэхналагічныя прыёмы падачы інфармацыі і выконваюць нібыта адны і тыя ж функцыі, атоесамліваюць буржуазную «масавую культуру» з культурай сацыялізму. Заслуга аўтараў кнігі «Праблемы «масавай культуры» і «масавых камунікацый» і заключаецца ў тым, што яны праводзяць рэзкую мяжу паміж масавай культурай у буржуазным і сацыялістычным грамадствах.

Сучасная буржуазная культура масавая толькі па ахопу сваім уплывам. Але па сваім змесце, падкрэсліваецца ў кнізе, гэта культура манапалістычнай буржуазіі, бо яна прасякнута ідэямі, норавамі менавіта гэтай сацыяльнай групы і мае на мэце ўвекавечыць старыя капіталістычныя парадкі. Паходжанне назвы «масавая культура» сапраўды звязана з тым, што сродкі масавых камунікацый — радыё, кіно, друк, тэлебачанне і інш. — сталі здабыткам шырокіх мас. Але гэта якраз і стала фатальным пунктам адліку, калі сродкі масавых камунікацый пачалі выкарыстоўвацца буржуазіяй для «сацыяльнага ўтаймавання мас», а культура для мас стала «масавай культурай», гэта значыць фальшывай культурай.

Буржуазная масавая культура — з'ява не зусім простая, каб ва ўсіх яе праявах можна было адразу распазнаць рэакцыйную сутнасць. Яна часта падробліваецца пад дэмакратызм, заігрывае з аб'ектыўнасцю, іншы раз дапускае тыражыраванне твораў сапраўднага мастацтва, выпускае кнігі некаторых класікаў у танных выданнях. Але падобныя выключэнні не ўплываюць на сутнасць «масавай культуры». Яны толькі часам робяць больш цяжкай правільную арыентацыю. У сувязі з гэтым рэцэнзуемая кніга асабліва важная. У ёй не толькі выкрываецца рэакцыйная сутнасць буржуазнай «масавай культуры» і прыёмы яе маскіроўкі, але і раскрываецца ленінскае разуменне масавасці і народнасці культуры.

Злавесная роля буржуазнай «масавай культуры» ў духоўным жыцці сучаснага буржуазнага грамадства заключаецца перш за ўсё ў тым, што яна ў шырокіх маштабах культывуе пасрэднасць, шэрасць, безаблічнасць, стандартнасць пачуццяў і думак. Аўтары справядліва заўважаюць, што ствараецца зачараванае кола — прадукцыя масавай культуры творыць спустошаную асобу, спустошаная асоба не можа ў сілу сваёй сацыяльнай сутнасці нічога спажываць, апрача «масавай культуры». Выхад з яго ў ломцы буржуазных сацыяльных адносін, якія нараджаюць як масавую культуру, так і адчужаную асобу капіталістычнага грамадства.

Магутны паток эстэтычна пасрэднай прадукцыі фармуе адметны шырока распаўсюджаны тып «культурнага» мешчаніна. Ён «знаёмы» з сусветнай літаратурай і модным мастацтвам, але своеасаблівая перанасычанасць «культурнай інфармацыяй» усыпляе патрэбу ў сапраўднай культуры, адводзіць яго ад сапраўднага духоўнага жыцця. Менавіта гэта асаблівасць буржуазнай «масавай культуры» садзейнічае духоўнаму збядненню, «расчалавечванню» чалавека.

Ідэолагі буржуазіі сцвярджаюць, што «масавая культура» дае тое, чаго жадае народ, і яна нібыта адпавядае абмежаваным эстэтычным густам яго. Што ж, ва ўяўленні эксплуататараў народ заўсёды быў «нішто». Яны і зараз сцвярджаюць, што просты люд «глухі» да ўспрыняцця высокамастацкіх каштоўнасцей. Але жыццё абвяргае бязглуздыя выдумкі лакеяў буржуазіі. Калі ва ўмовах буржуазнага грамадства працоўны народ і бывае «глухі», як яны кажуць, дык у гэтым вінаваты толькі эксплуататарскі лад. Маркс звыш ста гадоў назад пісаў, што ва ўмовах капіталістычнага грамадства «ўсё нібыта багата сваёй процілегласцю... машыны, якія валодаюць цудоўнай сілай скарачаць і рабіць больш плённай чалавечую працу, прыносяць людзям голад і пакуты. Новыя, да гэтага часу невядомыя крыніцы багацця дзякуючы нейкім дзіўным, незразумелым чарам ператвараюцца ў крыніцы галечы... Нават чыстае святло навукі не можа, відаць, ззяць інакш, як толькі на змрочным фоне невуцтва»*.

Буржуазія баіцца росту сацыяльнай актыўнасці мас, а таму яе «масавая культура» выконвае ролю «сацыяльнага ўтаймавальніка». Дасягаецца гэта з дапамогай самых вытанчаных форм апрацоўкі мас і разбэшчвання іх свядомасці. Буржуазія выкарыстоўвае бульварную літаратуру, коміксы, розныя «баевікі» і такія забавы, як бурлеск і стрыптыз, для таго, каб адцягнуць народ ад сацыяльных праблем, выхоўваць яго ў духу індывідуалізму, абуджаць у людзях найбольш нізкія інстынкты. Усе сродкі ідэйнага ўздзеяння накіраваны на тое, каб распальваць культ насілля, прываблівець вульгарнай парнаграфіяй і выхоўваць культ звышчалавека.

Асноўны змест кінапрадукцыі складаюць гангстэрскія, крымінальныя і фантастычныя фільмы «жахаў», сексуальныя меладрамы, прымітыўныя камедыі, банальныя музычныя карціны.

Пераважная частка кніжнай прадукцыі — гэта бяздумныя коміксы з нуднымі падрабязнасцямі. Паводле падлікаў саміх буржуазных сацыёлагаў на 1000 коміксаў даводзіцца звыш 1155 сцэн гвалту.

У капіталістычным грамадстве існуюць таксама і творы, разлічаныя ў асноўным на ўласнае спажыванне сытай буржуазнай вярхушкі. Штучна выбіраецца ўсё лепшае з сусветнай культуры, адрываецца ад народнай глебы і фальклорнай творчасці і аб'яўляецца прадуктам дзейнасці выбраных. Гэтым праследуецца адначасова злавесная сацыяльная задача: прынізіць значэнне народных мас у развіцці культуры і прадставіць буржуазію носьбітам культурнага і ўсяго духоўнага прагрэсу.

Асабліва выразна відаць адрыў ад народа, імкненне патураць густам буржуазіі ў выяўленчым мастацтве. Тут пераважае фармалізм, мадэрнісцкае трукацтва. Жаданне вылучыцца з народа выклікала анекдатычныя выпадкі «творчасці» абстракцыяністаў.

Пануючыя пазіцыі ў музыцы захапіла дадэкафонная школа, заснаваная не на гарманічных спалучэннях, а на штучнай схеме. Эксперыментаваннем займаюцца не толькі кампазітары, але і выканаўцы. У якасці «музычных» інструментаў выкарыстоўваюцца сірэны, адбойныя малаткі і да т. п.

Прадстаўнікоў «новага» нямала і ў галіне літаратуры і тэатра. Персанажы многіх пісьменнікаў — гэта зладзеі і п'яніцы. Адзін французскі часопіс вельмі правільна ацаніў духоўнае жыццё буржуазнага свету. Ён пісаў: «Пазбаўленая ведаў літаратура сёння стала літаратурай нязнання... Застаюцца пэўнымі толькі смерць таго, чым мы былі, убоства таго, што мы ёсць, і трывожная цікаўнасць да таго, што з'яўляецца на гарызонце нашага жыцця».

Да якога падзення сышоў буржуазны тэатр, можна меркаваць па з'яўленні так званага «тэатра абсурду». Філасофія тэатра простая: «свабода чалавека і свабода яго розуму — у неразумным». Ці гэта не доказ поўнай абсурднасці як філасофіі, так і драматургіі «абсурдзістаў»? «Тэатр абсурду», падмяняючы паказ рэальнай рэчаіснасці карцінамі ўсеагульнага распаду, выцясняе з літаратуры самае галоўнае — чалавека ў яго адносінах да навакольнага свету — і тым самым вядзе да разбурэння літаратурнай формы, да адмаўлення самой літаратуры.

Змест буржуазнай масавай культуры, каштоўнасці, якія ёю прапаведуюцца, духоўныя і культурныя ідэалы выступаюць нагляднымі сведкамі крызісу буржуазнай свядомасці, буржуазнай духоўнай культуры. Зніжэнне ўзроўню духоўных культурных каштоўнасцей, справядліва заключаюць аўтары кнігі,—вынік больш глыбокага сацыяльнага працэсу — крызісу ўсёй капіталістычнай сацыяльна-эканамічнай сістэмы.

**С. ЁШЫН,**
**в. а. дацэнта Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.**

Г. Давідзюк, В. Баброўскі. «Праблемы «масавай культуры» і «масавых камунікацый». Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1972.

К. Маркс і Ф. Энгельс. Творы, т. 12. стар. 4.

# 200 ТВОРАЎ УМЕЛЬЦА

У КВАТЭРЫ Мікалая Пятровіча Грышчанкі — быццам на мастацкай выстаўцы. Праўда, усе творы «экспазіцыі» выкананы тут адным чалавекам — гаспадаром кватэры.

Мікалай Пятровіч працуе ў тэхніках інтарсіі, выпальвання. Ён стварыў каля дзвюхсот кампазіцый. Глядзіш — і вочы разбягаюцца.

Тут — партрэт Уладзіміра Ільіча Леніна. Твар правадыра — на чырвоным фоне з 85 кавалкаў рознай драўніны: карэльская бяроза, арэшына, клён, ясень, бук і іншыя.

Тут — кампазіцыя «Зімовы лес», тут і звычайная шкатулка, але якая яна цікавая...

Калі ўглядаешся ў гэтыя творы, мімаволі задумваешся, колькі трэба цярплівасці, настойлівасці, умельства, каб зрабіць іх.

Майстар выканаў выпальваннем партрэты Горкага, Чэхава, Шаўчэнкі, Маякоўскага...

Сярод персанажаў яго партрэтаў — Герой Сацыялістычнай Працы бульдазерыст Сямён Міхайлавіч Місуноў, заслужаны будаўнік, ударнік камуністычнай працы, экскаватаршчык А. Маграшоў.

З-пад працавітых рук умельца выходзяць кампазіцыі «Салігорскі калійны камбінат», «Наваполацкі нафтаперапрацоўчы завод».

Вялікі аматар прыроды, Мікалай Пятровіч любіць адлюстроўваць краявіды Беларусі: Белавежскую пушчу, салігорскія далі... Не аднойчы яго работы паказваліся на выстаўках твораў народных умельцаў у Мінску. Партрэт украінскага кабзара Шаўчэнкі атрымаў высокую ацэнку на ўсесаюзнай выстаўцы ў Маскве.

Мікалай Пятровіч па прафесіі інжынер-будаўнік. Цяпер ён — на пенсіі.

...Неяк, яшчэ падлеткам, ён у 1924 годзе з Гараднянскага раёна Чарнігаўшчыны выпадкова трапіў у Маскву да сваяка — прафесара Івана Пятровіча Пшанічнага. Убачыў, як той выпальваў на дрэве. Прыглядзеўся хлопец, зацікавіўся не на жарт.

— А ну, паспрабуй! — прапанаваў сваяк.



Узяў Мікола гэта вогненнае «пяро». Задрыжалі рукі. Нясмела павёў «пяром» па фанернай дошчачцы. Управа-ўлева. Слухаецца «пяро».

Іван Пятровіч падарыў падлетку гэты нескладаны інструмент, з якім Мікалай Пятровіч не расстаецца і па сённяшні дзень.

А ў 1959 годзе, ужо маючы за плячыма больш пяцідзесяці год, Грышчанка паступае ў чатырохгадовыя вячэрнія класы па выяўленчым мастацтве пры Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце і заканчвае іх. Сваё майстэрства ён не трымае «пад спудам». Каля сотні супрацоўнікаў 2-га Будтрэста займаліся ў гуртках, якімі ён кіраваў.

Ганаровыя граматы, дыпломы— адзнакі яго перамог на выстаўках.

У яго — сапраўды залатыя рукі. Ён можа адрамантаваць любы музычны інструмент, валодае алоўкам, пэндзлем, сталярнымі прыладамі.

Прырода надарыла Мікалая Пятровіча тонкім слыхам, прывабным голасам, і ён удзельнічае ў хоры ветэранаў працы пры Палацы культуры прафсаюзаў.

**Г. ВІНАГРАДАЎ.**

ПА ТОЙ БОК

# БІЗНЕС НА ДЫПЛОМАХ

Вонкава дыплом выглядае зусім прыстойна. Зроблены золатам надпіс на яго вокладцы гаворыць, што яго прад'яўнік пан такі-та закончыў «Універсітэт Усходняй Фларыды» і атрымаў ступень магістра філасофіі. Гэта высокае званне завяраецца подпісамі кіраўніцтва універсітэта і пячаткай штата Фларыда. І ўсё ж дыплом —самая сапраўдная фальшыўка, як і сама ўстанова, што выдала яго. Справа ў тым, што «Універсітэт Усходняй Фларыды»—гэта не што іншае, як адна з так званых «фабрык дыпломаў», у задачы якіх уваходзіць не навучанне студэнтаў, а продаж дакументаў аб вышэйшай адукацыі.

Вышэйшая адукацыя ў ЗША стала ў апошні час даволі моднай. Аднак вучоба ў вну патрабуе многа часу і велізарных намаганняў. Дык ці не лепш без лішніх клопатаў і па сходнай цане купіць дакументы аб сканчэнні універсітэта, тым больш, што продаж дыпломаў арганізаваны прадпрымальнымі дзялкамі па ўсіх правілах амерыканскага бізнесу.

Фальшывыя дыпломы, праўда, не даюць ведаў. Але тым, хто іх купляе, яны практычна і не трэба. Гэта, як правіла, выхадцы з багатых сем'яў. Калі ім спатрэбяцца спецыялісты, дык іх заўсёды можна знайсці, асабліва зараз, калі сярод беспрацоўных так многа людзей з вышэйшай адукацыяй. Яны сапраўды закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы, заплацілі за гэта немалыя грошы, бо вучоба ў амерыканскіх вну платная і каштуе нямала. Дыпломы ж сынкам і дочкам багацеяў хутчэй патрэбны для прэстыжу, для таго, каб пры выпадку пусціць пыл у вочы навакольным.

Бывае, што «фабрыкай дыпломаў» кіруе адна сям'я. Так, напрыклад, дырэктарам «Універсітэта Хід» у горадзе Галівуд у штаце Фларыда з'яўляецца нехта Марвін Хірш. Яго бацька «служыць» намеснікам дырэктара, а брат Ранальд—сакратаром «універсітэта». Як паведамляе друк, бізнес на дакументах прыносіць ім немалыя барышы.

**Е. ЯГОРАЎ,**
**карэспандэнт ТАСС.**

Нью-Йорк.

# Вясёлая трасянка

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

**ДА ЧАГО Ж ЦЯПЕР** пераборлівы народ стаў, проста бяда. Кожнае лета наймаюся я ў гандлёвую сетку піражкі прадаваць. Маё пастаяннае месца на рагу той вуліцы, дзе знаходзяцца мэблевы, абутковы, галантарэйны і іншыя магазіны. Калі можа будзеце праходзіць дзесьці паблізу і пачуеце:

— Есць свежыя піражкі! Купляйце свежанькія піражочкі! — дык ведайце, што гэта я са сваімі кліентамі размаўляю.

Зранку першыя дзве гадзіны яны мяне і не чуюць, і не бачаць, нібыта




паглухлі і паслеплі: бягуць, імчацца...

— Ты куды?

— Кажуць, што будуць даваць індыйскія туфлі на кракадзілавай падэшве. Ты калі-небудзь насіла?

— Не.

— А якая ж ты няшчасная! Ты ведаеш, што гэта за штука? Днём і ноччу не скідала б з ног. Ужо і няма куды ісці, а табе ўсё хочацца, хочацца... На край свету пайшла б у тых туфлях...

— Есць свежыя піражкі!.. Купляйце свежанькія піражочкі!..

Ды куды там!.. Як гарохам аб сценку.

А тут, нага за нагу, плывуць два салідныя, манументальныя дзядзькі:

— Але ж і парадакі ў нас, скажу я табе... Паўтара месяца, як атрымаў новую кватэру, і ніяк абсталяваць не магу. Шукаю, разумееш, гэты польскі гарнітур... Як яго?.. Ядвіга... Веранiка...

— Ганка...

— Так, так, Ганка... Нідзе, разумееш, гэтай Ганкі не магу знайсці...

— А ў мяне кватэра абсталявана. Французскі ампір за дзве с палавою тысячы паставіў. Толькі вось на кухню штосьці нічога не трапляецца. Хачу румынскі гарнітурчык...

Гэтым я пра свае піражкі і не напамінаю. Ведаю, што не да іх зубоў наша проса.

Як раптам:

— Ты бачыла, якіх я дзесятак касынак дастала? Цэйлонскія. Дзяўчаты, як згледзяць іх, розум страцяць. Па рубельчыку на штуцы замалачу.

— А я, дурэпа, надоечы, за шафамі пратаўклася. Казалі, што будуць японскія... Адмысловыя... А прывезлі нашыя...

— Свежыя піражочкі, маладзічкі!..

— Ды ідзі ты са сваімі піражкамі!.. Вось, чулі?

Але гадзіны праз дзве, калі трохі прагаладаюцца ў чэргах за японскімі, цэйлонскімі, на кракадзілавых, чортавых і іншых падэшвах, пачынаюць і на мяне пазіраць.

Ды зноў жа — як?

— З чым вашы піражкі?

— З капустачкаю, галубка. Свежанькія, смачненькія, вось пакаштуйце...

— Фі, каб з мясам...

Так і раз, і два, і дзесяць, і сто разоў. Ды дзе ж я вазьму вам з мясам, калі сёння ў мяне тавар з капустаю.

І што вы думаеце? Паўкарзіны мусіў вечарам тарабаніць назад.

— Пячы мне на заўтра піражкі з мясам, — налятаю на кухара ледзь не з кулакамі, — бо інакш я... Не ведаю, што зраблю...

Ён і напёк. Што гэта былі за піражкі! Ні адзін на свеце кароль не еў такіх. Свежанькія, пульхненькія... Ну, проста самі ў рот просяцца.

І што ж? Прайшло дзве ці тры гадзіны, а яны, мае кліенты, не бачаць і не чуюць мяне. Паслепілі ці паглухлі? А потым — налятаюць і налятаюць...

— З чым піражкі?

— З мясам, з мясам,— кажу, а сам усміхаюся так шчасліва, усёроўна як выйграў на латарэйны білет за трыццаць капеек «Волгу».

— Фі!... — капыліць адна губу.— А я думала, з сырам...

— І я вось бы з сырам пакаштавала, — моршчыцца другая,— а з мясам не хачу...

Што ім сказаць? Га? Вось і паспрабуй угадаць, што каму сёння захочацца. Не, цяпер такія часы настаі, што кожнаму гандляру піражкамі трэба абавязкова мець электронна-вылічальную машыну. Вось каб тут стаяла карзіна, а тут — машына... А так паспрабуй падрахуй усе гэтыя хачу — не хачу, хачу — не хачу...

На наступны дзень я вынес з сырам. Няхай будзе так: ешце, папраўляйцеся, толькі дайце мне выканаць план, не рэжце пад саменькі корань маю зарплату.

Стаю на рагу вуліцы, на сваім месцы.

— Свежыя піражкі з сырам!..

Гукаю гадзіну, гукаю дзве. Чакаю, покуль маіх кліентаў перакусаюць восы, перастане джаліць крапіва, а ў магазінах парасправадаюць імпартныя гарнітуры, імпартныя кофтачкі, імпартныя чаравікі, шафы, касынкі...

Аж яно не! Ніхто да маёй карзіны з піражкамі і нос не паварочвае.

Бачу, план мой гарыць.

Што тут рабіць?..

Гляну ў на тавар—жах! Сонца смаліць, сыр плавіцца. Піражкі разбухаюць... З іх ужо капае...

— „Матка боска! — крычу я не сваім голасам, як калісь крычала мая бабуля, калі моцна злавала.

А міма якраз праходзіла адна з тых, што цэлымі днямі палююць за цэйлонскімі, японскімі...

— Што ў вас? — пытае.

— Імпартныя піражкі! — крычу ёй на ўсё горла, бо адчуваю, як злосць закіпае ва мне.— Імпартныя піражкі!..

— Ты чула? — гукае яна сяброўцы. — Імпартныя!

— Станавіся хутчэй, покуль яшчэ другія не дачуліся і чаргі няма,— камандуе тая.

І бачу, як ужо прымасцілася яна да мае карзіны і шырока раскрывае сумку.

За ёй стала сяброўка. За сяброўкаю — маладзіца з такою вось капою на галаве... За капою — яшчэ тры дзяўчыны ў мініспадніцах.

І навокал забурліла, загуло:

— Што даюць?

— Імпартныя піражкі!

— Хто крайні?

— Слухайце, вы там збоку не прымазвайцеся!

— Грамадзяніне! Грамадзяніне у капелюшы! Вы што тут—найлепшы ці, можа, з наменклатурных? Станьце хоць бы тут у чаргу!...

Я ўжо ведаю: ёсць пакупнік — варон не страляй. Не давай яму апамятацца.

І пайшло...

Адна падступілася да мяне, хітра прыжмурыўшы вочы:

— Слухайце, вы хоць скажыце: з чым вашы піражкі?

Бачу, што такую на мякіне не правядзеш, на імпартных таварах, мабыць, зубы з'ела.

Што ж ёй адказаць?!..

І ў гэты момант успомніўся мой стрыечны дзед — каваль. Ён калісьці прыбіваў коням падковы невялікімі цвікамі без плешак, што называюцца вухналямі. Лепшага слова, здалося мне, для гэтага выпадку і не прыдумаеш.

— Дык вы чуеце, — перапытвае тая хітрушчая-перахітрушчая кабета, — з чым вашы піражкі?

— З вухналямі, з вухналямі, галубка,— кажу ёй вельмі сур'ёзна і надта хутка, як ніколі.

Краёчкам вока заўважаю, як у яе штосьці перасмыкнулася на твары.

— Век пражыла,— паціснула плячыма, — а з вухналямі ніколі не ела... А ну, давай, пакаштую...

І хутчэй пабегла ў канец доўгага хваста, які працягнуўся ад мае карзіны ўсцяж вуліцы. А стаўшы, закрычала:

— Толькі ж вы там, прадавец, чуеце, больш трох у адны рукі не давайце!..

Пераклад з украінскай мовы.

З ЗАМЕЖНАГА ГУМАРУ




## ПУПЫШКІ

Георгій ЮРЧАНКА

І стала ўраз пупышка
Паданнем на зямлі.

Васіль МАТЭВУШАЎ.

**Хто любіць мёд, хто шышкі,**
**Хто хрэн, хто дзівасіл,**
**А я люблю пупышкі,**
**Люблю з апошніх сіл—**

**На здрыжлівай асінцы,**
**На ядраным клянку,**
**На гнуценькай лазінцы,**
**На крэпенькім дубку.**

**І буду пець пакрышку—**
**Паслухайце, сябры,—**
**Пра клейкія пупышкі**
**На голейцы ў бары.**

**Схаваліся ў зацішку**
**Ад злюкі-вецярка.**
**Пупышачкі-пупышкі,**
**Калысачкі лістка.**

Эхінопсіс ВУЛЬГАРЫС

## ТРОХНОГІЯ КОНІ

— Я тутэйшая...
Я звычайная.
. . . . . . . . . . . . . .
... Коні-дзівы
Праз мой парог —
Чатыры грывы,
Дванаццаць ног.
. . . . . . . . . . . . . .
Рвала вішні недаспелыя,
хваліла,
А салодкія, пунсовыя—
спяліла...

Д. БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА

**Не чапляйце німбы над галоўкаю,**
**Не такая ў вершах я і лоўкая.**
**Маладзіца я тутэйшая, звычайная,**
**Хоць кідаюся ў пісанне**
**звышадчаянна.**

**Ды не ўсё ж зялёнае, як кісліца,**
**кіслае!**

**Лічаць так зайздроснікі**
**ці інакш—завіснікі.**

**Праўда, ёсць паэты й большай**
**велічыні,**

**Ногі коней-дзіваў нават палічылі.**

**Мой Пегас трохногі — ну і што ж**
**такога!**

**Як няма, дзе купіш—лепшага,**
**другога!**

**Дык нашто ж залішне мяне**
**нашатырыць!**

**Я ж мо не кульгаю на ўсе чатыры!**

## П'ЯНЫ ПЕВЕНЬ

Андрэй ЛЕШЧАНКА

БАЙКА

**Сп'яна што робяць пеўні,**
**Вядома ўсім, напэўна.**
**Дык вось: аднойчы быў банкет,**
**Гульню спраўляў курыны свет.**
**І раптам — лаянка, пагрозы:**
**П'яны пятух кляваў цвярозых,**
**Пасля ў курыны гурт падаўся.**
**Гарэлкі, дурань, наглытаўся**
**І бушаваў, як люты звер.**
**Калі ж схапілі за каўнер —**
**Адразу страціў дух ваяцкі.**
**Суд пакараў яго грамадскі...**

**Да байкі просіцца мараль:**
**Гарэлкі пеўню не давай.**
**Калі ж сп'яна бяжыць ён прэч,**
**Гані нягодніка пад печ.**


По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 1950

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 32-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.